ЛіМ
Літаратура і мастацтва
ISSN 0024-4686
№ 5 (4651) 3 лютага 2012 г.

У нумары:



# «Радуюся кожнай новай кнізе!»

**Гаворка з першым намеснікам міністра інфармацыі нашай краіны Ліліяй Ананіч адбылася за некалькі дзён да XIX Міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Аднак пачала Лілія Станіславаўна не з гэтай падзеі, а з таго, што ёй папярэднічала...**

**Таццяна СІВЕЦ**

— У нашай краіне па ініцыятыве Прэзідэнта аб'яўлены Год кнігі. Гэта, лічу, вялікая адказнасць для ўсіх, хто працуе на ніве кнігавыдання, стварэння кнігі не толькі як матэрыяльнага носьбіта, але і духоўнай каштоўнасці. Таму ў 2012 годзе мы будзем прыгадваць тое лепшае, што маем, каб у час новых інфармацыйных тэхналогій не страціць духоўныя набыткі беларускай культуры. І тут вельмі шмат павінна быць зроблена ў рэчышчы прапаганды кнігі, чытання, і, напэўна, пачынаць трэба ў сям'і, а затым — у грамадстве, ва ўстановах, прычым не толькі ў профільных: што казаць бібліятэкам ды выдавецтвам пра гэту працу? Разам з тым, мы адчуваем сусветную тэндэнцыю зніжэння цікавасці да друкаванай кнігі — гэта таксама дзяржаўны клопат... Мы мусім памятаць пра амаль 500 гадоў беларускага кнігадрукавання. За гэты час беларусы ўнеслі вялікі ўклад у гісторыю кнігі, зрабілі заўважны ўнёсак у духоўную скарбонку свету.



Мне хацелася б прыпыніцца на сучаснасці. Па-першае, мы як суверэнная дзяржава маем агульную інфармацыйную, кніжную прастору з тымі краінамі, што знаходзяцца побач з намі і ўжываюць рускую мову. Па-другое, мы застаёмся нацыяй, якая, у значнай ступені дзякуючы дзяржаўнай падтрымцы, захоўвае вельмі высокі ўзровень кнігавыдання. Паводле вынікаў 2011 года мы маем амаль чатыры кнігі на кожнага жыхара нашай краіны, 11 тысяч найменняў кніг! Разам з тым тыражныя паказчыкі паменшыліся — і гэта агульная сусветная тэндэнцыя для друкаванай кнігі. Добра гэта ці дрэнна? Я лічу, што гэты факт сведчыць пра неабходнасць комплекснага падыходу да развіцця кнігавыдавецкай сферы.

Сустрэча Кіраўніка дзяржавы з пісьменнікамі стала лёсавызначальнай не толькі ў абвяшчэнні Года кнігі, але і ў прынццы даручэнняў, якія будуць асноватворнымі на працягу ўсяго года.

Год кнігі — гэта не толькі мерапрыемствы, конкурсы, акцыі, фэсты, святы... Год кнігі — гэта стварэнне і ўмацаванне нарматыўна-прававой базы функцыянавання і развіцця нацыянальнай галіны кнігавыдання. Падрыхтаваны да першага чытання праект Закона аб выдавецкай справе ў Рэспубліцы Беларусь. Аналагаў яму ў нашай краіне нават у савецкі час не было. Такім чынам, нацыянальнае кнігавыданне замацоўвае свой статус на заканадаўчым узроўні.

Мы плённа працуем дзеля стварэння спрыяльных умоў для айчынных выдаўцоў: падрыхтаваны праект Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб падтрымцы нацыянальнага кнігавыдання. Калі мы існуём сёння ў адзінай эканамічнай прасторы ў межах Расіі, Казахстана і Беларусі, то трэба рабіць захады, каб стварыць аднолькавыя эканамічныя ўмовы для працы выдаўцоў усіх гэтых краін і разам з тым прадугледзець у нарматыўнай базе магчымасці спрыяння нацыянальнай літаратуры. Нацыянальнае кнігавыданне прадстаўлена і рускамоўнай, і беларускамоўнай літаратурай, але хацелася б, каб кожнае з айчынных выдавецтваў, а ў нас іх больш за 600, дадаткова выдала яшчэ па кнізе на беларускай мове.

І Закон, і Указ павінны стаць трывалымі асновамі для далейшага развіцця. Менавіта дзякуючы дзяржаўнай падтрымцы беларуская кніга займае годнае месца ў сусветнай кніжнай прасторы. Што маецца на ўвазе? З дзяржаўнага бюджэту штогод падтрымліваецца 120—130 кніг, і кожная з іх, я не пабаюся гэтага азначэння, — з'ява ў нацыянальным кнігавыданні. Бываюць кніжкі, якія можна пагартаць і ніколі больш да іх не вяртацца. Чытацкі попыт — не заўсёды пакажчык мастацкай вартасці твора, але калі мы гаворым пра нацыянальныя скарбы, то кнігі, якія выдаюцца ў "Мастацкай літаратуры", у РВУ "Літаратура і Мастацтва", у выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", — асабліва тыя праекты, якія сёння дзяржавай вызначаюцца як сацыяльна значныя, — не толькі годна прадстаўляюць нашу краіну на прэстыжных міжнародных кніжных конкурсах, але і адкрываюць Беларусь свету як высокадухоўную краіну. Вось, напрыклад, "Альбом малюнкаў" Дзмітрыя Струкава — мы прэзентавалі гэту кнігу ў Маскве і атрымалі вельмі шмат станоўчых водгукаў. Да слова, выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" здолела адшукаць некаторыя малюнкі нават за межамі нашай краіны, знайсці тыя, што ніколі раней не друкаваліся. Мы бачым, наколькі багатая наша Беларусь на духоўныя помнікі. І тое, што дадзены праект рэалізавалі менавіта айчынныя выдаўцы, робіць гонар усяму нацыянальнаму кнігавыданню.

**— Лілія Станіславаўна, што азначае для айчыннага кнігавыдання штогадовае правядзенне Міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу менавіта ў Мінску?**

— Думаю, што краіна, якая мае такую выстаўку, заслугоўвае таго, каб лічыцца асяродкам культуры сусветнага ўзроўню. Штогод больш як 20 замежных краін прадстаўляюць свае кнігі. У гэтым годзе ў нас вельмі цікавы ганаровы госць — Баліварыянская Рэспубліка Венесуэла. Акрамя таго, мы не ўяўляем сабе нашых выставак без расійскай, украінскай кнігі. У мінулыя гады бралі актыўны ўдзел Германія, Францыя, і вельмі прыемна, што наша супрацоўніцтва на гэтым не спынілася.

У Год кнігі і выдаўцам, і наведвальнікам-чытачам будзе асабліва цікава завітаць на выстаўку, патрапіць на прэзентацыі кніг, узяць удзел у мерапрыемствах, якія будуць спрыяць не толькі прапагандзе кнігі, але і росту прафесійнага майстэрства яе стваральнікаў — гэта і майстар-класы, і круглыя сталы, і семінары па пытаннях маркетынгу, арганізацыі кніжнага гандлю, наладжвання цесных стасункаў на ўзроўні краін СНД і г.д.

(Заканчэнне на стар. 4).

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку Беларусі Святлану Акружную з юбілеем. "Спадзяюся, што Вы і ў далейшым будзеце радаваць нас сваім вялікім талентам і вытанчаным акцёрскім майстэрствам, уносіць важкі ўклад у папаўненне скарбніцы беларускай культуры", — сказана ў віншаванні.

✔ Адбылася сустрэча міністра культуры Беларусі Паўла Латушкі са старшынёй Саюза беларусаў Латвіі Валянцінай Піскуновай і дэпутатам XI Сейма Латвіі, старшынёй грамадскага аб'яднання "Прамень" Аленай Лазаравай. Былі абмеркаваны пытанні аказання з боку Міністэрства культуры дапамогі беларускім арганізацыям Латвіі ў правядзенні разнастайных беларускіх мерапрыемстваў у межах культурнай акцыі ў Латвіі з удзелам арганізацый беларускай меншасці — яна пройдзе з 22 мая па 3 чэрвеня.

✔ Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей у мінулым годзе папоўнілі 92 аб'екты ў Мінску. Цяпер у гэтым спісе фігуруе 538 помнікаў архітэктуры, гісторыі, мастацтва і археалогіі.

✔ З нагоды Дня беларускай навукі Бюро Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ўзнагародзіла Ганаровай граматай Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Міколу Мятліцкага, галоўнага рэдактара часопіса "Полымя", за папулярызацыю дасягненняў беларускіх вучоных і шырокае асвятленне ў сродках масавай інфармацыі дзейнасці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

✔ Лаўрэатамі ганаровага звання "Чалавек года Віцебшчыны" па выніках 2011 года сталі 28 чалавек. Сярод іх — старшыня Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Тамара Краснова-Гусачэнка і мастацкі кіраўнік Беларускага тэатра "Лялька" Віктар Клімчук.

✔ Гродзенскі гаркам Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі абвясціў конкурс праектаў "Развіццё турыстычнай прывабнасці Гродна і рэгіёна". Ідэя яго правядзення паступіла ад удзельнікаў гродзенскага кірмашу моладзевых праектаў. Лепшым праектам будзе аказана фінансавая падтрымка. Вынікі конкурсу плануецца падвесці ў сакавіку гэтага года.

✔ Завершаны здымкі фільма "У тумане" паводле аповесці Васіля Быкава. Рэжысёр Сяргей Лозніца здымаў яго ў Латвіі. У міжнародным праекце бяруць удзел кінакампанія "Джи Пи" (Расія), MA.JA.DE Fiction (Германия), Rija Films (Латвія), Lemming Film (Нідэрланды), а таксама тэлеканал ZDF/ARTE і Фонд падтрымкі еўрапейскага кіно EURIMAGES, Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм". Галоўныя ролі ў фільме выконваюць малады беларускі акцёр Уладзімір Свірскі, а таксама расіяне Сяргей Колесаў і Улад Абашын.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

**Паважаныя чытачы!**

У лютым штотыднёвік "Літаратура і мастацтва" будзе святкаваць 80-гадовы юбілей. Запрашаем усіх жадаючых падзяліцца ўспамінамі пра газету, а таксама пра тых, хто ў ёй працуе ці працаваў! Штотыднёвік распачынае новую рубрыку "ЛіМу — 80!".

Чакаем вашых лістоў!

## Культурная сталіца

# Радзівілаўская зіма-2012

**Нясвіж атрымаў сертыфікат і сімвал культурнай сталіцы Беларусі — крышталънага белага бусла. Урачыстая цырымонія адбылася ў гарадской Ратушы.**

**Ірына ТУЛУПАВА,
фота Генадзя Жынкова,
БелТА**



На свяце прысутнічалі міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка, міністр спорту і турызму Алег Качан, першы намеснік міністра інфармацыі Лілія Ананіч, старшыня Мінскага абласнога выканаўчага камітэта Барыс Батура, старшыня Нясвіжскага райвыканкама Іван Крупко, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса, ганаровыя грамадзяне горада, замежныя госці.

Сёлетні кусліві мароз толькі дабавіў святу колеравай гамы. Каток перад будынкам гарадской улады, гандлёвыя рады "Ля Ратушы", коні, запрэжаныя ў сані, — усё нагадвала пра любімыя зімовыя забавы беларусаў. Студзеньскія завірухі стварылі натуральныя дэкарацыі тых зім — далёкіх ды снежных.

Нясвіж — горад Радзівілаў. Менавіта Мікалай Радзівіл Чорны, які набываў і атрымоўваў усё новыя землі, цэнтрам сваіх уладанняў зрабіў Нясвіж. Горад стала лічыўся сталіцай гэтага магнацкага роду на працягу некалькіх вякоў.

"Дзякуючы назапашанаму даробку пакаленняў беларусаў, якія стагоддзямі працавалі на веліч горада годна і з гонарам, можна сказаць, што Нясвіж — гэта брыльянт беларускай культурнай спадчыны, — падкрэсліў на ўрачыстай цырымоніі Павел Латушка. Ён прадставіў таксама госцю свята з Сербіі Вольгу Зорыч — адну з патомкаў Сямёна Зорыча, заснавальніка славутага тэатра ў Шклове.

Сёлетняя культурная сталіца годна прадставіць самабытнасць і спадчыну Беларусі. Як вядома, у 1562 годзе ў нясвіжскай друкарні на беларускай мове кірыліцай былі выдадзеныя кнігі Сымона Буднага "Катэхізіс" і "Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам" ды іншыя. Невыпадкова сярод паўсотні запланаваных знакавых падзей — культурная акцыя "Славуты Нясвіжскі друкар", прысвечаная 450-годдзю выдання Сымонам Будным першых кніг. Адбудуцца таксама выстаўкі эксклюзіўных стадрукаваных радзівілаўскіх выданняў XVI — XVIII стст., калекцый гістарычнага касцюма, калекцыі старажытных карт Беларусі.

У Нясвіжы ўпершыню пройдуць тэатральны форум прафесійных тэатраў "Тэатр Уршулі Радзівіл" і міжнародны семінар ЮНЕСКА "Аб'екты сусветнай спадчыны: зберажэнне і выкарыстанне ў мэтах устойлівага развіцця", адбудуцца канцэрты беларускай старадаўняй музыкі.

Нашымі днямі таксама нараджаюцца цудоўныя ініцыятывы. Лілія Ананіч, выказаўшы падзяку Мінскаму абласному выканаўчаму камітэту за дзяржаўны падыход да падтрымкі кнігавыдання, прапанавала на кожным мерапрыемстве дарыць кнігі. Так што ў бліжэйшай будучыні, магчыма, мы спрычынімся да новай традыцыі. Хаця кніга як падарунак, дзякуй лёсу, і раней не знікала з нашага жыцця.

Галоўнай жа падзеяй у культурнай сталіцы года стане афіцыйнае адкрыццё пасля рэстаўрацыі палацавага ансамбля Радзівілаў. Па ўсім відаць, нам варта чакаць такой жа знакавай, паўнаводнай, насычанай радзівілаўскай вясны. І, без сумнення, за ёй следам прыйдуць радзівілаўскае лета і радзівілаўская залатая восень — Нясвіж як культурная сталіца заявіў пра свае паўнамоцтвы.

***На здымку: старшыня Мінаблвыканкама Барыс Батура і міністр культуры Беларусі Павел Латушка.***

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Ода Радзіме і мужнасці

**Бібліятэкары розных вайсковых часцей былі запрошаны ў чытальную залу бібліятэкі Цэнтральнага Дома афіцэраў на прэзентацыю новай кнігі выдавецтва "Чатыры чвэрці" з серыі "Асоба і час" — "Сонца на ўсіх адно", прысвечанай пісьменніку-франтавіку, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Алесю Савіцкаму.**

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**



Алесь Ануфрыевіч — чалавек-легенда. У яго драматычны лёс і найбагацейшая біяграфія. Ён пачаў пісаць, каб данесці праўду свайго пакалення да нашчадкаў. Пакаленне Савіцкага — тыя, хто са зброяй у руках змагаўся супраць фашызму. І страты ў іх шэрагах — незаменныя. Нездарма ў руках пісьменніка на прэзентацыі з'явіўся пажоўклы здымак ваенных часоў.

— Вось перад вамі чатыры хлопцы-партызаны, — распавёў Савіцкі. — Гэта мае лепшыя сябры і я з імі. Зграбныя, прыгожыя, нават усмешлівыя. З чатырох нас вярнуўся з вайны толькі адзін. Ніколі ў іх, што загінулі маладымі, не было каханых жанчын. Няма ні дзяцей, ні ўнукаў. Ёсць толькі веліч іх подзвігу. І таму, хто выжыў, нельга забываць пра гэта. Мы і так дазволілі насыпаць на іхняе поле даволі атрутнага зерня. І не так ужо лёгка будзе цяпер ачысціць яго. Але мы мусім гэта зрабіць — дзеля праўды.

Алесь Ануфрыевіч — аўтар некалькіх дзясяткаў кніг. Асаблівасць новага выдання ў тым, што акрамя празаічных і публіцыстычных твораў пісьменніка тут сабраны таксама і артыкулы пра Савіцкага, напісаныя крытыкамі і калегамі па пяры. Укладальнік зборніка, паэт і публіцыст, зямляк Алеся Ануфрыевіча Навум Гальпяровіч расказаў, як стваралася кніга, як апрацоўваўся ўнікальны матэрыял, які пазней увайшоў у яе.

— Як на трох кітах, кніга трымаецца на трох адметных інтэрв'ю Савіцкага — на Паклоннай гары, на беразе нямецкага Рэйна і на беразе Дзвіны. Гэтыя інтэрв'ю раскрываюць перад чытачом багатую асобу пісьменніка, яго погляды на жыццё, подзвіг, на галоўныя каштоўнасці чалавецтва, чалавечую існасць.

Старшыня Беларускага Саюза афіцэраў генерал-лейтэнант Яўген Мікульчык паведаміў пра акцыю "Кніга — крыніца ведаў. Вазьмі сабе за прыклад героя кнігі", распачатую ў Беларусі арганізацыяй, якую ён узначальвае. І з гэтай нагоды высока ацаніў новае выданне. Бо аўтар і адначасова герой кнігі "Сонца на ўсіх адно" — якраз той, з каго варта браць прыклад сучаснікам, асабліва тым, хто звязвае сваё жыццё з вайсковай службай.

— У кнізе прыводзіцца баявая характарыстыка на маладога камандзіра дыверсійнай групы партызанскага атрада "Бальшавік" брыгады імя Варашылава Аляксандра Савіцкага за подпісам камандзіра і камісара партызанскага атрада, — прыгадаў Я. Мікульчык. — Тое, што там напісана, уражвае. Я не ведаю такіх людзей сярод нашых сучаснікаў, якія асабіста знішчылі так шмат фашыстаў і пусцілі пад адхон такую колькасць варожых саставаў.

Ад Беларускага Саюза афіцэраў у гэты дзень Алесю Ануфрыевічу быў урачыста ўручаны членскі білет арганізацыі — партызан Вялікай Айчыннай прыраўняны да афіцэра Чырвонай Арміі дзякуючы свайму гераізму і непахіснасці.

Шчырыя словы захаплення кнігай і яе героем гучалі ў гэты дзень у вялікай колькасці. Але, безумоўна, найбольш яркая ацэнка новаму выданню была дадзена старшынёй Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхасём Пазняковым:

— Кніга Савіцкага, — сказаў ён, — ода Радзіме, якая ў сэрцы аўтара жыве як самае дарагое і галоўнае. Гэта ода Мужнасці і дакумент эпохі. Кніга — прыклад служэння свайму народу. Алесь Савіцкі, па сутнасці, ужо народны пісьменнік. І сапраўдны герой свайго часу.

## За падзеяй

# У сценах Дома Коласа

**Вольга ПАЛОМЦАВА**

**Музей Якуба Коласа і Саюз пісьменнікаў Беларусі звязвае шматгадовае супрацоўніцтва. Пры актыўным удзеле літаратараў праходзяць Каласавіны, адзначаецца дзень нараджэння паэта, на Вайсковых могілках праходзіць мітынг-рэквіем у дзень яго смерці, ладзяцца разнастайныя творчыя імпрэзы.**

Добрай традыцыяй, распачатай два гады таму, стала ўручэнне ў музеі членскіх білетаў прынятым у Мінскае гарадское аддзяленне СПБ.

Кіраўніцтва СПБ падчас чарговай урачыстасці адзначыла з'яўленне ў рэпертуары Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зніч" Беларускай дзяржаўнай філармоніі спектакля "У краіне светлай…" паводле твораў Максіма Багдановіча, прысвечанага 120-годдзю з дня нараджэння паэта. Узнагароджаны ганаровымі граматамі за высокае прафесійна-выканаўчае майстэрства і плённую прапаганду творчасці класічнай і сучаснай беларускай літаратуры стваральнік спектакля Вячаслаў Статкевіч, удзельнік Сяргей Сарокін. Грамату атрымаў і калектыў тэатра — за шматгадовую плённую дзейнасць, значныя дасягненні ў справе прапаганды класічнай і сучаснай нацыянальнай літаратуры, выхаванне любові да роднага слова і літаратурнай спадчыны.

Аўра Дома Коласа паспрыяла таму, што цырымонія ператварылася ў творчы вечар. Кнігу Якуба Коласа з вершаваным аўтографам Міхася Міцкевіча падарыла кожнаму з прынятых у СПБ і ўзнагароджаных дырэктар музея Зінаіда Камароўская, свае вершы чыталі І. Фралова, А. Шостак, В. Паўлючэнка, урывак са спектакля выканаў В. Статкевіч. Пра ўсебаковую падтрымку Года кнігі на старонках "ЛіМа" расказала І. Тулупава.

Літабсягі

# Сіняя Барада, берасцейскі кажан і пяцёра катоў



На здымку: самым уважлівым слухачом Раісы Андрэеўны аказалася першакласніца Анечка, якая прыйшла ў краму са сваім татам.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Кастуся Дробава

**Вядомая беларуская пісьменніца Раіса Баравікова выступіла перад чытачамі ў магазіне №13 "Белсаюздруку" ў рамках "Літаратурны чацвер" — новай акцыі, распачатай РВУ "Літаратура і Мастацтва".**

Слухаючы Раісу Андрэеўну, міжволі пазайздросціш: як усё ж такі яна ўмее трымаць аўдыторыю! Чацвер, дзень хіліцца да вечара, наведвальнікаў у краме, нягледзячы на аб'яву пра акцыю, нямнога (нязвыкла яшчэ для нашага чытача, калі вось гэтак папросту да яго прыходзіць пісьменнік, каб размаўляць без мікрафона і сцэны, без кветак і апладысментаў). І раптам Баравікова бярэ слова. Яна сама прадстаўляецца прысутным і пачынае распавядаць. Пра нядаўна адкрытую астраномамі планету ў сузор'і Лебедзя, так падобную да нашай Зямлі, і пра беларускі спадарожнік, які хутка, вельмі хутка ўжо будзе запушчаны ў касмічную прастору. Але Беларусь даўно касмічная краіна. Бо значна раней за навукоўцаў да зорак "паляцелі" пісьменнікі, аўтары мастацкіх кніг пра космас.

"І я таксама астранаўт", — кажа пісьменніца, прадстаўляючы свае цудоўныя фантастычныя аповесці для дзяцей. Пра падаючыя зоркі, якія не робяць на зямлі пажараў толькі таму, што маленькі іншапланетны госць Мамурык ловіць іх над самай зямной паверхняй спецыяльным сачком. Пра каменнага кажана, скульптура якога стаіць на адной з вуліц Брэста, і жывых кажаноў, якія першымі ўступілі ў кантакт з касмічнымі прышэльцамі…

У краме цішыня. Наведвальнікі падсоўваюцца бліжэй да апавядальніцы. З'яўляюцца новыя твары. Зайшоўшы на хвіліну ў магазін, людзі застаюцца, каб даслухаць да канца цікавы аповед. Паказаўшы чытачам уласныя дзіцячыя кнігі, Раіса Баравікова знаёміць з кнігамі калег.

Няпраўда тое, што кажуць пра крызіс у жанры дзіцячай літаратуры, запэўнівае пісьменніца. Вось жа яны, нашы беларускія кніжкі для дзетак, — добрыя, дасціпныя, лёгка напісаныя. Казкі Алены Масла, цікавыя чароўныя гісторыі Алеся Бадака. А колькі цудоўных паэтаў пішуць для маленькага чытача! Дзецям падабаецца незвычайнае. Яны хочуць бачыць цуды і добрае чарадзейства побач з сабою. Дык у нас ёсць кнігі, не менш цікавыя, чым казкі пра Мумі-троляў і раманы пра Гары Потэра. І яны напісаныя на роднай беларускай мове.

Раіса Баравікова сама з тых, каму падабаецца знаходзіць незвычайнае побач. Таму нават пяцёра катоў пісьменніцы — не проста хатнія жывёліны, а, паводле слоў іхняй гаспадыні, надзеленыя розумам, чалавечымі пачуццямі і нават талентамі істоты.

Сама пісьменніца ў дзяцінстве, аказваецца, больш за іншыя любіла казку пра Сінюю Бараду.

— Я чытала гэтую страшную і таямнічую казку на ноч. Пэўна, яна натхняла мяне на фантазіі, — падзялілася з чытачамі Раіса Андрэеўна.

Так што, атрымліваецца, не трэба баяцца страшных казак — калі гэта сапраўдная казка, напісаная пісьменнікам з добрым сэрцам. А такіх, запэўніла Раіса Баравікова, у нас хапае.

Артлінія

# Пад крылом Эўтэрпы

**З аншлагам прайшоў творчы вечар Андрэя Скарынкіна, прысвечаны 50-годдзю паэта. Літаратурна-музычная імпрэза ладзілася ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі, доўжылася больш як тры гадзіны і трымала публіку ў вялікім эмацыянальным напружанні. А ці бывае інакш, калі пад крылом Эўтэрпы збіраюцца блізкія па духу людзі, прыхільнікі верша і музыкі?**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Уладзіміра Часных



На здымку: паэт Андрэй Скарынкін, народны артыст СССР кампазітар Ігар Лучанок і заслужаная артыстка Беларусі Алена Спірыдовіч.

Усе, каго аб'яднала ў той вечар юбілейная нагода, стварылі адметнае кола сяброў і прыхільнікаў творчасці Андрэя Скарынкіна. Лірычны купальскі абразок на музыку кранальнай аркестравай п'есы В. Іванова "Спеў дуброў", прадстаўлены Дзяржаўным ансамблем танца Беларусі (мастацкі кіраўнік В. Дудкевіч), стаўся прэлюдыяй да сустрэчы з галоўным героем праграмы. За час двухактовай імпрэзы ўсім прысутным давялося перажыць неадназначнае мноства градацый духоўнага стану паэта, у якога (што вынікае з пранізлівай экспрэсіі саміх вершаў) не так і часта надараюцца хвіліны ўнутранай ідыліі. Нават яго прасветленая, рамантычна-сузіральная лірыка гучыць з лёгкай хмурынкай самоты, мажор сакавіта-жывапісных радкоў часам прыхоўвае ноткі ціхай іроніі ды нейкай тугі па радасцях жыцця. А ў шчыльнай чарадзе яго напружаных метафар увасобіліся адвечныя філасофскія пытанні, пошукі зямной гармоніі і сумоўя з Небам, пачуццё "сусветнай" віны і асабістых правінаў, боль ад незабытых крыўдаў і новых душэўных ран, пакаянне за грахі чалавека і чалавецтва, апакаліптычныя настроі — і малітва... Як вядома, самыя моцныя метафары набываюць асаблівую трапнасць, калі вершы чытае аўтар, і ўспрымаюцца з невыноснага балюча, калі злучаюцца з песеннай мелодыкай, вакальнай інтанацыяй. Госці вечарыны адчулі гэта напоўніцу.

Вядучая праграмы Алена Спірыдовіч прадставіла Андрэя Скарынкіна як паэта — аўтара 15 зборнікаў, артыста, журналіста, музыканта, "чалавека, які хоча зрабіць гэты свет крыху лепшым". Юбіляр чытае свае творы. Рамансы і песні на яго вершы гучалі ў выкананні выбітных оперных галасоў Рыгора Палішчука, Ільі Сільчукова, а таксама заслужанай артысткі Расіі Алены Бажэнавай, кампазітара Алега Чыркуна, Казацкага ансамбля славянскіх народаў (кіраўнік А. Важнік), артыста Сяргея Кравеца, юных салістаў Юрыя Дземідовіча, Веранікі Сакалоўскай, Насты Арцем'евай. Актрыса Ірына Нарбекава прадставіла творы паэта для дзяцей. А прэм'еру песні на яго верш "Пелі салоўі" — папулярны спявак Алег Сямёнаў выканаў у суправаджэнні аўтара музыкі, Ігара Лучанка. Па просьбе дзяржсакратара Саюзнай дзяржавы І. Лучанок перадаў юбіляру Падзяку за вялікі ўнёсак у развіццё расійскай культуры і супрацоўніцтва, уручыў Памятны знак.

Зала стоячы, як гімн, слухала ў выкананні А. Скарынкіна... "Малітву" А. Молчана на верш Янкі Купалы. Калі аціхлі авацыі, паэт-саліст прызнаўся: "Мой дзядуля Пётр Антонавіч Луцэвіч быў стрыечным братам Янкі Купалы..."

Повязі

# Сябраваць — значыць разумець

Ірына АЛЯКСАНДРАВА,
фота Кацярыны Разанкавай

**Вечарына, прысвечаная Дню Рэспублікі Індыя, прайшла ў сталічным Доме дружбы. Мерапрыемства афіцыйна адкрыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Індыя ў Беларусі Манодж Кумар Бхарці, які вітаў беларускіх сяброў, што прыйшлі ў гэты дзень, каб парадавацца разам з індыйцамі.**



На здымку: юныя танцоркі калектыву "Сапна".

"Нядзіўна тое, што беларусы цікавяцца Індыяй", — выказаў меркаванне пасол. Індыя — краіна са старажытнай гісторыяй, якая падаравала свету мноства вялікіх ідэй і выдатных імёнаў. Але спадар Манодж нават не ўяўляў, як шмат у Беларусі сапраўдных прыхільнікаў індыйскай культуры.

Беларусі і Індыі трэба актыўней пазнаваць адна адну, бо кожная з іх мае велізарны патэнцыял эканамічнага ўзаемадзеяння, мяркуе Манодж Кумар Бхарці. Пералічыўшы сумесныя эканамічныя праекты, якія ўжо працуюць, і крыху спыніўшыся на іх узаемавыгаднасці для беларусаў і індыйцаў, пасол перайшоў да абмеркавання культурных ініцыятыў. Фестывалі індыйскіх танцаў і індыйскага кіно, выкладанне ёгі пры Пасольстве Рэспублікі Індыя — гэта толькі пачатак. Культурныя сувязі павінны і будуць паспяхова развівацца.

Кіраўнік рабочай групы Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па супрацоўніцтве з парламентам Рэспублікі Індыя Анатоль Новікаў павіншаваў ад імя беларускага народа гаспадароў свята і заўважыў, што для супрацоўніцтва намечаны цудоўныя перспектывы не толькі ў эканоміцы, а і ў культуры. Магчыма, у хуткім часе мы зможам пабачыць першы сумесны індыйска-беларускі кінафільм. І, трэба спадзявацца, вынікам будзе абуджэнне цікавасці індыйцаў да Беларусі, што, у сваю чаргу паспрыяе наведванню нашай краіны індыйскімі турыстамі — пакуль іх тут бывае няшмат.

Тэма дружбы і супрацоўніцтва была працягнута і ў выступленнях намесніка начальніка Упраўлення Азіі і Афрыкі Міністэрства замежных спраў Беларусі Леаніда Бацяноўскага і намесніка старшыні праўлення таварыства "Беларусь — Індыя" Марыны Мажэйкі. А пасля прысутных захінула стыхія танцаў, якія выконваў калектыў індыйскага народнага эстраднага танца "Сапна" ("Надзея") пад кіраўніцтвам Алены Сіпач. Найлепшай пахвалой для ўдзельніц калектыву сталі словы гаспадара Маноджа: "Калі мы святкуем у Індыі Дзень Рэспублікі, у нас, паўсюль танцуюць. Але наўрад ці вы, прыехаўшы да нас, зможаце пабачыць на вуліцах танцораў такога высокага ўзроўню, як мы бачым сёння ў гэтай зале".

З-пад пяра

Чытачам Магілёўшчыны добра вядомае імя і паэзія Валянціны Габрусевай, чые вершы часта з'яўляюцца ў перыядычным друку. Кнігі "Журавіныя гронкі", "Бусліны вальс" і "Букет бяссмертнікаў" дадалі ёй папулярнасці. А яшчэ Валянціна Габрусева — аўтар шматлікіх песень, дзе ёй належаць не толькі словы, але і музыка. Нядаўна ў Магілёве адбылася творчая вечарына Валянціны Фёдараўны. Тут было шмат паэзіі і музыкі. Вершы гучалі ў выкананні самой паэткі і яе калег. А любімыя песні "Незабытае танга", "Беларускі мой край", "Вальс маладосці", "Як над рэчанькай" і іншыя прысутныя нават падпявалі.

**Віктар АРЦЕМ'ЕЎ**

У Мінскай бібліятэцы № 18 прайшло пасяджэнне літаратурна-музычнай гасцёўні паэтычнага клуба "Гармонія душы" Першамайскага раённага аддзялення Беларускага саюза жанчын. Гэтае паэтычнае аб'яднанне, якім кіруе паэтка і спявачка Людміла Бурдыка, ужо трэці год з поспехам ладзіць вечарыны і творчыя сустрэчы для чытачоў бібліятэкі. Гэтым разам у гасцёўні бралі ўдзел паэты і кампазітары Мікалай Бурджэеў і Валерый Віткін, а таксама хор "Судьбы". Асаблівае захапленне выклікала выступленне тэатра мод "Фасон" і танцы ў выкананні супрацоўніц завода імя С. Вавілава.

**Кацярына ЗВЕРАВА**

У Таццянін дзень паэтычны тэатр "Арт.С" і Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы запрашалі наведвальнікаў на вечарыну. Нагода — само свята. Гасцей чакалі экскурс у мінулае, расказ пра значэнне імя, займальная віктарына, а таксама сустрэчы са знакамітымі беларускімі Таццянамі — Мушынскай, Беланогай, Барысюк, Пратасевіч, Грыневіч і многімі-многімі іншымі. Яны распавядалі пра сябе — праз музыку, вершы і песні. Атрымалася хораша і цёпла, і ўвесь час не пакідала ўражанне, што сабраліся ў зале не проста добрыя знаёмыя, а ледзь не родныя — ці не чароўнае імя таму прычынай?

**Алеся БАЦЮСЬ**

У мерапрыемстве, прымеркаваным да Міжнароднага дня памяці Халакоста, што прайшло ў СШ № 133, узялі ўдзел былыя вязні канцлагераў, гета, гісторыкі, вучні школ Партызанскага раёна Мінска, а таксама прадстаўнікі пасольстваў Германіі і Ізраіля, Міжнароднага маладзёжнага цэнтра "Асвенцым" і Беларускага саюза афіцэраў. У выступленнях прыгадваліся трагічныя падзеі Другой сусветнай вайны. Удзельнікі таксама даведаліся пра падрыхтоўку Другога польска-нямецка-беларускага адукацыйнага семінара на тэму Халакоста, які мяркуецца правесці ў лістападзе гэтага года, і хуткую прэзентацыю трэцяга дзяржаўнага выдання кнігі з успамінамі 250 беларускіх вязняў Асвенцыма і дакументальнай стужкі АНТ пра беларускі шлях Халакоста.

**Лізавета БАГАДЗЯЖ**

Вядомы вучоны і бард Аляксандр Гарадніцкі прадставіў мінчанам дзве новыя кнігі "Атланты держат небо. Записки старого островитянина" і "У Геркулесовых столбов". Прэзентацыя выданняў адбылася ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна. Падчас яе быў паказаны і фільм-успамін "І жыць яшчэ надзеі" з серыі "Маё XX стагоддзе" — аўтабіяграфічнае сведчанне эпохі. Карані А. Гарадніцкага — з Магілёўшчыны. Дзяцінства паэта — блакадны Ленінград і жыццё ў эвакуацыі, юнацкія гады — спалены па загадзе партыйных органаў "крамольны" зборнік вершаў, рассыпаныя гранкі другога, 17 гадоў працы на Крайняй Поўначы, дзе рэкі вымывалі з берагоў астанкі расстраляных вязняў сталінскіх лагераў. Аляксандр Майсеевіч паведаміў, што праект складаецца з 34 серый. Яго скарочаны варыянт — тры серыі, першую з якіх А. Гарадніцкі прадставіў у Мінску.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

# З Вялікай Радзімы Сімона Балівара

Ірына ТУЛУПАВА

**Ганаровым госцем Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу будзе Баліварыянская Рэспубліка Венесуэла. Насельніцтва гэтай краіны складае каля 30 мільёнаў чалавек — яна амаль утрая большая за Беларусь.**
**На пытанні пра культуру ды літаратурныя стасункі з гэтай краінай карэспандэнту "ЛіМа" адказаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла ў Рэспубліцы Беларусь Амерыка Дзіас Нуньес.**

**— Спадар Пасол! Знаёмства з любой краінай немагчымае без знаёмства з яе культурай. У ёй — традыцыі і навацыі, гісторыя, у ёй — характар народа. Якія ж асноўныя рысы характару свайго народа вы назвалі б найперш?**

— Кожнаму народу ўласцівыя асаблівыя рысы, якія вызначаюць гісторыя, культура, традыцыі і каштоўнасці яго краіны. Венесуэльскаму народу, як і беларускаму, уласцівыя любоў да радзімы, імкненне да свабоды і поўнай незалежнасці. Сёння мы зноў гаворым пра Вялікую Радзіму, якая ўключае ў сябе, як і ў часы Вызваліцеля Сімона Балівара, Лацінскую Амерыку і краіны Карыбскага басейна. У XIX стагоддзі ён прынёс зброю свабоды да падножжа гор Балівіі, абвясціўшы дваццацігадовую барацьбу за незалежнасць ад іспанскага валадарства. Сёння мы разам імкнёмся пазбавіцца ўплыву Злучаных Штатаў, імперыі, якая прыйшла ў XX ст. на змену папярэдняй. Венесуэла зноў становіцца незалежнай дзяржавай — так вырашылі народ і Баліварыянскі ўрад.

**— Венесуэлу з-за яе прыродных асаблівасцей называюць яшчэ маленькай Венецыяй. Тураператары сцвярджаюць, што яе прырода зачароўвае. Тут і празрыстасць мора, і пышная раслiннасць джунгляў, і заснежаныя горныя вяршыні. Здавалася б, невераголна рамантычная краіна! Ці адлюстроўваецца гэта ў мастацкіх творах? Якія літаратурныя героі сталі нацыянальнымі сімваламі?**

— Нашыя літаратурныя героі жывуць сваім жыццём у атмасферы, у якой яны з'явіліся шмат гадоў таму. Напрыклад, *Фларэнцін* — храбры спявак, які ўступіў у бой з д'яблам і перамог яго ў песенным паядынку; *Сантас Лусарда* і *Донья Барбара* супрацьстаяць адно аднаму ў рамане Ромула Гальегаса, сімвалізуючы канфлікт паміж цывілізацыяй і феадальным варварствам. А назва нашай краіны на самай справе ўтварылася ад індыйскага слова Venisuela, якое ёй дало племя, знойдзенае ў XVI ст. на заходнім узбярэжжы Венесуэлы адным з іспанскіх мараплаўцаў.



**— Пра што пішуць сучасныя пісьменнікі? Якія жанры ў літаратуры пераважаюць? І ці складана сёння выдаць у вас кнігу?**

— Для венесуэльскай літаратуры характэрныя самыя розныя жанры: ад рамана і казкі да гістарычнага і сучаснага эсэ, якія пазней знаходзяць сваё ўвасабленне ў тэатры і добрым кіно. Штогод у нашай краіне праводзяцца літаратурныя конкурсы, а буйныя выдавецтвы выпускаюць кнігі цягам усяго года. Вы зможаце ў гэтым пераканацца, калі пазнаёміцеся з нашым стэндам на XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы. Сёння нашмат прасцей выдаваць кнігі для шырокага кола чытачоў. Напэўна, правільна будзе сказаць, што самым буйным выдаўцом з'яўляецца Баліварыянскі ўрад. У 2011 годзе больш як шэсць мільёнаў кніг было раздадзена бясплатна на шматлікіх кірмашах, арганізаваных у розных гарадах. І сёлета гэта лічба можа істотна вырасці.

**— Ці існуюць у Венесуэле творчыя аб'яднанні пісьменнікаў?**

— Так, існуюць і творчыя аб'яднанні пісьменнікаў, і літаратурныя таварыствы, і грамадскія бібліятэкі, і клубы чытачоў.

**— Якую праграму падрыхтавала Венесуэла ў якасці Ганаровага госця Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу?**

— Праграма нашай краіны вельмі насычаная, у хуткім часе ў вас будзе магчымасць з ёй азнаёміцца.

Урачыстае адкрыццё стэнда Венесуэлы адбудзецца ў першы дзень працы выстаўкі. У гэты ж дзень мы запланавалі прэзентацыю кнігі "Венесуэла, зачараванне поўдня" (на рускай і англійскай мовах), выдадзенай Венесуэльскім інстытутам навуковых даследаванняў (IVIC) пры падтрымцы Цэнтральнага банка Венесуэлы і садзейнічанні Пасольства Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла ў Рэспубліцы Беларусь.

Мы плануем правесці інтэрактыўны конкурс "Пазнаёмся з Венесуэлай", дэманстрацыю дакументальных фільмаў, якія адлюстроўваюць двухбаковыя адносіны паміж Венесуэлай і Беларуссю. У праграме таксама — прэзентацыя новага зборy твораў "Венесуэла і нафта", выдадзенага пры падтрымцы Нацыянальнага банка Венесуэлы, цырымонія передачы ў дар кніг для секцыі Венесуэлы Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі ад Міністэрства адукацыі Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла.

**— З кім з літаратараў можна будзе сустрэцца?**

— Пасольства запрасіла двух вядомыхвенесуэльскіхпісьменнікаў: Гэта Луіс Брытта Гарсія, які правядзе прэзентацыю сваіх твораў пра лацінаамерыканскую інтэграцыю і рэвалюцыйны працэс у Венесуэле, і старшыня Цэнтра лацінаамерыканскіх даследаванняў імя Ромула Гальегаса (CELARG) Раберта Эрнандэс Мантоя, аўтар гумарыстычных тэкстаў. Падчас працы выстаўкі вы з імі пазнаёміцеся.

# «Радуюся кожнай новай кнізе!»

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).

**— А якім чынам сёння, у час паскоранага развіцця высокіх тэхналогій, трэба падтрымліваць кнігу? Кнігарні з кавярнямі і бібліятэкі з "дзіцячымі куткамі" — гэта ўжо сучаснасць, а што можна чакаць у недалёкай будучыні для павышэння цікавасці беларусаў да чытання?**

— Мы яшчэ толькі на пачатку гэтага шляху. Так, пры некаторых кніжных крамах працуюць кавярні ці прэзентацыйныя залы, але калі мы гаворым пра тое, што сёння ў "Белкнігі" каля 90 магазінаў, то гэта не так і шмат для краіны, так што сёлета павінна пашырыцца гандлёвая сетка. Ёсць кнігагандлёвая сетка Белкаапсаюза, але з ёй трэба працаваць па асартыменце, бо не кожны горад, як паказаў наш аналітычны агляд, мае паўнавартасную кніжную краму. Лічу, што ў гэтым кірунку яшчэ шмат працы — і на ўзроўні Міністэрства інфармацыі, і на ўзроўні аблвыканкамаў. Кніжная крама павінна быць не проста крамай з паліцамі, а месцам літаратурных мерапрыемстваў, сустрэч з аўтарамі, з дзецьмі, каб беларусы ў Год кнігі часцей заходзілі ў кнігарні.

Да таго ж, мы прапанавалі аб'явіць у нашай краіне Дзень дарэння кнігі. Мы ўжо звыкліся з тым, што кніга — найлепшы падарунак, хай сабе і не заўсёды танны. Але хацелася б, каб тыражнасць кнігі памяншала яе кошт, асабліва важна, каб дзіцячая кніга была даступнай для кожнай беларускай сям'і, каб яна была беларускамоўнай, каб больш пісалі для дзетак нашы сучасныя творцы. Калі не выхаваем чытача, які змалку трымае ў руках кнігу — спачатку дзіцячую, потым юнацкую, — то не прыцягнем яго да кніжных старонак у больш сталым узросце. Сучаснае дзіця з маленства ўмее націскаць на кнопкі ў камп'ютары, але, на жаль, не ў кожнай сям'і належнае месца займае папяровая кніга.

**— Да якіх кніг свайго юнацтва вы звяртаецеся сёння?**

— Я наогул люблю Кнігу. У нашай хаце яна заўжды была на самым пачэсным месцы. Калі ты нарадзіўся ў сям'і настаўнікаў, інакш і быць не можа. Тым больш, мая мама выкладала беларускую мову і літаратуру. Натуральна, усё, што звязана з кнігай, — адтуль, з маленства, з дзяцінства. Я б назвала кнігу Івана Мележа "Людзі на балоце". Можа, дзявочую душу яна закранула неяк асабліва... Але і руская літаратура мне падабаецца: старонкі Ахматавай, Цвятаевай часам цягне перагарнуць. А апошнім часам, калі па працы я штодзень маю магчымасць бачыць кантрольныя экзэмпляры новых выданняў, то радуюся кожнай новай кнізе, асабліва калі яна нясе духоўнасць і расказвае свету пра Беларусь!

## Анонс

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва" запрашае гасцей XIX Міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, якая пройдзе з 8 па 12 лютага ў Нацыянальным выставачным цэнтры "БелЭкспа" (вул. Янкі Купалы, 27), на сустрэчы з пісьменнікамі і аўтограф-сесіі!**

**8 лютага**

13.30 — Прэзентацыя кнігі Уладзіміра Ліпскага "Мужык" (з удзелам народнага ансамбля "Лявоны", лётчыка-касманаўта Пятра Клімука і прататыпа героя Аляксея Скакуна).

**9 лютага**

11.30 — Прэс-канферэнцыя пісьменнікаў Андрэя Жвалеўскага і Яўгеніі Пастэрнак.

14.00 — Прэзентацыя кніг для дзяцей: Уладзімір Мазго "Нам засталася спадчына", Анатоль Зэкаў "Зязюля Гулюля".

14.30 — Адкрыццё выстаўкі кніжных ілюстрацый навучэнцаў Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў "Анёлы, якія чытаюць кнігі". Удзельнічаюць пісьменнік Генадзь Аўласенка і мастак Маргарыта Цімохава.

16.00 — прэзентацыя кнігі перакладаў Міколы Мятліцкага "Лучнасць" (Увага! Мерапрыемства адбудзецца ў Доме дружбы, па адрасе вул. Захарава, 28).

**10 лютага**

10.30 — Сустрэча з рэдакцыяй часопіса "Вожык": прэзентацыя кнігі Юліі Зарэцкай "Шчаслівыя людзі" (серыя "Бібліятэка «Вожыка»"), экспазіцыя шаржаў і карыкатур Аляксандра Каршакевіча.

16.00 — Літаратурна-музычная кампазіцыя "На трапяткім агні" паводле аднайменнай кнігі Навума Гальпяровіча.

**11 лютага**

13.30 — Прэзентацыя дзіцячай кніжкі Вольгі Нікольскай "Мы — агенты «Колбафир»", экспазіцыя ілюстрацый Сяргея Волкава.

14.00 — Прэзентацыя кнігі Юі Віслaндэр "Малы і Білан" (Увага! Мерапрыемства пройдзе ў Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы імя М. А. Астроўскага па адрасе: праспект газеты "Праўда", 20)

**Аўтограф-сесіі (стэнд РВУ "Літаратура і Мастацтва")**

**8 лютага**

з 13.00 да 14.00 — Уладзімір Мазго;
з 14.00 да 15.00 — Анатоль Бутэвіч;
з 15.00 да 16.00 — Валерый Кастручын.

**9 лютага**

з 10.00 да 12.00 — Раіса Баравікова;
з 12.00 да 14.00 — Яніна Жабко;
з 14.00 да 16.00 — Алесь Бадак і Сяргей Трахімёнак.

**10 лютага**

з 10.00 да 12.00 — Юлія Зарэцкая;
з 12.00 да 14.00 — Павел Саковіч;
з 14.00 да 16.00 — Ірына Масляніцына.

**11 лютага**

з 10.00 да 12.00 — Анатоль Зэкаў;
з 12.00 да 14.00 — Уладзімір Саламаха;
з 14.00 да 16.00 — Андрэй Федарэнка.

**Паважаныя чытачы!**

9 лютага а 17-й гадзіне ў краме-кнігарні № 13 "Белсаюздруку" (падземны пераход станцыі метро "Плошча Перамогі") адбудзецца прэзентацыя першага ў гэтым годзе нумара часопіса "Маладосць" разам з часопісам "Бярозка", якія з 2012-га выходзяць пад адной вокладкай, а таксама кнігі "Максім Багдановіч. Вядомы і невядомы". Удзел у прэзентацыі возьмуць галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Святлана Дзянісава, загадчык аддзела крытыкі і ўкладальнік кнігі Ціхан Чарнякевіч, гераіня апошняга нумара Алеся Кузьмінова, паэты Навум Гальпяровіч і Рагнед Малахоўскі.

Валерый ГРЫШКАВЕЦ,
Анатоль КРЭЙДЗІЧ

# Наш сучаснік — Станіслаў Куняеў



**Расійскі часопіс "Наш современник" — прыклад канкрэтных крокаў, якія робяцца для ўмацавання беларуска-расійскіх літаратурных сувязей. Ён можа быць прыкладам у справе пабудовы Саюзнай дзяржавы і дзеячам культуры, навукі і нават палітыкам ды бізнесменам, лічыць яго галоўны рэдактар Станіслаў Куняеў, вядучы рускі паэт, празаік, публіцыст, перакладчык і грамадскі дзеяч.**

**— Станіслаў Юр'евіч, як часта вы бываеце ў Беларусі?**

— Не так часта, як хацелася б. Я шчыра, усім сэрцам палюбіў Беларусь яшчэ ў свой першы прыезд сюды. Было гэта, здаецца, у далёкім 1962 годзе. Мы, маладыя маскоўскія паэты, прыехалі ў сучасны Слаўгарад. Спыніліся ў вёсцы на беразе Сожа, началавалі ў хаце добрай жанчыны, удавы франтавіка. Памятаю, слухалі яе доўгія расповеды за вячэрай пры святле лучыны. Гэта былі ўспаміны пра нядаўнюю вайну, якая глыбока кранула сэрца простай жанчыны. Зрэшты, так было і на маёй радзіме — у Калужскай вобласці, ва ўсёй Расіі. Шмат чаго тады перадумаў, перажыў… а раніцай нарадзіліся вершы.

**— Вы лаўрэат многіх самавітых літаратурных прэмій і ўзнагарод, у тым ліку прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва. Яе асабіста ўручыў вам, а таксама народнаму артысту Расіі Аляксандру Калягіну і народнаму артысту СССР Расціславу Янкоўскаму, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. За што вы ўдастоіліся гэтай прэміі?**

— Лаўрэатам прэміі стаў за пераклад на рускую мову паэмы "Песня пра зубра" Міколы Гусоўскага. Я ўпершыню яе пабачыў у пачатку 60-х мінулага стагоддзя. Прачытаў падрадковы пераклад і быў, што называецца, зачараваны зместам. "Песня пра зубра" ў маім перакладзе на рускую мову вытрымала некалькі выданняў, і, скажу шчыра, перакладаў яе, не думаючы ні пра якія прэміі, узнагароды. Рабіў гэта, палюбіўшы сам тэкст паэмы, яе змест, сутнасць. Нават не думаў пра тое, што раблю пэўны ўнёсак у наша сяброўства, наша адзінства. Так што я быў шчаслівы ўдвая, калі даведаўся, што мая праца так высока ацэнена.

**— Часопіс "Наш современник" заяўлены як часопіс пісьменнікаў Расіі. Адметнай яго асаблівасцю з'яўляецца найшырэйшы ахоп жыцця краіны. Шмат у чым гэта дасягаецца за кошт актыўнага прыцягнення пісьменнікаў з правінцыі. Прыкладна палова матэрыялаў кожнага нумара створана ў глыбіннай, карэннай Расіі.**

**Разам з тым, сёння гэта, бадай, адзінае ў Маскве, ды і ў Расіі, выданне, якое на сваіх старонках друкуе творы беларускіх паэтаў, празаікаў і публіцыстаў у перакладзе на рускую мову. Гэта што, ваша даніна сяброўству нашых літаратур ці высокая ацэнка творчасці нашых пісьменнікаў? Наогул, як доўга будзе існаваць гэтая традыцыя, бо не сакрэт — трапіць на старонкі "Нашего современника" лічаць за гонар шматлікія расійскія пісьменнікі, а тут...**

— Часопіс "Наш современник" — гэта, кажу ад чыстага сэрца, часопіс усіх, хто любіць і цэніць мастацкае слова, любіць Расію і, не пабаюся гэта сцвярджаць, Беларусь, наш Саюз, нашу сумесную з вамі працу на гэтым шляху, у тым ліку і ў літаратуры. Ужо хутка 10 гадоў, як з рэдакцыяй часопіса "Нёман" заключылі дамову пра выпуск сумесных нумароў. Мы рэгулярна абменьваемся часопісамі, лепшыя з публікацый (на выбар рэдкалегіі) прапануем для друку на сваіх старонках. Хачу сказаць, што і да гэтай дамовы мы пастаянна друкавалі пісьменнікаў з Мінска, іншых гарадоў Беларусі. Прычым, як творы, напісаныя па-руску, так і пераклады з беларускай мовы. І такі абмен творамі з іх публікацыямі ў "Нашем современнике" і "Нёмане" будзе працягвацца. Гэта, думаю, не толькі будзе карысна нашым пісьменнікам, але і стане добрым прыкладам палітыкам, бізнесменам, дзеячам культуры, навукі...

**— У Расіі, як вядома, некалькі саюзаў пісьменнікаў. Цяпер і ў Беларусі іх два, а таксама новае аб'яднанне літаратараў — Саюз пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы. Ці не шмат?**

— Усё вы кажаце правільна і разважаеце правільна, але... Ёсць гэтае самае "але". Нават у СССР Саюз пісьменнікаў з'явіўся не на пустым месцы. Творчыя людзі і ў дарэвалюцыйнай Расіі аб'ядноўваліся ў розныя гурткі, таварыствы. Вазьміце тых жа славянафілаў. Быў, дарэчы, у літаратараў Расіі і свой прафсаюз — Літаратурны фонд. Стварaўся ён для падтрымкі бедных літаратараў, таленавітай моладзі і г. д. А ўспомніце мастакоў-перасоўнікаў і "Могучая кучка", у якую аб'ядналіся рускія кампазітары... Словам, нічога новага, ствараючы Саюз пісьменнікаў СССР, савецкая ўлада не прыдумала. Яна дала сваім пісьменнікам магчымасць тварыць, не думаючы, так бы мовіць, пра кавалак хлеба. Вядома, наўзамен запатрабавала ад іх многага — у першую чаргу, сваім талентам служыць народу, краіне. Сёння іншая сітуацыя, іншыя і патрабаванні. Не ў дзяржавы. Скажам, кіраўніцтва Расіі не заўважае сваіх пісьменнікаў, а калі і заўважае, то дзіўным чынам далёка не лепшых прадстаўнікоў. Усё больш нейкіх блазнаў, я б нават сказаў, перасмешнікаў. Тое ж самае і з Саюзам пісьменнікаў. Таму трэба ўсё ж добра разумець, што сабой уяўляе той ці іншы пісьменнік, аб'яднанне або Саюз, дзеля чаго творцы аб'ядноўваюцца. Пісьменнік, а я маю на ўвазе сапраўдных пісьменнікаў, павінен несці народу сумленнае слова, адкрываць яму, так бы мовіць, вочы.

Дзеля гэтага, я думаю, стварaўся і наш агульны Саюз пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы — несці праўду людзям! Варта адзначыць, што ідэю яго стварэння адразу падтрымалі лепшыя нашы пісьменнікі. Такія, як Валянцін Распуцін, Уладзімір Крупін, Уладзімір Кастроў, пісьменнікі сярэдняга пакалення, таленавітая моладзь. Думаю, тое ж было і ёсць і ў вас у Беларусі.

**— Актыўная патрыятычная пазіцыя часопіса забяспечвае яму чытацкую падтрымку. Апошнія гады "Наш современник" лідзіруе па ліку індывідуальных падпісчыкаў сярод аналагічных літаратурных перыядычных выданняў. Упэўнены, у Беларусі ёсць шмат жадаючых чытаць часопіс, ды вось бяда, няма яго ні ў кіёсках "Белсаюздруку", ні ў бібліятэках... Ці збіраецеся ў найбліжэйшай будучыні сур'ёзна заняцца вывучэннем магчымасці пашырэння сваёй чытацкай аўдыторыі ў нашай краіне і іншых краінах блізкага замежжа?**

— Мы пастаянна гэтым займаемся. Калі вы маеце на ўвазе попыт на добрыя творы. На старонках "Нашего современника" друкуюцца творы лепшых пісьменнікаў сучаснай Расіі. І лепшыя творы нашых беларускіх калег і таварышаў. У рэдакцыю прыходзяць сотні лістоў ад чытачоў. Пішуць не толькі чытачы Расіі. "Наш современник" запатрабаваны ў краінах Балтыі, ва Украіне, у першую чаргу ў Крыме. Нас чытаюць у краінах Заходняй Еўропы, у ЗША, Ізраілі, Аўстраліі. Што датычыць розніцы, то ў апошнія гады "Наш современник" не паступае ў кіёскі нават Масквы. А вось што да бібліятэк — так, тут трэба яшчэ працаваць. Нярэдка чытачы з расійскай глыбінкі пішуць нам пра тое, што часопіс немагчыма знайсці ў бібліятэцы. Праўда, тут у першую чаргу ўсё ж трэба працаваць самім бібліятэкарам. Бо ў глыбінцы бібліятэкар — гэта асветнік, і гэтую высакародную місію трэба несці і далей. А попыт у людзей на наш часопіс немалы. Мы імкнёмся не апускаць планку якасці твораў, якія публікуем, гэта, як мне бачыцца, наша найпершая задача і абавязак.

**Даведка "ЛіМа"**

*"Наш современник" — часопіс пісьменнікаў Расіі. Выдаецца ў Маскве з 1956 года. Галоўны рэдактар — Станіслаў Куняеў.*

*Асноўныя напрамкі: сучасная проза, паэзія і патрыятычная публіцыстыка. Найбольш значныя дасягненні "Нашего современника" звязаныя з так званай "вясковай прозай". З пачатку 70-х гадоў у часопісе апублікаваныя творы Ф. Абрамава, В. Астаф'ева, В. Бялова, С. Залыгіна, В. Ліханосава, Я. Носава, В. Распуціна, У. Салаухіна, В. Шукшына.*

## Партрэт на фоне кнігі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

# Адрозніваць літаратуру ад чытва

**Анатоль Андрэеў — цікавая асоба ў сучаснай беларускай літаратуры. Здаецца, ён не прызнае ніякіх стандартаў і на любое пытанне, асабліва ў сферы культуры, літаратуры, мастацтва, мае ўласны погляд, сваё арыгінальнае меркаванне. Можна сказаць, што яму падабаецца злёгку эпатаваць суразмоўцу, узнімаючы ў творчасці, ды іншы раз і ў гутарцы, табуіраваныя тэмы са сферы палітыкі, маралі, грамадскіх нормаў паводзін. Аднак пісьменнік заўжды віртуозна праходзіць праз іх, трымаючы размову на вышыні інтэлекту.**

Інтэлект — гэта, сапраўды, тое, што вызначае А. Андрэева. Інтэлект і адсутнасць самалюбавання перад вялікай аўдыторыяй. Менавіта таму ён, прафесар філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, карыстаецца такой сімпатыяй у сваіх студэнтаў, сярод якіх немала сапраўдных прыхільнікаў яго творчасці. Тых, хто чакае яго новых кніг і ахвотна купляе іх.

Сам жа Анатоль Андрэеў на пытанне, наколькі сучаснаму чалавеку наогул трэба мець дома кнігі, адказвае даволі катэгарычна:

*— Мне здаецца, трэба размяжоўваць чытача і спажыўца забаўляльнай інфармацыі. Ёсць людзі, якія, як планеты вакол свяціла, круцяцца вакол кніжнасці. Яны могуць чытаць мастацкую літаратуру, у іх сфарміраваны духоўныя патрэбнасці. Кнігі — сапраўды рэгулятар іх жыцця. Вось такім людзям кнігі патрэбны, бо яны — чытачы. Аднак іх не надта многа. Можа, працэнты тры (я не лічыў, гэта маё ўражанне наконт таго, наколькі іх мала). Дзевяноста сямі кніга ніколі не была патрэбна і не будзе. Тое, што яны чытаюць, — гэта, уласна, не кнігі, хаця выглядаюць гэтаксама як і сапраўдная мастацкая літаратура і нават называюцца кнігамі. Аднак начынне гэтых вокладак — не літаратура, а чытва. І стваральнікі гэтага чытва — не пісьменнікі, а проста аўтары. Чытва можа быць надта папулярным, увайсці ў шэраг "бестселераў", аўтар стане забяспечаным і нават тытулаваным. Але ўсё гэта па-ранейшаму не будзе мець ніякага дачынення да працэсу стварэння сапраўднай літаратуры і пісьменніцтва.*



Ён упэўнены, што пісьменнік, якім бы ні сталася грамадства, што парадзіла яго, будзе штучнай з'явай, таму яго раздражняе паўсюднае ўжыванне слова "пісьменнік" замест "літаратар" і "аўтар":

*— Мне падаецца, што сёння некаму проста выгадна блытаць гэтыя паняткі. І гэта зразумела. Маленькі працэнт людзей нясе ў сябе пісьменніцкія якасці. Але любая нацыя сваёй візітнай карткай робіць менавіта пісьменніка. Усе любяць сёння спартсменаў, эстрадных спевакоў. А вуліцы называюць усё роўна ў гонар пісьменнікаў. Таму што пісьменніцтва — самы прэстыжны спосаб самасцвярджэння. І, між іншым, самы складаны. Таму так соладка называцца пісьменнікам. Але, наўмысна адбываецца дэвальвацыя паняткі "пісьменнік" ці спантанна, вынік станецца аднолькавы — знішчэнне літаратуры. Калі мы пачынаем размаўляць пра колькасныя паказчыкі ў літаратуры, мы ўжо становімся на гэты шлях.*

Калі гаварыць пра пісьменніцкую вядомасць, Анатолю Андрэеву, здаецца, скардзіцца няма на што. Яго раманы ведаюць у краіне і за яе межамі. Ва ўсялякім разе тыя, каго ён сам далучае да чытачоў. І факт раскручанасці яго пісьменніцкага іміджу выдаўцамі таксама мае месца. Аднак Анатоль Мікалаевіч да самога працэсу "раскруткі" літаратуры ставіцца скептычна:

*— Раскручанасць — гэта не пытанне мастацкай якасці, гэта пытанне маркетынгу. Калі літаратара трэба "раскручваць" толькі таму, што інакш яго кнігу нізкага мастацкага ўзроўню ніхто не купіць, то гэта адно. Калі казаць пра "раскрутку" пісьменніка, за якім стаіць рэальная мастацкая якасць, то гэта, па вялікім рахунку, не яго праблема. Вам трэба, каб чыталі добрую мастацкую літаратуру? Калі трэба, то паклапаціцеся, калі ласка, каб яна даходзіла да граматнага чытача! Асабіста я чытача спецыяльна не шукаю. І мне цяжка ўявіць, каб вялікія творцы гэта рабілі. Пушкін, ствараючы "Яўгенія Анегіна", гуляючы размаўляў з вечнасцю. А тыя, каму была цікавая гэтая гутарка, проста ўключыліся ў яе пасродкам прачытання і абмяркоўвання твора. Між іншым, нягледзячы на тое, што ў нас "Яўгеній Анегін" уваходзіць у школьную праграму, поўнасцю, удумліва і з разуменнем гэты вялікі твор прачыталі адзінкі. Аднак калі ты здольны прачытаць "Яўгенія Анегіна", калі ты настолькі адораны, то маеш ужо статус чытача, а не спажыўца інфармацыі кшталту "show must go on non stop". Гэта значыць, ты ўжо ўцягнуўся ў цеснае кола тых, хто жыве літаратурай і для каго, зрэшты, і пішуцца літаратурныя творы.*

Ён пастаянна падкрэслівае, што сур'ёзная літаратура не акупляецца, бо яна не апускаецца да патрэбнасцей і цікавасцей масавага чытача. Тое, што акупляецца, ніяк не стыкуецца з літаратурай. Гэта творы, зробленыя дзеля камерцыі. І, як бы па-майстэрску яны ні былі зроблены (Уліцкая, Рубіна, Акунін), яны не ўздымуць чытача на вышэйшы ўзровень разумення сябе і сусвету — у лепшым выпадку проста пацешаць.

*— Сапраўдная літаратура фармальна не адрасавана нікому, — кажа Андрэеў. — Але па-сутнасці менавіта яна і ёсць захавальніца культурных традыцый. Галоўная праблема сучаснасці ў тым, што такую літаратуру перасталі адрозніваць ад падробак. Яе ва ўпор не бачаць. А толькі яна і патрабуе падтрымкі.*

# Духоўная прастора свету

Міхась КЕНЬКА

Мастацкі пераклад у Беларусі мае адметную асаблівасць. Ён цалкам выконвае сваё прызначэнне: знаёміць чытача з творам замежнага аўтара — толькі тады, калі арыгінал не быў яшчэ перакладзены на рускую мову, з дапамогай якой найбольш і даведваюцца беларускія чытачы пра літаратуру іншых краін.

Быў час, калі, тым не меней, многа перакладалі і з рускай мовы, і праз рускую мову — дзеля сведчання дружбы народаў, дружбы літаратур. У постсавецкія часы такія пераклады ўжо не замаўляліся выдавецтвамі: кніга зрабілася таварам, і перакладаць было выгадна толькі тое, што можна прадаць. Але і ў гэтых умовах беларускі мастацкі пераклад вызначыўся адмыслова. На беларускую мову не кінуліся перакладаць масавую літаратуру: ёй завалілі прылаўкі "чоўнікі" — як арыгінальнай, рускай, так і перакладзенай на рускую, выдадзенай у Расіі і прывезенай з Расіі. Калі ў Беларусі і выдавалася нешта з ліку моднага чытва, то, зноў жа, у перакладах на рускую мову. Можна згадаць хаця б выдадзены прыватным выдавецтвам "Фантакрым-мега" збор твораў Джэймса Хэдлі Чэйза ці не ў трыццаці тамах, наспех перакладзены групай нікому не вядомых перакладчыкаў, або "Девушки из Соерсвилля", эратычны дэтэктыў Фрэнсіса Паліні, пераствораны спрактыкаваным перакладчыкам Вадзімам Небышынцам. Зразумела, нават у пачатку 90-х гадоў, у пару буму масавай літаратуры, вялікага попыту на дэтэктыў, фантастыку, прыгодніцкія творы, выдаўцы ўсё ж баяліся, што ў беларускім перакладзе нават самае папулярнае не атрымаецца прадаць. Да таго ж, яны не арыентаваліся яшчэ ў замежнай масавай літаратуры і не працавалі "на апярэджанне" выдаўцоў з Расіі. Так, скажам, не было сэнсу выдаваць славуты, шырока разрэкламаваны дэтэктыў Дэна Браўна "Код да Винчи", пасля таго, як яго ў дастатковай колькасці панавезлі з Расіі тыя ж "чоўнікі". А вось, скажам, у Польшчы гэтую кнігу выдалі, бо ў палякаў не было магчымасці прачытаць твор на якойсьці іншай мове, акрамя польскай, а прачытаць хацелася, бо дэтэктыў быў шырока распрапагандаваны, меў нават скандальную папулярнасць.

Нягледзячы на тое, што ўмовы для перакладу якаснай літаратуры, і асабліва лірыкі, якая на кніжным рынку амаль не мае попыту (калі не лічыць твораў папулярных паэтаў), склаліся неспрыяльныя, беларускі мастацкі пераклад не змізарнеў, не згінуў. І ў першую чаргу таму, што не перавяліся яшчэ энтузіясты гэтай справы, людзі, захопленыя перакладам, якія аддаюць яму свой час, сваё натхненне, сваю любоў.

Адным з такіх энтузіястаў быў і застаецца паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Мікола Мятліцкі. Першы свой пераклад ён зрабіў яшчэ ў 1973 годзе, менавіта тады быў надрукаваны ў "ЛіМе" верш Расула Гамзатава "Жаночая ноша". Штуршком для таго, каб пазнаёміць з ім беларускага чытача, сталася паездка ў Дагестан, сустрэчы з Гамзатавым, якія потым пераслі ў сяброўства. Першы поспех акрыліў перакладчыка-пачаткоўца, заахвоціў ягоную цікавасць да літаратур іншых народаў, з'явілася жаданне пераўвасобіць па-беларуску тое, што яму самому падабалася, што хацелася перадаць на роднай мове і далучыць да здабыткаў нацыянальнай культуры. Пераклады назапашваліся, некаторыя друкаваліся. Урэшце Мікалай Міхайлавіч сабраў іх і выдаў зборнік "Лучнасць". Гэта чыста аўтарская анталогія, якая не прэтэндуе на ўсеахопнасць, паўнату, не разлічана на глыбокае знаёмства з творчасцю таго ці іншага прадстаўленага ў ёй паэта. Але яна па-свойму дае ўяўленне пра духоўную прастору паэзіі свету, высвечвае грані лірычнага светабачання розных народаў.



Анталогія кампазіцыйна выбудавана адмысловым чынам. У пачатку змешчана падборка перакладаў вершаў паэтаў народаў СССР, якія сумесна змагаліся супраць фашысцкай навалы. І самі вершы адносяцца да гадоў Вялікай Айчыннай вайны, кожны з іх пазначаны датамі ад 1941 да 1945 года. Можна было б выказаць шкадаванне, што вось таго ці іншага верша не хапае, што нехта не трапіў на старонкі кнігі — але ці варта? Перакладчык не імкнуўся ўсебакова прадставіць лірыку ваенных часоў. Ён хацеў, каб чытач пранікся духам таго часу, успрыняў пафас змагання, якім жылі народы розных краін, апантаныя жаданнем выгнаць ворага з роднай зямлі.

А далей укладальнік у алфавітным парадку змясціў пераклады прадстаўнікоў розных краін — ад Азербайджана да Чылі. І тут, зноў жа, чытач, які хоча ўбачыць у такой сістэматызацыі нейкі асаблівы, глыбінны сэнс, урэшце зразумее, што перакладчыкам кіравала жаданне ніяк не вылучаць нешта з шэрагу — ён дае прастору для выбару таго, што каму спадабаецца. Кожны вольны шукаць сам краіну, аўтара ці верш паводле ўласнага выбару. А то і чытаць запар — ад пачатку да канца. Чытаць і знаходзіць тое, што ляжа на душу, спадабаецца, будзе адпавядаць уласным запатрабаванням, настрою. Вось, скажам, верлібр таджыкскага паэта Мухтарама Хатама "Нажніцы":

*Стрэлкі*
*На насценным гадзінніку*
*Штогадзінна раз кожны*
*Быццам нажніцы*
*Рэжуць і адразаюць*
*За імгненнем імгненне*
*Гадзіну за гадзінай*
*Наш час*
*Наша жыццё…*
*…і мы задаволены калі час*
*наш праходзіць імкліва.*

Цудоўныя радкі, арыгінальна выказаная думка, выдатна перадададзена настраёвасць, верш кранальны, урэзваецца ў памяць. А вось канадзец Райманд Саўсцер свой верлібр "Дзьмухавец" будуе на звычайнай, будзённай, не раз бачанай з'яве, ад якой думка паэта пераходзіць да нечага свайго, што не дае спакою, трывожыць:

*Калі б толькі*
*не нахабства твае,*
*дзьмухавец,*
*гэтая трэснутая глыба*
*жалезабетону*
*так і жыла б жыццё ўсё —*
*сумна і шэра.*

Натуральна, што не адзін чытач задасца думкай: як зроблены ўсе гэтыя пераклады, няўжо Мятліцкі ведае столькі моў? Зразумела, шэраг перакладаў рабіўся па падрадкоўніках, але ці так гэта важна? Галоўнае ў перакладах тое, ці захавана паэзія, настраёвасць, кранальнасць верша. Калі ўжо каму хочацца праверыць якасць перакладу, параўнаць яго з арыгіналам, то вось знаёмы са школы верш Афанасія Фета:

*Ластаўкі прапалі,*
*Ўчора на зары*
*Зноў гракі ляталі,*
*Сеткаю мільгалі*
*Вунь ля той гары.*

*Вечарам дрымотна,*
*Шляху не відно.*
*Ліст ляціць шапотна,*
*Вецер дзьме самотна,*
*Грукае ў акно.*

*Лепш грудзьмі без страху*
*Вею напаткаць!*
*Спуджаныя шляхам,*
*Крыл узмах за ўзмахам,*
*Журавы ляцяць.*

*Выйдзеш: свет — няволя*
*І нуда — хоць плач!*
*Глянеш — цераз поле*
*Перакаці-поле*
*Скача, быццам мяч.*

Таму, хто добра ведае гэты верш, памятае яго, нават не трэба звярацца з кнігай — параўноўваецца адразу, на слых.

Калі ты, чытач, добра знаёмы з лірыкай па-суседску вядомага нам класіка ўкраінскай літаратуры Тараса Шаўчэнкі, то параўнай вось гэтыя радкі:

*Не зайздрось*
*багатым людзям:*
*Багаты не мае*
*Ні прыязні, не любові —*
*Ён усё наймае.*
*Не зайздрось*
*і магутнаму,*
*Бо той прымушае.*
*Не зайздрось і славалюбу:*
*Слаўны добра знае,*
*Што не любяць яго людзі,*
*А больш тую славу,*
*Што ён цяжкімі слязамі*
*Выліў на забаву.*

Любіш Расула Гамзатава, ведаеш яго паводле рускіх перакладаў — прачытай па-беларуску:

*У індусаў лічыцца*
*з пашанай:*
*На зямлю перш змеі прыпаўзлі.*
*Горцы вераць,*
*што арлы крыланы*
*Першыя насельнікі зямлі.*

*Я ўсё ж думаць*
*схільны — ў часаў далі*
*Людзі ўсё ж з'явіліся раней.*
*Слаўныя арламі потым сталі,*
*Хіжыя — клубком*
*грымучых змей.*

Дастаткова? Тады лепей не задавацца пытаннем, што захавана ў перакладзе, што, можа, страчана, а давярыцца перакладчыку, самому вызначыць, ці ёсць паэзія ў нанава створаных радках. Згадаем на завяршэнне яшчэ верш аднаго таджыка, Муміна Канаата, — "Каханне":

*Каханне прыйдзе, як агонь.*
*Спатоліць сэрца,*
*сцісне скронь,*
*А паспрабуеш абысці —*
*То зможа ў схованцы знайсці.*
*Сказаў, хто вырваўся з агню, —*
*"Спакойны я!"*
*Скажы — маню.*
*Агонь кахання — нам відней —*
*Ў далечы паліць шчэ мацней.*

Мяркуйце самі пра якасць, але ўсё ж як не адзначыць тут і неўпрыкмет выяўлены нацыянальны каларыт, і глыбіню думкі, і арыгінальнасць яе выяўлення.

Але — досыць! Навошта падказкі, навошта навязваць сваё — чытайце кнігу "Лучнасць", яна, у адпаведнасці са сваёй назвай, далучыць вас да ўзораў сусветнай пазіі, дасць магчымасць пабыць у духоўнай прасторы паэзіі. Анталогія перакладаў Міколы Мятліцкага, спадзяёмся, задаволіць густы самых патрабавальных чытачоў.

У прадмове Алеся Карлюкевіча да кнігі выказваецца думка, што ў зборніку перакладаў "бачыцца цэлая праграма, разлічаная на будучыню і ў яго асабістай працы" і што раздзелы з перакладамі "ў блізкім часе стануць асобнымі кнігамі". Што гэта так, пераконваешся, калі знаёмішся з нядаўна надрукаванымі новымі перакладамі Міколы Мятліцкага з лірыкі Абая Кунанбаева, якія ўжо склалі асобную кнігу.

А што яшчэ можа даць знаёмства са зборам любоўна выбраных, прачутых і ашчадна, з душэўным трымценнем перавыказаных і ўсё ж адвольна ўзятых перакладчыкам вершаў паэтаў, надзвычай розных і непаўторных? Якраз тое, што яны адабраныя паводле асабістых душэўных схільнасцей, наводзіць на думку: значыць, варта пачытаць і іншыя творы гэтых паэтаў, пазнаёміцца з аўтарамі, іх жыццём і творчасцю больш грунтоўна. У гэтым бачыцца карысць выдання падобных анталогій. Хочацца спадзявацца, што іх будзе яшчэ многа, што прыклад Міколы Мятліцкага натхніць на стварэнне. І што яшчэ не раз і сам Мікола Мятліцкі пазнаёміць нас з новымі ўзорамі паэзіі народаў свету.

## Школа добрых пачуццяў

# Летуценніца

Раіса БАРАВІКОВА



Трымаю ў руках невялікі томік вершаў Веры Вярбы з простай і адначасова ёмістай назвай "Выбранае", у які ўвайшлі вершы і паэмы з яе папярэдніх кніг, што выдаваліся цяпер ужо ў такіх далёкіх гадах другой паловы мінулага стагоддзя: "Вочы вясны", "Белыя пісьмы", "Высакосны год" і "Сіняя бухта". На жаль, ніводнай з гэтых кніг няма ў маёй хатняй бібліятэцы і, мяркую, толькі з той прычыны, што набыць у кнігарнях тым часам іх было нялёгка: вельмі хутка раскупляліся. І зноў жа, думаю, зусім не таму, што быў кніжны бум, вялікі попыт на паэтычныя зборнікі, а проста гэта была Вера Вярба! Вельмі вядомая, славутая менавіта дзякуючы сваёй паэзіі: яе вершы чыталі, іх любілі і імі захапляліся. Яна ж сама жыла дзесьці па-за імі — маю на ўвазе, што ніякім чынам сваю творчасць не рэкламавала: не згадваю, каб пад якую-небудзь дату арганізоўвалі яе творчы вечар, ды і на сустрэчы з чытачамі па лініі бюро прапаганды яна выязджала нячаста… Нават шырокавядомая песня "Ручнікі" на яе словы вельмі хутка стала народнай, калі сам аўтар ужо нярэдка і не згадваўся. І разам з тым яе імя гучала, а кожная публікацыя ў перыядычным друку для шматлікіх аматараў паэзіі была падзеяй.

Захапляюся радкамі з цыкла "Белыя пісьмы", які завяршае адзін з раздзелаў выбраных вершаў — "Сны". Але чамусьці рупіць вярнуцца да папярэдняга раздзела "Летуценніца". Хочацца яшчэ раз перачытаць вершы "Вуліца Купалы", "Лялька", "Вочы", васьмірадкоўе "Першы снег"… Не помню, што пра іх пісалі крытыкі, ды і ці пісалі, але мне асабіста яны, як і многія іншыя, бачацца маленькімі шэдэўрамі, стварыць якія магла толькі Паэт-жанчына. А калі, скажам, я пачала б складаць сусветную анталогію паэзіі, дык абавязкова ўключыла б у яе вершы: "Тоненькая Тоня пасвіць коней" і "Там, у багатых ружамі далінах"… У іх тая самая глыбіня душы, калі раптам на нейкім радку бы перацінаецца дыханне: "Там, у багатых ружамі далінах, // Дзе госціць восень, нібы светлы дзень, // Дзе неба ўзнеслі дрэвы на галінах, // Уранку плакаў малады алень…" — верш-малюнак, які кожны прачытае сугучна настроям сваёй душы.

І выключна па-свойму Вера Вярба ўмее раскрыць у вершах сябе, калі хочацца, свой годны жаночы пачатак: "— Не любіце жанчын па міласці, — // Паўтараю каторы раз, // Я званю, бо хачу справядлівасці, // Я званю, каб убачыць вас…", а ў другім вершы радкі гучаць як своеасаблівы папрок людзям, далёкім ад яе жыцця, ды і паэзіі таксама: "За што вы толькі не судзілі — // А я па-свойму ўсё раблю. // На зайздрасць вам мяне любілі, // І я на зайздрасць вам — люблю"… І, безумоўна ж, яна майстар, калі праз слова стварае пэўны малюнак, як у вершы "У непаўторнасці світання": "…З яловых шышак і бярозы // Касцёр на тоненькім агні. // І слова адшукаць не проста, // Каб не парушыць чысціні. // Сказаць: "кахаю" быццам позна, // А прамаўчаць — як бы лягчэй. // Міне ў чаканні дзень трывожны, // А сум не горнецца з вачэй"…

Томік свайго "Выбранага" Вера Вярба падпісвала мне ў 1976 годзе… Больш як трыццаць гадоў мінула з таго часу. Мы рэдка калі сустракаемся, у кожнай з нас — сваё жыццё, але ведаю, што яна па-ранейшаму жыве ў доме на горцы. Для мяне гэтая горка — вяршыня! Так, у выдатнай паэтэсы Веры Вярбы — свая вяршыня ў нашай айчыннай паэзіі, якая заўжды будзе заставацца яркай старонкай у залатой кнізе прыўкраснай, высокай і вельмі тонкай лірыкі.

Наталля ПАХОМЧЫК

# Пясочны гадзіннік з рук майстра

**Назва зборніка літаратурна-крытычных артыкулаў і нарысаў, рэцэнзій і нататак Лады Алейнік — “Пясочны гадзіннік” — здатная выклікаць шэраг асацыяцый-малюнкаў… Вось тонкім роўным струменьчыкам сыплецца праз вузкую адтуліну пясок, вымяраючы час, адлюстроўваючы вечнасць. Хай пройдзе хоць тысяча гадоў, а перавярні гадзіннік — і час ізноў пабяжыць дробнымі крупінкамі. Так добрыя мастацкія творы, што паспяхова “праходзяць ініцыяцыю”, трапляюць у залаты фонд — класіку.**

Пакаленні зменяцца, а твор, хоць і перакулены дагары нагамі ў прачытанні далёкага нашчадка, усё адно будзе для яго ўніверсальнай крыніцай жыццёвай мудрасці. Гэта — у лепшым, ідэальным выпадку. А цяпер уявім, што пясочны гадзіннік перавярнулі, але час не пабег. Нешта перашкаджае яму. У руках добрага знаўцы такі гадзіннік набывае асаблівую празрыстасць: адразу відаць, што замінае яго хадзе. Гэтак і дасведчаны літаратурны крытык: у яго разборы твораў адразу добра відаць, што тут “не праходзіць” і што рабіць, каб “прайшло” і “дайшло” да чытачоў не аднаго пакалення. Гэта — пра “Пясочны гадзіннік” Лады Алейнік.

Раскіданыя дагэтуль па перыёдыцы, крытычныя матэрыялы Лады Алейнік, прытуліўшыся пад адной вокладкай, набылі іншае прачытанне, ці, як кажуць, другое дыханне. Дазволім сабе маленькую хітрасць і з самой кнігі працытуем сёе-тое наконт падобнага феномена (тут — у дачыненні да твораў Юрася Нератка з яго кнігі “Закуцце”): “…паасобку, «раскіданыя» па часопісах, яны ўспрымаліся неяк паверхоўна, інакш кажучы, не дазвалялі ўбачыць цэльна аўтарскую канцэпцыю… А вось кніга якраз вельмі выразна прадэманстравала эстэтычныя ўстаноўкі пісьменніка, выявіла комплекс ідэйна-мастацкіх прынцыпаў творчасці і, як бы пафасна ні гучала, — адказную грамадзянскую пазіцыю аўтара”. Тут жа надзвычай патрабавальная — пазіцыя крытыка. І гэта падбадзёрвае: як паказвае практыка, вышэйшая планка крытыкі — найвастрэйшыя дыскусіі, падчас якіх мастацтва слова ўрэшце набывае ўстойлівы імунітэт супраць шматлікіх заган.

Першы раздзел кнігі і ўяўляе сабой ці не прышчэпку для сучаснай літаратуры ад аднадзёншчыны: тут разглядаецца плён працы тых, хто “ініцыяцыю” часам ужо прайшоў. Гэта Алесь Пальчэўскі, Янка Скрыган, Сяргей Грахоўскі (іх жыццёвы і творчы шлях разглядаецца ў падраздзеле “Тры таварышы”), Васіль Быкаў (вельмі глыбокі аналіз асобных твораў — у падраздзелах “Вызваленне і ачышчэнне” і “Пясочны гадзіннік эпохі”); а таксама Іван Навуменка, Дзмітрый Бугаёў, Алег Лойка, Міхась Мушынскі — карыфеі беларускага літаратуразнаўства (пра іх гаворка вядзецца ў падраздзеле “Настаўнікі”; так, дарэчы, можна было б смела назваць увесь раздзел).

Кожны студэнт, які спачатку слухаў лекцыі выкладчыка, а ўжо потым знаёміўся з яго працамі, ведае: чытаючы, нібыта працягваеш чуць голас настаўніка — той жа стыль, тыя ж ноты. У дачыненні да “Пясочнага гадзінніка” адзначым: жывы голас аўтара тут не тое што адчуваецца — ён літаральна гучыць. Прасіцца метафара — “усхваляваны сінтаксіс” (асабліва адчувальны там, дзе гаворка вядзецца пра жыццёвы шлях пісьменніка, як, напрыклад, у артыкуле “Тры таварышы”). “Пясочны гадзіннік” у гэтых адносінах здзіўляе: закранаючы ў аналізе глыбокія, падводныя рухі твора, крытык нават у яго пераказе — звычайна ў такіх выпадках сухім, мёртвым — здольны задаць вострыя, блізкі да ўражання ад арыгінала эмацыйны фон (асабліва адзначаюцца гэтым артыкулы, прысвечаныя творчасці Васіля Быкава).

Другі і трэці раздзелы пацвярджаюць непарушнасць каштоўнасных арыенціраў у літаратуры, зададзеных на пачатку кнігі. Ізноў жа, словамі, прамоўленымі ў першым раздзеле кнігі ў адрас Дзмітрыя Бугаёва — “чалавека прынцыповых перакананняў, якія ён адстойвае бескампрамісна”, — можна смела ахарактарызаваць і аўтара “Пясочнага гадзінніка”: ні больш ні менш як па гамбургскім рахунку ў другім раздзеле ацэньваецца “беларуская жаночая паэзія пачатку XXI стагоддзя” (“Кветачкі і ягадкі”), проза Андрэя Федарэнкі (“Гісторыя сталення”), Анатоля Казлова (“Супрацьстаянне”), Уладзіміра Сцяпана (“Здольны… Адораны… Таленавіты”), Міхася Андрасюка (“Гравітацыя памежжа”) і проза для дзяцей Аляксея Якімовіча (“Сакрэты шчасця, або Выхаванне літаратурай”). Апроч таго, у другі раздзел трапіў даволі цікавы артыкул агульнага характару — “Масавая літаратура: сябар ці вораг?” (спадзяёмся, што гэты кірунак — абагульняльна-тэарэтычны — будзе гэтак жа плённа распрацоўвацца аўтарам і надалей). Трэці раздзел прысвячаецца кнігам Янкі Брыля (“Блакітны зніч”: артыкул “Апошняя жменя сонечных промняў”), Юрася Нератка (“Закуцце”: артыкул “«Майстар-клас» дэбютанта”), Ірыны Шауляковай (г. зв. “літаратурна-крытычны канструктар” “Рэстаўрацыя шчырасці” разглядаецца ў артыкуле “Крытычны практыкум”), а таксама зборнікам: “Яна і я” (“Эвалюцыя кахання”), “Карона Вітаўта Вялікага” (“Дэтэктыў: баланс і баласт”). Месціцца тут і артыкул, прысвечаны лірыцы Бранislава Спрынчана (“Осенний вереск”: “Гармонія слова і вобраза”), які, праўда, можа крыху збянтэжыць не столькі моўнымі “перабоямі” (беларускамоўная крытыка на рускамоўныя вершы), колькі тым, што гэтае вечна балючае пытанне двухмоўя ў артыкуле не закранаецца (а было б цікава пачуць разважанні аўтара наконт прыроды такіх, напрыклад, радкоў: “Жыта красуе, // ліпа мядуе, // бульба цвіце…” — // Вспомнилась строчка, // и лик Беларуси… // Вновь предо мною — во всей красоте”).



У цэлым жа, безумоўна, уся кніга прадэманстравала не толькі аўтарскае ўменне аналізаваць на высокім узроўні, але менавіта крытыкаваць — канкрэтныя творы па канкрэтных прычынах. У такім ракурсе, да прыкладу, разгледжана лірыка Л. Рублеўскай у “Кветачках і ягадках” (віртуозная, дарэчы, як назва, так і кампазіцыя гэтага падраздзела); асобныя творы М. Клімковіча, “Тэафіліі Сабоцкай” (калектыўны псеўданім), У. Сіўчыкава ў “Дэтэктыве: баланс і баласт” і інш. Але, зразумела, якой бы канструктыўнай і доказнай ні была крытыка, “зачапіць” аўтара — заўсёды працай простага (па-чалавечы гэта вельмі нават зразумела). У “Пясочным гадзінніку” гэты момант, думаецца, улічаны: нездарма тут неаднаразова далікатна падкрэсліваецца — “мажліва, гэта толькі мае суб’ектыўнае ўражанне” (заўвага, па сэнсавай вазе годная эпіграфа да ўсёй кнігі). І яшчэ: у падраздзеле “Здольны… Адораны… Таленавіты”, прысвечаным навелам Уладзіміра Сцяпана, бачыцца адкрытасць і гатоўнасць аўтара да перагляду сваіх ранейшых крытычных пазіцый. Вельмі паказальны момант.

…Неўзабаве час перавярне свой няўмольны пясочны гадзіннік. І думаецца, ацэнкі “Пясочнага гадзінніка” Лады Алейнік у большасці супадуць з “прысудам гісторыі”. Хаця ізноў жа — “мажліва, гэта толькі мае суб’ектыўнае ўражанне”.

Сярод кніг

# Нататкі захопленага кніжніка

Сяргей ГАЧКАВЕЦ

**Казлоўскі, М. М.**
**Да кніжных скарбаў дакрануся…: нататкі бібліяфіла / Міхась Казлоўскі. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 381 с.**

Легендарны расійскі кнігазнаўца, збіральнік і даследчык гісторыі кнігі А. Сідараў заўважыў: “Збіранне кніг можа быць бязмэтавым і бязглуздым, смешным: такім яно было ў Плюшкіна. Пераўтваралася ў хваробу. Вядомыя прыклады збірання ўсяго чаго заўгодна. Збіральніцтва можа ператварыцца ў манію. Але мы ведаем, што збіральніцтва можа і часцей бывае свядомым, мэтанакіраваным, мудрым. Калі яно мае мэту, лепей гаварыць пра калекцыяніраванне. «Збірае» гогалеўскі Плюшкін. Але калі збіральнік пачынае «збіраць калекцыю» — ён становіцца творцам…” Вышэйшая мэта — руплівае стварэнне ўласных збораў, вызначэнне іх скіраванасці, мэтавасці, асэнсаванне, дзеля чаго складваецца калекцыя. Ці ёсць у маладзечанскага кніжніка, апантанага збіральніка беларусікі (не толькі кніг, але і перыядычных выданняў) Міхася Казлоўскага гэтая “вышэйшая мэта”? Ці кіруецца ён нейкай “звышзадачай”, збіраючы па ўсёй Беларусі і нават за яе межамі згубленыя, малавядомыя кніжныя скарбы?.. Пытанні дастаткова няпростыя і ў нечым носяць інтымны, надзвычай асабісты характар. І наўрад ці варта за самога Міхася Казлоўскага шукаць адказы на іх. Тым болей што пра многае ў яго стаўленні да збірання беларускай кнігі гаворыць яго ўласная праца — ёмісты, сімпатычны з паліграфічнага пункту гледжання томік “Да кніжных скарбаў дакрануся…”

Дзеля справядлівасці трэба заўважыць: кніга паўтарае выдадзеную год таму працу М. Казлоўскага “Пра кніжнікаў і кнігі: нататкі бібліяфіла” (Мінск, “Кнігазбор”, 2010 год). Праўда, на адвароце тытульнага аркуша новага выдання адзначана: “Тэкст (са зменненнямі) друкуецца па выданні…” Чым жа кіравалася “Літаратура і Мастацтва”, перавыдаючы літаральна наўздагон “нататкі бібліяфіла”? Тым болей што ў прынцыпе змены не дужа істотныя… Тыраж “кнігазбораўскага” выдання — 100 экзэмпляраў. Кніга фактычна прайшла па-за ўвагай нават невялікага атрада беларускіх кнігазбіральнікаў. Дакладней: ведаць многія ведалі, а вось у руках не патрымалі. На шчасце, былі добрыя, падрабязныя згадкі ў друку. Тыраж кнігі ў “Літаратуры і Мастацтве” — 1100 экзэмпляраў. Розніца, пагадзіцеся, істотная. Відавочна, што цяпер “нататкі бібліяфіла” з’явяцца ў кнігарнях краіны, трапяць у многія бібліятэкі. Можна спадзявацца, што з кнігазнаўчымі вышукамі таленавітага збіральніка пазнаёмяцца і ў Віцебску, і ў Гомелі, і ў Брэсце, і ў Магілёве, і ў Гродне… А мо нават і ў невялікіх раённых гарадках і мястэчках. На крайні выпадак — там, дзе ёсць крамы “Белкнігі”. А іх па краіне — больш як 80…

Прысвяціўшы сваю кнігу “Вялікаму кніжніку, незабыўнаму Віктару Ціпавічу Казлоўскаму”, Міхась Казлоўскі з першых старонак стварае настрой для чытача, уводзіць яго ў бібліяфільскую прастору. Распавядаючы пра старых правінцыйных кніжнікаў, выдаўцоў з мінулага часу (“Верны рыцар беларускай кнігі”, “Хутарок у далёкіх Шапавалах” і інш.) альбо ўзнаўляючы акалічнасці выдавецкай справы ў Беларусі 1920 — 1930-х гг. (“І тыя пялёсткі зжатай красы”), ці раскрываючы таямніцы паходнага экзэмпляра кнігі (“Рамантычныя вобразы кніжных знакаў”, “Пра што расказалі аўтографы” і інш.), аўтар адорвае нас багатай кнігазнаўчай інфармацыяй. Нататкі бібліяфіла становяцца праваднікам па шматабсяжным кніжным акіяне. “Лоцман” Міхась Казлоўскі ўважліва праводзіць чытача паміж рыфамі другаснага матэрыялу, дазваляе разглядзець галоўнае і следам за бібліяфілам пранікнуцца вялікай павагай да старой беларускай кнігі.

Даследчык асаблівую ўвагу звяртае на беларускія кнігі, выдадзеныя ў Заходняй Беларусі і Літве ў 1920 — 1939 гг., у іншых краінах. Многія старонкі адкрываюць невядомыя дагэтуль факты, прынамсі — не вядомыя шырокаму чытачу. Ды і зроблена гэта праз узнёслы расповед пра ўласныя пошукі тае ці іншае кнігі.

У Беларусі не так шмат аўтараў, для якіх першаасновай гісторыка-публіцыстычнага, гісторыка-краязнаўчага выступлення ў друку з’яўляецца бібліяфільскі росшук. Такіх даследчыкаў можна пералічыць ці не па пальцах адныае, мо дзвюх рук. Будзем спадзявацца, што новае выданне “нататак бібліяфіла” М. Казлоўскага справакуе цікавасць да гэтага кірунку. Няма ніякіх сумненняў, што беларускім кніжнікам ёсць пра што расказаць. І, канечне ж, у першую чаргу пра свае пошукі маглі б стварыць выдатныя кнігі Алег Судлянкоў, Аляксандр Вашчанка — людзі, якія не толькі з’яўляюцца апантанымі збіральнікамі, але яшчэ і ўмеюць пісаць, здольныя адрозніць галоўнае ад другаснага. Перавыдання патрабуе і даўнейшая “палымянская” кніга Дзмітрыя Мароза. У свой час ён друкаваўся ў маскоўскім “Альманаху бібліяфіла”. Пісьменнікам можна было б падрыхтаваць успаміны пра кніжныя зацікаўленні Барыса Сачанкі. Велізарная бібліятэка ёсць у Сяргея Чыгрына са Слоніма. Словам, пра беларускае кнігазбіральніцтва, асабліва цяпер, трэба распавядаць.



Мігель Атэра Сільва

**Ганаровым госцем Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, якая штогод праводзіцца на пачатку лютага, сёлета будзе далёкая лацінаамерыканская краіна — Венесуэла. Асобны дзень на выстаўцы прысвячаецца здабыткам кнігадрукавання Расійскай Федэрацыі. Да традыцыйных “кніжных імянін” Мікола Шабовіч пераклаў на беларускую мову творы венесуэльскіх паэтаў Мігеля Атэра Сільвы і Луіса Пасторы, а таксама вершы расійскай паэтэсы Любові Турбіной.**

## Мая песня імчыць да мора

*Кедры старыя ўздымаюць ствалы,*
*быццам бы продкі вады і ценю,*

*а маладыя — хаваюць карэнне*
*ў залежах руд і ўплятаюць кроны*
*ў бушпрыты ўрагану,*
*хабільа хаваюць пад шурпатай карой*
*цвёрды і белы жывы мармур*
*сваёй драўніны,*

*голае ззянне кветак*
*святляе мае паветраныя вітрыны.*

*Мае сокі цякуць у мора.*

*Папугаі ўздымаюць зялёны свой сцяг*
*і пунсовы ў цяснінах зары.*

*Між берагам і берагам,*
*між лесам і лесам скрыжоўваюцца*
*мірныя і добрыя стрэлы — чаплі.*

*Ягуары ўдыхаюць у цясноцці ліян*
*цяжкі жаўтлявы водар сельвы.*

*Рыбы плывуць разам са мною.*
*Іх кінжалы ўспорваюць лона*
*паветра і ў ім прабіваюць дарогу.*

*Мая кроў цячэ ў мора.*

*Мае сцёкі бачаць*
*крывыя абрысы хацін*
*без дыму і без надзеі на заўтра.*

*Ў маіх водах адлюстроўваюцца пагляды*
*метысаў з вёскі, забытай на бязмежнай*
*раўніне.*
*Мае прытокі нясуць гітарнае тромканне*
*і песню, якая ахрыпла ад рому.*

*Ў маіх затоках купаецца голая жанчына,*
*заўсёды адна і тая ж.*
*Хаця маё сэрца тройчы,*
*як апостал Пётр,*
*адраклося ад яе.*
*Маё жыццё цячэ ў мора.*



Луіс Пасторы

## Балада пра лань

*На дыбачках ты праходзіш*
*па стольскіх маіх пачуццях,*
*жанчына, што не цалуе*
*і што не спіць на плячы.*
*Вецер цябе кранае...*
*Стаць бы мне ветрам нячутным!*
*Хто мне сказаў, што маёю была*
*ты пад коўдрай начы?*

*“Мая! Мая!” — паўтараю,*
*і ты амаль не чужая.*
*Ды толькі болей мая ты,*
*калі пра гэта маўчу.*
*Як твае вочы-зоры*
*без воч маіх пажываюць?*
*Чуй жа: к табе на стрэчу*
*ў думках штоноч лячу.*

*Ты зусім не мая —*
*я паверыў у гэта зарана.*
*Сястра ўсяго,*
*што квітнее побач з табою наўкруг,*
*жанчына, вазьмі мае рукі, зрабі з іх рану*
*і пакінь свой мілы анфас у раме маіх рук.*

*Далоні твае... Далоні ці, можа,*
*лясныя птушкі?*
*Кожная з іх прывязана*
*стужкай-ракой рукі,*
*якая паблізу грудак*
*бруіцца-звініць нязмушна.*
*Нявольніцы цела, палонныя матылькі.*

*Твае валасы —*
*цень пяшчотна-працяглых дажджоў,*
*што адорвалі свежасцю днямі й начамі.*
*Тваё цела з дажджынак*
*празрыста трапеча ізноў,*
*адчуваючы радасны дождж*
*над тваімі плячамі.*

*Набліжаецца ноч,*
*і на вочы твае падаюць валасы,*
*штосьці сумнае нараджаецца ад цябе,*
*адначасна святой і грэшнай.*
*Самоцісць сляза*
*твой твар незямной красы,*
*які шчэ нядаўна зіхцеўся ўсмешкай.*
*Тады ты ў маіх вачах, куды ні глянь,*
*з табой я —*
*нібыта вада з прыціхлай травой.*
*Здаецца, што з воч тваіх*
*выскоквае лань,*
*і я не ведаю, хто я,*
*ды ведаю, што я твой.*
*Жанчына, ты мая лань.*
*У цябе нават тварык лані.*
*І яшчэ ты ведаеш тайны бегу і ветру.*
*Ці я цябе затрымаю*
*апошнім небам жаданняў,*
*калі ў цябе не застанецца ні неба,*
*ні нават нетраў.*

*Жанчына, цябе я клічу.*
*Калені твае — матылі,*
*цела тваё імкліва хвалюецца*
*ледзь не штоміг,*
*ногі твае, што цвёрда стаяць на зямлі,*
*неба, што пачынаецца ад сцёгнаў тваіх.*

*Твае шчыкалаткі,*
*сцёгнаў тваіх паўкруг,*
*тваё цела, падобнае да раўніны,*
*ты як зярнятка ад яблыка*
*для маіх нястрыманых рук,*
*маленькая костачка, салодкая, як фінік.*

*Ты згінаеш свой локаць і пішаш:*
*“Тады ў рады”...*
*А я, свае адкінуўшы сны,*
*упэўнена-цвёрда чытаю: “Заўжды”.*
*О фатальная праўда салодкай маны!*

*Вейкі твае — доўгія,*
*нібы пялёсткі ад кроз, перад сном,*
*што павекі сумежвае строга,*
*нос твой, жанчына,*
*пяшчотны, бы ў лані, нос,*
*твой пацалунак —*
*да блізкага берага радасная дарога.*

*Гэта старая прывычка —*
*табе гаварыць: “Мая!” —*
*нібы на самай справе*
*патрэбна ты мне не вельмі,*
*гэту прывычку даўно ўжо засвоіў я*
*і прамаўляю “мая”*
*амаль машынальна, няўцемна.*

*Іншую цябе клічу —*
*не паравыданне тваёй душы,*
*не копію, што паўтарае спакусны твой рот,*
*тую, што крочыла ціха з хлопчыкам у глушы,*
*хлопчыкам, якім быў я,*
*калі адкінуць пятнаццаць год.*

*Жанчына, ты мая лань, мая зорка,*
*што вогніць сабой бяскрай,*
*дзіва-дзяўчынка, не кінеш мяне ў бядзе,*
*уся — паэзія, пекла маё і нябесны рай,*
*Якога я ўжо не знайду аніколі й нідзе.*



Фота Кастуся Дробава



Любоў Турбіна

* * *

*Ты ёсць, — засведчыць Бог, —*
*Сярод нягод Сусвету!*
*Хто б растлумачыць змог*
*Высокіх зор сакрэты?*

*За белы шоўк плячэй*
*Што можа быць шыкоўней?!*
*Схавацца ад вачэй,*
*Ад ненавіснай поўні.*

*Прайшоўшы шлях зямны,*
*Замры, памры, ўваскрэсні,*
*Сплываючы не ў сны,*
*А ў яву — Песню Песняў.*

*О, бедны Саламон!*
*О, позірк Суламіфі!*
*Цячэ па венах кроў*
*З маіх найлепшых рыфмаў,*

*Хістаецца каўчэг —*
*Нявечная халупка…*
*Праз вецер, стынь і снег*
*Нясе пісьмо галубка…*

## Пісьмо

*Я пішу кожны дзень,*
*на маўчанне ў адказ не зважаю,*
*Ды любому жывому так важна,*
*калі заўважаюць.*
*Той, хто піша, чакае ліста,*
*як сасмяглы вадзіцы.*
*Пад падушкай нямеюць радкі —*
*ім таксама не спіцца.*

*На лінейцы — 12 см.*
*Нацянькі, паміж намі.*
*Я прагнозы надвор’я*
*старанна гляджу вечарамі:*
*Камфартабельны горад ля мора —*
*і ў свята, і ў будзень —*
*Ён па карце за Лондан далей,*
*і за Рым (пра Парыж мо не будзем?)*

*Не сыходзіць зіма,*
*завірушна бялее дарога…*
*Страпяніся, мой любы,*
*вясна ўжо стаіць ля парога.*

* * *

*Ты адыходзіў незваротна,*
*А я глядзела ўслед без слёз,*
*Яшчэ не зведаўшы самоты:*
*А раптам гэта не ўсур’ёз?*

*Была упэўнена чамусьці:*
*Яшчэ далёка да бяды*
*І твой пагляд развее вусціш,*
*Як і ў мінулыя гады.*

*Марную важныя мінуты,*
*Але самой мне вырашаць,*
*Каб зноў пакрыўджана-надзьмутым*
*Цябе штоночы ўваскрашаць.*

*Шмат слоў я знаю приваротных:*
*Схачу — і ў памяці на дне*
*Знайду, і зноўку незваротна*
*(Неверагодна, чынна-годна!)*
*Ты набліжаешся ка мне.*

* * *

*Вераснёвае лісце*
*Травы зноў ахіне…*
*Я лятала калісьці,*
*І наяве — не ў сне.*

*Бела-шэрая птушка,*
*Што ў нябёс сіняве.*
*Першы воклік дачушкі*
*Пацвярджае: жыве!*

*Я вярнулася долу,*
*У азяблую рань,*
*Падужэўшы, вядома,*
*Ды збялеўшы, як здань.*

*Калярыста-трывожна*
*Зноў завохрыцца гаць,*
*Толькі з целам бязбожным*
*Ці змагу саўладаць…*

*Шкло адно й не пусціла*
*Зноўку стаць, кім была…*
*Ногі ледзь валачыла,*
*А лятала, плыла!..*

* * *

*Пралятаюць міма —*
*знаць, такі маршрут —*
*Матылькі імгненняў, ластаўкі мінут.*
*Прабягаюць мышы стоеных начэй:*
*Стук дажджу па даху, шоргат ля пячэй.*

*Днямі — электрычкі рэжуць далягляд,*
*Раскашуе ліпа — маладзёвіць сад.*
*Грукатам асыпле з неба самалёт —*
*Зноў срабрысты — ў сінім — пралятае год.*

*Толькі з кожным годам вышае з травы*
*Дзьмухавец дзіцячай светлай галавы:*
*Мілы танканожка з выцвілым сачком*
*Бегае за кожным стрэчным матыльком!*

*Лепшыя хвіліны —*
*хоць жыццё бяжыць —*
*Менавіта сёння хочацца пражыць!*

# «Белкніга»: на любы густ!

**Адным з арганізатараў XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу з'яўляецца адкрытае акцыянернае таварыства "Белкніга". Пра яго падрыхтоўку да форуму нашаму карэспандэнту распавёў дырэктар арганізацыі Аляксандр Вашкевіч.**

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,
фота Кастуся Дробава**



— Для нашай установы сёлетняя Мінская міжнародная кніжная выстаўка далёка не першая, бо ў яе арганізацыі бяром удзел з часоў самага першага кірмашу. Не дзіўна, што ў шэрагу аспектаў працы мы абапіраемся на назапашаныя традыцыі. Але, паколькі імкнёмся развівацца і крочыць у нагу з часам, у асобных сферах эксперыментуем і выступаем як наватары.

Што да традыцый, дык "Белкніга" звыкла прадставіць чытачам кніжную і іншую друкаваную прадукцыю. Выстаўка пройдзе з удзелам усіх філіялаў — кніжных магазінаў "Белкнігі". Наведвальнікі кірмашу змогуць пазнаёміцца з выданнямі, а таксама набыць іх. Мы прапануем чытачам кнігі вядучых беларускіх выдавецтваў (як дзяржаўных, так і прыватных) на беларускай, рускай і англійскай мовах. Акрамя таго, прадставім самую разнастайную прадукцыю на любы густ: паштоўкі, сувеніры, календары, канцылярскія тавары, картаграфічныя выданні.

На сёлетняй выстаўцы "Белкніга" прадставіць прадукцыю і для пэўных катэгорый наведвальнікаў. Дашкольнікі і іх бацькі змогуць набыць свае любімыя казкі, гульні, мазаікі. А студэнтам і абітурыентам будзе цікава пазнаёміцца з багатым асартыментам вучэбнай, метадычнай і навуковай літаратуры, слоўнікамі і энцыклапедыямі. Дарэчы, сёлета продаж будуць ажыццяўляць супрацоўнікі мінскага Дома кнігі "Светач". У мінулым годзе гэтым займалася кнігарня "Эўрыка". Выбар быў зроблены кіраўніцтвам нашай арганізацыі. Мяркую, для кнігарняў гэта ўжо стала справай гонару.

**— Такім чынам, мы пастанова загаварылі пра наватарства ў арганізацыі кірмашу…**

— У якасці навінак у арганізацыі і афармленні сёлетняй выстаўкі магу назваць наступныя моманты. Сумесна з Міністэрствам інфармацыі краіны ў новым выглядзе быў зроблены стэнд. Яго асаблівасць — адкрытасць. Па форме ён чымсьці нагадвае бібліятэку, дзе ўсе паліцы знаходзяцца побач. Звычайна кожнае выдавецтва размяшчаецца на сваёй маленькай пляцоўцы. Гэтым разам іх стэнды не будуць падзелены паміж сабой. Наведвальнікі, якія трапяць на стэнд Міністэрства інфармацыі, змогуць убачыць прадукцыю ўсіх выдавецтваў.

Як вядома, у мінулым годзе адбылася сустрэча Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з пісьменнікамі. Гэтая падзея знойдзе адлюстраванне на стэндзе выстаўкі. Тут можна будзе пабачыць фотаздымкі з той сустрэчы, а таксама партрэты пісьменнікаў — як класікаў, так і сучасных творцаў. Неабходна ўлічваць, што 2012-ы аб'яўлены Годам кнігі. Зразумела, наша ўстанова не магла застацца ўбаку. Міністэрства інфармацыі Беларусі распрацавала сімвал Года кнігі ў форме карашка выдання, які будзе змешчаны на банерах.

**— Ці будуць на кірмашы ў сувязі з гэтым праводзіцца спецыяльныя акцыі?**

— Так, на нашым стэндзе запланавана акцыя гашэння. Па жаданні кожнага пакупніка на кнізе ці альбоме, якія яны набудуць падчас выстаўкі, будзе пакінуты пагашаны знак — сімвал Года кнігі.

Неабходна дадаць, што сёлета будзе праведзены "круглы стол" з удзелам кнігавыдаўцоў Беларусі і Расіі. Таму чакаем на выстаўцы як прафесіяналаў у кніжнай галіне, так і чытачоў.

# Палітра форуму не збяднее

**Хутка гасцінныя дзверы БелЭкспа адчыняцца для свята кнігі. На працягу некалькіх дзён аматары чытання будуць жаданымі гасцямі XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Што чакае кніжнікаў у гэтым годзе? Ці не пабяднее палітра выстаўкі? Напярэдадні падзеі мы сустрэліся з генеральным дырэктарам ААТ "Макбел", выканаўчым дырэктарам форуму Дзмітрыем Макаравым і спыталіся ў яго.**



**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Кастуся Дробава**

Дзмітрый Генадзьевіч адразу супакоіў: "Асноўныя «фрагменты» мазаікі мы захавалі — нягледзячы на эканамічную сітуацыю, жадаючых узяць удзел у форуме не паменела. Расцэнкі на плошчы не ўзнімалі, але раслікі заўсёды рабіліся ва ўмоўных адзінках, з-за змены курсу гэтыя сумы павялічыліся толькі для тых, хто разлічваецца ў беларускіх рублях. Так што адтоку замежных удзельнікаў не назіраем, наадварот. Дзякуючы замежнікам мы захаваем планку мінулага года. (У 2011-м у Мінскім форуме бралі ўдзел 605 экспанентаў з 23 краін, на сённяшні дзень выказалі жаданне ўдзельнічаць 600 экспанентаў з 19 краін, але гэта яшчэ не канчатковая лічба.) Што да беларускіх кнігавыдаўцоў, пяцьдзясят працэнтаў з іх далі заяўкі на меншыя плошчы, але зусім ад удзелу ў выстаўцы не адмовіліся.

Самыя вялікія плошчы — па 204 кв. метры — зоймуць стэнд Венесуэлы, ганаровага госця выстаўкі, і калектыўны расійскі стэнд. Упершыню Расійскі кніжны саюз прадставіць у Мінску вялікую экспазіцыю "Культурная спадчына СНД". Гэта перасоўная кніжная выстаўка, з якой ужо пазнаёміліся жыхары іншых краін садружнасці. Апрача гэтага наведвальнікі ўбачаць асобны стэнд Пецярбургскага кніжнага салона.

Не будзем раскрываць усе сакрэты, скажам толькі, што Венесуэла прапануе вельмі арыгінальны стэнд. І калі прыгадаць мінулагоднія планы яе прадстаўлення, будзем лічыць іх выкананымі на сто адзін працэнт.

Даволі вялікі стэнд замовіла Францыя — ганаровы госць пазамінулага года. Ганаровы госць 2011 года — Германія — сёлета будзе прадстаўлена двума стэндамі: пасольства краіны і Інстытута Гётэ. Канечне, унушальных памераў будзе калектыўны стэнд Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Сустрэнуцца наведвальнікі выстаўкі і з нашымі даўнімі калегамі з Украіны. Генеральнай рэпетыцыяй наступнага года будзе сёлетні ўдзел у форуме Ірана (менавіта гэта краіна прыме эстафету ў Венесуэлы). XIX выстаўка, можна сказаць, перад'юбілейная, так што, рыхтуючыся да сёлетняй, мы адразу дбаем і пра наступную.

Не застанецца па-за ўвагай аматараў чытання і юбілейная экспазіцыя Арменіі, падрыхтаваная да 500-годдзя армянскай кнігі. Пасля дэманстрацыі ў Мінску яе чакае прадстаўніцтва на іншых міжнародных кніжных пляцоўках.

На геаграфічнай карце выстаўкі-кірмашу гэтага года — Азербайджан, Арменія, Таджыкістан, Туркменія — паўднёвы вектар нашага супрацоўніцтва. Ідуць перамовы з Малдовай. Традыцыйным стаў удзел такіх краін, як Кітай, Куба, Славакія, ЗША, Ізраіль.

Для Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу межы БелЭкспа даўно цесныя. Шмат мерапрыемстваў пройдзе на іншых пляцоўках горада. Так, у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбудзецца ўручэнне прэмій пераможцам конкурсу "Мастацтва кнігі-2011". Апрача асноўнай экспазіцыі будуць працаваць два кнігагандлёвыя павільёны пры БелЭкспа".

*Клуб бібліяфілаў*

# Можа намаляваць увесь свет!

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

**У мінскім "Кніжным салоне" адбылося чарговае пасяджэнне сталічнага таварыства бібліяфілаў.**

Тэмай новай сустрэчы стала кніжная графіка. Нагул, для гаспадароў кнігарні гэта было ўжо не першае пасяджэнне, прысвечанае названай галіне мастацтва: раней у "Салон" прыходзіў славуты Арлен Кашкурэвіч. Цяпер наведвальнікаў кнігарні чакала сустрэча з творцам, якога спецыялісты лічаць, без перабольшванняў, графікам еўрапейскага ўзроўню. Гаворка ідзе пра Валерыя Славука. Вучань Васіля Шаранговіча, выпускнік Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, ён дасягнуў вышынь прафесійнага і творчага прызнання. Прафесар у сваёй альма-матар (цяпер Беларуская акадэмія мастацтваў), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, акадэмік графікі Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва.

Мастацтвазнаўца Яўген Шунейка, які вучыўся разам з героем вечарыны, падзяліўся ўспамінамі пра гады маладосці. Тагачасных графікаў, па яго прызнанні, раздражняла косная савецкая эстэтыка, якая нагадвала плакаты. В. Славук свядома адмаўляўся ад такой традыцыі. Цяпер надышоў час яго творчага росквіту, калі ён можа засвойваць розныя кірункі, не здраджваючы свайму стылю. А галоўнае, можа праілюстраваць увесь свет.

Вядучы навуковы рэдактар "Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі" Алеся Коршак адзначыла, што графік некалькі разоў паспяхова супрацоўнічаў з выдавецтвам. На яго рахунку ілюстрацыі да энцыклапедыі "Беларуская міфалогія", а таксама кнігі "Чароўны свет", прысвечанай фантастычным істотам і персанажам. Дарэчы, апошняе выданне ўпершыню пабачыла свет у 2008 годзе, у 2010-м было перавыдадзена. Цяпер чакаецца пераклад энцыклапедыі на англійскую мову. З гэтай нагоды В. Славук папрасіў зняць колер (зрабіць кнігу чорна-белай) і прызнаўся, што не з'яўляецца ім аматарам.

Таксама ў пасяджэнні ўзялі ўдзел бібліяфіл Алег Барашка, мастакі Аксана Аракчэева і Павел Татарнікаў, літаратуразнаўца Адам Мальдзіс. І гэта сустрэча з Валерыем Славуком стала адной з лепшых за час працы клуба бібліяфілаў.

# Под знаком Года книги

**В этом году XIX Минская международная книжная выставка-ярмарка пройдёт особенно торжественно: на объявленный Годом книги 2012-й выпали ещё и юбилеи классиков белорусской литературы Янки Купалы, Якуба Коласа, Максима Танка. Чтобы достойно представить белорусское пространство книжной культуры в рамках форума мировому книжному сообществу, Минск издательский старательно готовился. Директора ведущих республиканских издательств сегодня рассказывают о книжных новинках и мероприятиях, которые увидят белорусские посетители и зарубежные гости выставки-ярмарки.**



**Директор издательства "Вышэйшая школа" Александр Нечай:**

— Наше издательство широко представит учебную литературу для всех ступеней образования — основную часть нашей продукции. На стенде также будет справочная и научно-популярная литература, пособия для школьников и абитуриентов — всего около 200 изданий; книги с электронными приложениями и электронные книги.

Ежедневно будет проходить мультимедийная презентация, которая даст всем заинтересованным полное представление о деятельности издательства. Состоятся презентации новых методических пособий по иностранным языкам для учителей, учебных пособий для вузов. Как показала практика, большой интерес у посетителей вызывают встречи с автором серии книг о здоровом образе жизни профессором, врачом высшей категории Я. Мархоцким. Состоится такая встреча и в этом году.

Среди новинок издательства, заслуживающих особого внимания, — "Цэнтральная Беларусь", очередная книга шеститомной серии "Традыцыйная мастацкая культура беларусаў", "Чароўны човен. Казкі і апавяданні беларусаў Слуцкага павета", "Афарыстычныя выслоўі беларускіх пісьменнікаў". Участников и гостей форума ожидают презентации перечисленных изданий. Для школьников будут проводиться викторины, победители получат призы. Ну и, конечно же, пройдёт наше традиционное мероприятие — церемония награждения лучших книжных магазинов по итогам работы с книгами издательства за 2010 — 2011 годы.



**Директор издательства "Пачатковая школа" Наталья Ванина:**

— Издательство подготовило интересную программу презентаций, "круглых столов", встреч с авторами и читателями.

8 февраля на центральной площадке выставки пройдёт презентация "На пороге гражданской зрелости", где будет представлено пятое издание книги "Я — гражданин Республики Беларусь", впервые увидевшей свет в декабре 2007 года в рамках реализации президентской программы "Дети Беларуси".

Состоятся презентации книги "Беларусь в лицах" — 50 интервью с выдающимися людьми нашей страны; "Полоцк — Смоленск. Вехи общей судьбы" и "круглый стол" с участием авторов, представителей Министерства образования Республики Беларусь и начальника Департамента социальной политики и информационного обеспечения Союзного государства Т. Ковалёвой.

Вниманию гостей выставки-ярмарки предложим очередную книгу серии "Тарады і гістарычныя мясціны Беларусі" — "Мінск — сталіца Беларусі", а также книгу детской писательницы Натальи Игнатенко "Как профессию себе дети выбирали…" Проведём конкурс детского рисунка на тему "Кем быть?" Думаем, понравится зрителям выступление участников театра детской эстрадной песни "Беларусинки".

Для педагогов мы подготовили презентации учебно-методических пособий: Н. Сторожевой "Весёлые уроки", Н. Лагун "Пиши грамотно", Г. Шпаковской "Мова — наша спадчына". Представим детские журналы из серии "Рюкзачок". Традиционно подведём результаты конкурса детского рисунка на тему "Книга глазами ребёнка", на этот раз посвящённого Году книги, и организуем выставку лучших работ.



**Директор издательства "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" Татьяна Белова:**

— В этом году издательство отметит 45-летие, поэтому ко встрече с читателями готовились особенно тщательно: пройдут презентации уникального в истории энциклопедических изданий Беларуси "Большого белорусского энциклопедического словаря"; совместного международного издательского проекта Правительства города Москвы, Министерства информации Республики Беларусь и издательства — книги серии "Энциклопедия раритетов": "Живая вера. Ветка", "Дмитрий Струков. Альбом рисунков. 1864 — 1867", энциклопедии "Максім Багдановіч", подготовленной к 120-летию со дня рождения белорусского классика. Представим издания, посвящённые книжной культуре Беларуси: 2-й том "Гісторыі беларускай кнігі", подготовленный авторским коллективом под руководством Н. Николаева, книгу Р. Мотульского "Из прошлого в будущее. Библиотеки Беларуси", "Владельцы старого Несвижа" историка и археолога А. Метельского, фотоальбом "Современная белорусская скульптура. XXI век" (работы около 100 мастеров), альбом "Сучасная беларуская выцінанка" с предисловием доктора искусствоведения Е. Сахуты.

Познакомим читателей с новинками наших многотомных изданий: 2-м томом энциклопедии "Культура Беларусі", 8-м томом энциклопедии "Гарады і вёскі Беларусі. Мінская вобласць", "Археалогіяй Беларусі".

Презентация книги "Смачна есці" будет сопровождаться дегустацией блюд белорусской кухни. Представим третий том 12-томной "Энциклопедии для школьников и студентов" — "Земля. Вселенная". Для самых юных читателей предложим книги из серии "Маленький профессор" с обрядом посвящения в читатели.

Планируется также проведение международного "круглого стола" на тему "Роль Энциклопедии в становлении и развитии современного информационного пространства".



**Директор издательства "Мастацкая літаратура" Владислав Мачульский:**

— Вниманию посетителей книжной ярмарки мы представим более сотни изданий, увидевших свет в прошлом году и в самом начале этого года. Наши презентации начнутся с книг "Канстытуцыя нашай дзяржавы" і "Герб, сцяг, гімн Беларускай дзяржавы".

Привлечёт внимание посетителей выставки книга "Максім Багдановіч. Пясняр чыстае красы", изданная в серии "Жыццё знакамітых людзей Беларусі". Представляя эту книгу, мы познакомим гостей с факсимильным изданием "Вянка" Богдановича, а также с книгой Алеся Мартиновича "Свяці, зорка, свяці", адресованной юным читателям и посвящённой М. Богдановичу. Представим первый том серии "Залатая калекцыя беларускай літаратуры", куда вошли произведения XI — XVI веков. Можно будет познакомиться и с новыми томами (4 — 7) 23-томного Собрания сочинений Ивана Шамякина.

Наши юные читатели, думаю, с радостью посетят презентацию книг Миколы Малявко "Коласаў абярэг", Каруся Каганца "Нашы птушкі", Сержа Минскевича "Чароўная крыніца, ці Як навучыць дракона чысціць зубы", составленной Полиной Гринченко книги "А па сенцах ходзіць Бай". Можно будет познакомиться со шведской писательницей Юей Висландер и её книгой в переводе на белорусский язык "Мама Му чытае", а также с китайским переводчиком Ли Цзо и его книгой переводов Ли Бая на русский язык.



**Директор издательства "Народная асвета" Лариса Минько:**

— Издательство представит более 150 книг: учебники и учебные пособия, методические и дидактические материалы (для учителей и учащихся), разработки факультативных занятий по русскому языку и литературе, научно-популярную и художественную литературу.

На 10 февраля запланированы две презентации для старших школьников: А. Бернацкий представит серию книг "Удивительное и невероятное" ("Земля неизвестная", "Тайны и загадки человеческого организма", "Загадочный и парадоксальный мозг" и др.), а также пройдёт презентация книг "Олимпиады школьников по химии" с участием автора В. Хвалюка.

11 февраля пройдёт презентация "Путешествие в страну Детства с книгами «Народнай асветы»" с участием учеников начальных классов СШ № 3 г. Минска, авторов книг Анатолием Клышко и Владимиром Мозго. В литературно-музыкальной композиции школьники прочитают стихи, расскажут сказки, споют песни; они зададут авторам вопросы и получат автографы.



**Директор издательского дома "Беларуская навука" Александр Сташкевич:**

— Традиционно мы представим на выставке изданное в 2011 г., а также новинки литературы по различным направлениям научных исследований, очередные тома собраний сочинений классиков белорусской литературы Якуба Коласа и Максима Танка. К их юбилеям мы планируем выпустить 17 — 20 тома собрания сочинений Якуба Коласа и две книги 13-го тома собрания сочинений Максима Танка, тем самым завершив их издание.

Внимание посетителей выставки привлекут наши книги "Беларусь: страницы истории", "Туристическая мозаика Беларуси", энциклопедический словарь "Генетика", двухтомная антология "Беларуская літаратурная спадчына", "Слоўнік беларускіх народных параўнанняў", "Славянамоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага" — первая книга в новой серии "Помнікі даўняга пісьменства Беларусі" и др.

В рамках выставки планируем провести презентации фундаментальных исследований академических учёных "Экран и культурное наследие Беларуси" и "Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII — пачатку XXI ст. Кн. 1".



**Директор издательства "Беларусь" Анна Трусевич:**

— Старейшее в республике издательство представит книги по истории, этнографии и краеведению, фотоальбомы, учебные и методические пособия по сельскому хозяйству, изобразительному искусству, музыке, медицинскую литературу, научно-популярные книги, издания для досуга, открытки, плакаты, календари.

Планируется провести ряд мероприятий. 9 февраля состоится презентация книги доктора искусствоведения Е. Сахуты "Гісторыя беларускага народнага мастацтва". 10 февраля кандидат искусствоведения, директор Музея древнебелорусской культуры Национальной академии наук Беларуси Б. Лазуко представит издание "Гісторыя сусветнага мастацтва. Рускае і беларускае мастацтва XIX — пачатку XX ст.", с книгой "Побыт феадалаў Вялікага Княства Літоўскага ў XV — сярэдзіне XVII ст." познакомит посетителей доктор исторических наук Ю. Бохан. Для гостей выставки 11 февраля проведёт мастер-класс В. Коваленко — автор книг "Искусство вытинанки" и "Художественное конструирование из бумаги". Презентации будут сопровождаться слайд-шоу и выступлением музыкальных коллективов.

# Уцёкі ад прывіднага прыбытку

Марына ВЕСЯЛУХА

**Кнігам ТАА "Харвест", найбуйнейшага выдавецтва ў Беларусі, на старонках нашага праекта адводзіцца асобнае месца. Штотыднёвыя агляды яго навінак ужо сталі традыцыйнымі ў "Кніжным свеце". Аднак, звяртаючы ўвагу на "прадукты", мы не ведаем, як жа дзейнічае само выдавецтва, якімі клопатамі сёння жыве. Некаторыя сакрэты працы "Харвеста" ў гутарцы з нашым карэспандэнтам раскрывае яго галоўны рэдактар Ігар Рэзько.**

**— Ігар Васільевіч, прыадкрыйце таямніцу: якія кнігі цяперрыхтуюццаўвыдавецтве "Харвест"?**

— У працы — шмат кніг розных тэматычных напрамкаў. Гэта дзіцячая, гістарычная літаратура, выданні для вольнага часу… Мы стараемся ахапіць многія кірункі, актыўна супрацоўнічаем з Саюзам пісьменнікаў Беларусі, выдаём асобныя серыі "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі", "Беларуская сучасная фантастыка". У планах — цікавая кніга Вольгі Бажэнавай па гісторыі беларускай архітэктуры. Рыхтуем некалькі альбомаў па Мінску, кнігу беларускіх народных казак.

**— Як адбілася на працы выдавецтва эканамічнае становішча ў краіне?**

— Сёння мы стараемся выжываць. Кнігі ўсё ж такі не тавары першай неабходнасці, аднак хачу заўважыць, што попыт на кнігі нашага выдавецтва пакуль застаецца досыць высокім. Канечне, моцна вырасла цана кніг расійскіх паставак. Але на новыя выданні "Харвеста" мы стараемся трымаць кошты ніжэйшымі, даступнымі беларускаму спажыўцу. Некаторыя серыі кніг айчынных аўтараў прадаём нават са стратамі для нас. Як і ўсе выдавецтвы, маем планы, але стараемся іх аператыўна карэкціраваць, паціху мінімізуем асартымент мастацкай літаратуры.

**— Чаму?**

— Вельмі хутка змяняюцца інтарэсы і тэмы. У дадзеным выпадку іншыя сродкі — камп'ютары, айпэды, рыдары — ствараюць канкурэнцыю сучаснай кнізе. Калі звярнуцца да сусветнага вопыту, аб'ём продажу электронных кніг у гэтым годзе пераўзышоў продаж выданняў у папяровым выглядзе. Але ёсць і такія выданні, якія электронная кніга ніколі не заменіць. Гэта літаратура для дзяцей, кнігі практычнай скіраванасці: кулінарыя, рукадзелле, дзіцячыя энцыклапедыі, гістарычныя кнігі, у цэлым, тое, што нязручна чытаць на камп'ютары. Калі падвесці вынік, то стратэгія "Харвеста" на бліжэйшы час — выдаваць менавіта такія кнігі.

**— У планах выдавецтваў звычайна ёсць кнігі, што паводле азначэння павінны быць паспяховымі, на якія робіцца стаўка…**

— Так, ёсць тэмы, што выклікаюць інтарэс у чытача. Але сказаць, што праз паўгода мы выдадзім кнігу і яна будзе топавай, немагчыма. Такую стаўку можна рабіць толькі на нямногіх аўтараў, чые творы чакаюць з нецярпеннем. Але прайшла хваля цікавасці да "Вампірскай сагі" Стэфані Маер, новая кніга "Госця" на іншую тэму — ужо не тое. Таксама як прайшла цікавасць да такіх інтэрпрэтацый Евангелля, як у Дэна Браўна. Але ёсць аўтары, што стабільна прадаюцца, іх кожная новая кніга будзе цікавая чытачу. Мы не выдаём кніг на заказ, таму ў сваіх планах арыентуемся толькі на рынак.

**— Серыя "Бібліятэка саюза пісьменнікаў Беларусі"— не заказная?**

— Не. Мы выдаём гэтыя кнігі за свае грошы. Распаўсюджваем іх у бібліятэкі, праз кнігарні. Серыя мае сваё кола чытачоў, як і "Беларуская сучасная фантастыка". Гэта хутчэй іміджавыя серыі, што характарызуюць нас як сур'ёзнае выдавецтва. Мы можам дазволіць сабе выдаваць такія кнігі.

**— Да ліку іміджавых адносіце і мініяцюрныя падарункавыя выданні?**

— Так. Гэта кнігі-падарункі, ці gift-books, што выдаюцца маленькімі тыражамі, яны першапачаткова дарагія: прыгожыя, вытанчаныя, з залатымі абрэзамі. Але мініяцюрныя выданні — асобная ніша на рынку, дзе ёсць свае пакупнікі — калекцыянеры.

**— У "Харвесце" аўтар не можа выдаць кнігу за свой кошт. У такім выпадку якім крытэрыям павінен адпавядаць рукапіс, каб ён стаў кнігай у вашым выдавецтве?**

— Ён павінен быць цікавым чытачу. Я патлумачу, чаму мы не выдаём кнігі за кошт аўтараў. З такім клопатам да нас звяртаецца многа людзей. Але калі выдавецтва пойдзе гэтым шляхам, што можа рана ці позна адбыцца? Думаецца, што кніга, якую аўтар хоча выдаць за свой кошт, можа быць не вельмі цікавая шырокаму чытачу, у адваротным выпадку на яе звярнулі б увагу выдаўцы. Часта гэта вершы, успаміны... Патэнцыяльных пакупнікоў гэтай кнігі — 20 — 30 чалавек… Калі мы яе выдадзім за грошы, дзе знайсці рынак збыту? Мы будзем спрабаваць рэалізаваць выданне ў крамах. Яно, натуральна, не будзе прадавацца. Калі падобная тэндэнцыя захаваецца і з іншымі такімі ж кнігамі, што гэта будзе значыць? На ўсіх выданнях пазначана, што яны выйшлі ў "Харвесце". І такім чынам любы таваразнаўца, гледзячы на "нашы" выданні, зробіць для сябе выснову, што харвестаўскія кнігі не прадаюцца. Але і месца ў магазіне на паліцы таксама каштуе грошай… Гандлярам не трэба такі тавар. Калі адна-дзве кнігі са шматтысячнага асартыменту не прадаюцца, гэта нармальна, але калі іх 100-200-300, то прывідны прыбытак (атрымліваецца ад аўтараў, а не ад продажаў) праз некаторы час прыводзіць да поўнага знішчэння іміджу выдавецтва. Таму мы адразу ж ад падобных прапаноў адмаўляемся.

> *"Ёсць і такія выданні, якія электронная кніга ніколі не заменіць. Гэта літаратура для дзяцей, кнігі практычнай скіраванасці: кулінарыя, рукадзелле, дзіцячыя энцыклапедыі, гістарычныя кнігі, у цэлым, тое, што нязручна чытаць на камп'ютары. Калі падвесці вынік, то стратэгія "Харвеста" на бліжэйшы час — выдаваць менавіта такія кнігі.*

**— За які час павінна быць прададзена кніга, каб лічыцца паспяховай? Да прыкладу, тыраж 3 тысячы.**

— Калі такі наклад рэалізуецца цягам года, то на сённяшні дзень гэтая кніга лічыцца паспяховай.

**— Вы працуеце і на расійскім рынку. Распаўсюджваеце там беларускія нацыянальныя кнігі? Да прыкладу, тыя, што звязаны з гісторыяй і культурай Беларусі. У вас жа выйшлі кнігі, прысвечаныя Грунвальдскай бітве, радзівілаўскаму Нясвіжу. Калі падумаць, то яны патэнцыяльна цікавыя не толькі на Беларусі.**

— Так, спрабуем. Але кніга Вольгі Бажэнавай "Радзівілаўскі Нясвіж", што вы згадалі, на 99 працэнтаў прадаецца ў Беларусі. Некаторая частка тыражу выдання Мікалая Малішэўскага па Грунвальдскай бітве была прададзена ў Расіі толькі таму, што не так даўно адзначалася 600-годдзе бітвы і пра кнігу пісалі расійскія СМІ. Беларуская ж нацыянальная тэма за межамі Беларусі не цікавая ўвогуле. Але ў той жа час складана ўявіць сабе нашага суайчынніка, які цікавіўся б кнігай пра нейкі малдаўскі храм…

**— Што робіце для таго, каб паспяховы і вядомы аўтар прынёс рукапіс менавіта ў "Харвест"?**

— Справа ў тым, што ў працы аўтара і выдавецтва не ўсё вырашаюць грошы. Падчас гэтага супрацоўніцтва складваюцца пэўныя асабістыя адносіны, добрыя ці не. Ёсць аўтары, вельмі цікавыя фармальна, з пункту гледжання выдавецтва. Але часам я не магу з імі працаваць, бо не магу наладзіць адносіны. Аўтары перш за ўсё працуюць з *людзьмі* ў выдавецтве. Гэтак жа і выдаўцы ў адносінах з аўтарам.

**— На Захадзе існуе практыка, што кнігарні могуць уплываць на планы выдавецтваў. Часам і айчынныя гандляры выказваюць такія пажаданні. Калі прадстаўнікі кнігагандлю звернуцца да вас з просьбай выдаць кнігу на пэўную тэму, яна пабачыць свет?**

— Калі кнігарні да нас звернуцца з такой просьбай, значыць, мы вельмі дрэнна працуем. Бо не сочым за рынкам і продажамі сваіх кніг. Да нас паступаюць звесткі з аддзела гандлю пра тое, што цікавіць чытача, пра якія кнігі пытаюцца. Не магу сказаць, што мы кан'юнктуршчыкі, але, тым не менш, калі існуе нават патэнцыяльны попыт на пэўную літаратуру, стараемся трымаць нос па ветры. Да прыкладу, некалькі год таму танец жывата быў вельмі папулярны, цікавасць да гэтага занятку правакавала і попыт на літаратуру па тэме.

**— На якую літаратуру існуе патэнцыяльны попыт сёння?**

— Гэта кнігі, прысвечаныя новым хобі — вырабам з ляму, тэхналогіям скрапбукінгу, літаратура, дзе апісваюцца новыя метадычныя распрацоўкі развіцця дзяцей.

---

Екатерина БЕДУЛИНА

# Со скоростью ветра




О чём мечтает каждый мальчишка? Подражая великим мореплавателям, отправиться в кругосветное путешествие, чтобы совершить открытие. Взять в руки "баранку" автомобиля и умчаться вдаль. Подняться высоко-высоко в небо… Думаю, ничто так не может увлечь мальчишку, как книга Беверли Макмиллана, Гленна Мёрфи, Джона А. Музика, Вона Хардести **"Автомобили, корабли, самолёты"** (перевод с английского П. Богачёвой, И. Сацевича), ведь любовь к скорости, движению, полёту зарождается в них ещё в самом раннем детстве.

Книга имеет яркие, красочные иллюстрации, её приятно держать в руках. Информация изложена лёгким и доступным языком. Здесь нет "тяжёлых" научных терминов, "заумных" фраз. Книга содержит три раздела, в каждом из которых рассказывается об основных видах транспорта: наземном, водном и воздушном. Раздел "На земле" даёт возможность ознакомиться с историей создания первых велосипедов, автомобилей, поездов, а также понаблюдать за процессом эволюции колеса. Не менее увлекательна история создания поезда. Второй раздел, "В небесах", полностью посвящён самолётам, летательным аппаратам. Этой теме уделено особое внимание. Человек всегда мечтал о том, чтобы летать, как птица. Процесс создания "крыльев" был сложным: сначала крылья, затем "крылья для человека"— орнитоптер Леонардо да Винчи. Позднее появились планеры, бипланы, аэропланы, пассажирские самолёты, авиалайнеры, сверхзвуковые самолёты, вертолёты… Полёты стали реальностью! Третий раздел, "На море", расскажет о водном транспорте и "первопроходцах" морей. В конце книги содержится приложение, куда входят интересные факты: управление самолётом, знаменитые полёты, парад самолётов.

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Кастуся Дробава

# Новыя аспекты ўзаемадзеяння

**Нацыянальная кніжная палата Беларусі ўжо традыцыйна стала адным з удзельнікаў Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. І гэта не выпадкова. Форум — цудоўная магчымасць прадставіць бібліяграфічную і іншую выдавецкую прадукцыю, заключыць выгадныя кантракты, сустрэцца з калегамі. Але ў Кніжнай палаты на выстаўцы — свой прафесійны інтарэс. Пра адметнасці запланаваных мерапрыемстваў нам распавяла дырэктар Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі Алена Іванова.**



— У межах выстаўкі мы плануем узяць удзел у двух асноўных мерапрыемствах. У дзень адкрыцця форуму пройдзе "круглы стол", прысвечаны тэме "Кніжныя палаты краін СНД: патэнцыял узаемадзеяння", у другі дзень працы форуму адбудзецца пасяджэнне рабочых груп з мэтай абмеркавання праектаў палажэнняў пра савет дырэктараў кніжных палат і кніжных выставак-кірмашоў. Мы ўжо атрымалі згоду ад кіраўнікоў кніжных палат з Расіі і Украіны.

Ідэя арганізацыі гэтай міжнароднай сустрэчы ўзнікла ў кастрычніку мінулага года, калі ў Кіеве праходзіў VI форум навуковай і творчай інтэлігенцыі, дзе традыцыйна працавала Палата літаратуры, кнігавыдання і перакладу. У яе рэкамендацыях запісана, што ў мэтах павышэння інфармаванасці зацікаўленых партнёраў у краінах СНД і каардынацыі іх работы трэба стварыць пры падтрымцы Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва і Міждзяржаўнага савета па супрацоўніцтве ў галіне перыядычнага друку, кнігавыдання, кнігараспаўсюджання і паліграфіі савет дырэктараў нацыянальных кніжных палат краін СНД і савет дырэктараў кніжных выставак-кірмашоў. У далейшым, ужо ў Мінску, у Выканаўчым камітэце СНД адбылося чарговае пасяджэнне Міждзяржаўнага савета па супрацоўніцтве ў галіне перыядычнага друку, кнігавыдання, кнігараспаўсюджання і паліграфіі, якое паводле рэзалюцыі вынесла рашэнне прасіць беларускі бок падрыхтаваць праекты палажэнняў аб савеце дырэктараў кніжных палат, а таксама арганізаваць рабочыя групы па дапрацоўцы праектаў палажэнняў. Тым больш прыемна правесці гэтыя мерапрыемствы ў год, аб'яўлены ў Беларусі Годам кнігі.

Мы часта сустракаемся з калегамі з Расіі, Малдовы, Украіны — падчас выставак, канферэнцый. Таму сустрэча за "круглым сталом" стане наступным крокам у абмене вопытам працы, у прыватнасці, у галіне інфармацыйных тэхналогій. Плануем правесці прэзентацыю электронных рэсурсаў. На жаль, пакуль не вядома, ці возьме ўдзел у выстаўцы Кніжная палата Малдовы — установа, якая з цікавасцю ставіцца да новай інфармацыйнай сістэмы дзяржаўнай бібліяграфіі, што была распрацавана на базе Кніжнай палаты Беларусі. Яе распрацоўшчык, кампанія "Міжнародны дзелавы альянс", ужо прэзентавала сістэму ў Малдове, дзе яна атрымала вельмі добрыя водгукі ад нашых калег. І гэта не выпадкова, бо мы маем справу з першай у краінах СНД інфармацыйнай сістэмай, што была рэалізавана на дзяржаўным узроўні пад тэхналогію работы кніжных палат: дзяржаўную рэгістрацыю выданняў, бібліяграфічную апрацоўку, статыстыку друку, генерацыю дзяржаўных бібліяграфічных паказальнікаў. Падчас сустрэчы будзем такс сама абмяркоўваць пытанні ўзаемадзеяння. Так, ёсць прыгожая ідэя выпуску сумеснага зборніка "Друк краін СНД", яна ўзнікла яшчэ на першым форуме навуковай і творчай інтэлігенцыі, што праходзіў у Маскве ў 2006 годзе. А з Кніжнай палатай Украіны маем намер падпісаць дагавор аб інфармацыйным супрацоўніцтве, цяпер ідзе яго абмеркаванне.

У выставачным цэнтры "БелЭкспа" будзе традыцыйна працаваць стэнд Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі. Тут будуць прадстаўлены "Летапісы кнігавыдання" — штомесячныя і штогадовыя. Як падкрэсліла Алена Вітальеўна, нягледзячы на тое, што гэтая прадукцыя досыць спецыфічная, вузканакіраваная, кожны год падчас выставак знаходзяцца новыя зацікаўленыя спажыўцы. Назіраецца пастаянны інтарэс да рэтраспектыўнага бібліяграфічнага паказальніка "Музычная літаратура БССР, 1976 — 1991", рэтраспектыўнага бібліяграфічнага паказальніка "Газеты Беларусі, 1776 — 1975". Дарэчы, апошні быў выдадзены ў 2003 годзе, але да гэтага часу ён застаецца запатрабаваным сярод наведвальнікаў выстаўкі.

# Галоўнае — супрацоўніцтва

Юзэфа ВОЎК



**Саюз выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў друку, хоць і з'яўляецца досыць маладой арганізацыяй, стала ўдзельнічае ў міжнародных кніжных выстаўках-кірмашах, што праходзяць у Мінску. Пра адметнасці сёлетняй праграмы распавяла выконваючы абавязкі выканаўчага дырэктара СВРД Вікторыя Лукашутэ:**

— Сёлета падчас міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу мы ладзім семінар для спецыялістаў у галіне выдавецкай справы і кнігараспаўсюджання. Плануем правесці яго ў форме невялікага навучальнага семінара-трэнінгу. У гэтым кірунку працуем сумесна з цэнтрам сістэмных бізнес-тэхналогій Satio, які распрацоўвае вялікі праект, прысвечаны гэтай жа тэме. Асноўная мэта семінара — пераканаць выдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў у тым, што ім варта наладзіць цеснае ўзаемадзеянне, прычым сумесная работа павінна весціся ў розных кірунках. Магчыма, адным з нашых партнёраў падчас семінара стане ААТ "Белкніга" разам з прадстаўнікамі аднаго з самых буйных расійскіх выдавецтваў "Эксмо". Ідэя запуска гэтага праекта абумоўлена тым, што сёння не надаецца дастатковай ўвагі спецыялізаваным навучальным мерапрыемствам для кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў. У працэсе яго рэалізацыі хацелі б вызначыць асноўныя тэмы для навучання, праблемныя пытанні, атрымаць практычную карысць ад навучання і зрабіць падобныя семінары традыцыйнымі, каб своечасова абменьвацца інфармацыяй і ідэямі.

Саюз выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў друку возьме актыўны ўдзел у мерапрыемствах выстаўкі, бо форум заўсёды дае цудоўную магчымасць наладзіць плённае супрацоўніцтва з калегамі з іншых краін, стварае атмасферу для ўзнікнення новых ідэй, задумак і рэалізацыі сумесных праектаў. Акрамя таго, СВРД будзе прадстаўлены і на калектыўным стэндзе Міністэрства інфармацыі краіны ў выставачным цэнтры "БелЭкспа".

*100 год кнізе*

Марына ВЕСЯЛУХА

# Шануйма сваё!

**Менавіта такое пасланне чытаецца між радкоў гэтай кнігі. Гэта адна з першых публіцыстычных работ, прысвечаная пытанню беларускага нацыянальнага адраджэння. Яна пабачыла свет стагоддзе таму ў Пецярбургу, у друкарні Пянткоўскага. Брашура Антона Луцкевіча (Навіны) "На дарозе да новага жыцця" была падрыхтавана выдавецкай суполкай "Загляне сонца і ў наша ваконца". У ёй аўтар, абапіраючыся на працы папярэднікаў, выбудоўвае канцэпцыю нацыянальнага адраджэння беларусаў, якое павінна грунтавацца на некалькіх асноўных пастулатах. Значна і тое, што аўтар у гэтай брашуры не апускаецца да ўзроўню селяніна-беларуса, не тлумачыць складаныя з'явы простымі словамі, але нібыта вядзе дыялог з інтэлігентам, які ўжо мае некаторыя веды па гісторыі і культуры краю.**

"Мы называем беларускі нацыянальны рух *адраджэннем*, але можна гаварыць аб адраджэнні, уваскрэсенні толькі таго, што калісь нарадзілася, жыло і замёрла. У гісторыі беларусаў, як нацыі, мы бачым усе гэтыя тры моманты", — піша Антон Луцкевіч. Паводле яго меркавання, нарадзілася нацыя ў XII ст., калі беларусы згуртаваліся пад уладай Літоўскай дзяржавы (тут аўтар нават ужывае тэрмін "беларуская цывілізацыя"), кропкай "засынання" А. Луцкевіч называе падпісанне Люблінскай уніі і пачатак распаўсюджання польскай мовы. З гэтага часу пакінутая і забытая беларускімі інтэлігентамі вёска жыла толькі тым, што засталося ёй у спадчыну ад даўнейшага ўсенароднага культурнага багацця. І, магчыма, гэта ўратавала культуру. У вёсцы, як у запаведніку, развіваліся адметнасці нацыі. Так, на думку А. Луцкевіча, "утвораная стагоддзямі індывідуальнасць беларускага народа выяўлялася ў тым, што беларусы, якіх захапіла польская, або расійская цывілізацыя, уносілі свае нацыянальныя асаблівасці ў культурную скарбніцу палякаў і рускіх, і так кіравалі ў той, або іншы бок далейшае развіццё культуры абодвух названых народаў". У гэтых адносінах ён прыгадвае Адама Міцкевіча, майстра слова, які належыць двум народам. Але палякі і руския вялі змаганне ідэалогій на беларускіх землях, і мы патраплялі пад "перакрыжаваны агонь". Асабліва гэта было заўважна ў другой палове XIX ст., калі ўрад пачаў сістэматычную кампанію супраць польскага элемента ў так званым "Паўночна-Заходнім краі". Расійскі ўрад пастанавіў знішчыць тут усё польскае, абвясціўшы, што Беларусь — спрадвечна рускі край, які нібыта нічым не адрозніваецца ад Велікарускіх губерняў, а паколькі тут вельмі часта каталіцтва змешвалі з "польшчынай", усе рэпрэсіі, якія прызначаліся палякам, клаліся ўсім сваім цяжарам і на беларусаў-каталікоў. У гэты самы час палякі, спалохаўшыся, што хутка зусім не стане жыцця на зямлі беларускай, энергічна ўзяліся за свядомае і планавае апалячванне беларусаў. Як тут застацца сабой, захаваць нацыянальную самасць?

"Больш таго, у 1863 годзе, калі адбывалася распалячыванне, урад зрабіў вялікую памылку: нацыянальныя асаблівасці былі перамешаны з асаблівасцямі рэлігійнымі, і на гэтым грунце ўсё каталіцкае ў нашым краі і дагэтуль афіцыйна лічыцца польскім", — зазначае Антон Луцкевіч. Ён распавядае, што ў той час працавалі навукоўцы, якія даказалі: у беларусаў, каталікоў і праваслаўных, мова, звычаі, усе погляды і — адным словам — уся псіхіка супольныя. "Нягледзячы на гэта як пры выбарах у Дзяржаўную думу, так і пры ўвядзенні закону аб земстве ў Заходніх губернях урад усіх беларускіх сялян-каталікоў запісаў "у палякі" <…> такія ж беларусы праваслаўнай веры былі ўсе аб'яўлены "расейцамі". Так шматгадова паўтораны вопыт з сумяшчэннем пытанняў веры і нацыянальнасці адбіваецца і сёння, у XXI стагоддзі. І дагэтуль сярод беларусаў існуе стэрэатып: калі ты каталік — ты паляк, а калі праваслаўны — рускі.

Усведамленне значнасці і вартасці мінулага краю, разуменне сваёй адметнасці як народа — важныя аспекты фарміравання нацыянальнай свядомасці. Але гэта хутчэй "унутраныя фактары" — кожны павінен сам вырашыць для сябе гэтыя пытанні. Але існуюць і знешнія крытэрыі. Тут Антон Луцкевіч звяртае ўвагу на *развіццё беларускай прэсы*, якое пачалося з "дужа радыкальнай беларускай газэціны «Гоман»", творчасці Мацея Бурачка і пераломе ў 1904 годзе (менавіта тады беларусам патлумачылі вартасць і значэнне яго "простай" мовы і таго культурнага багацця, якое беларус сабе прыдбаў стагоддзямі — вучылі шанаваць усё роднае, сваё). І трэба прызнаць, прэса зрабіла сваю справу, можна смела сцвярджаць услед за аўтарам: "Дзень выхаду ў свет "Нашай Долі" — гэта першае нацыянальнае свята!" Ён згадвае і феномен "Нашай Нівы", якая адразу "пайшла ў народ і дайшла да яго". Газета памалу стала нібыта люстэркам, у якім адбіваўся ўсё мацнейшы беларускі нацыянальны рух. Скептык заўважыць, што гэтая інфармацыя вядомая, бадай, кожнаму, хто знаёміўся з культурным развіццём Беларусі ў пачатку XX стагоддзя. Але Луцкевіч да яго гонару прыводзіць больш пераканальныя факты — ён звяртаецца да лічбаў. І яны сапраўды ўражваюць: "…як палічыла сама рэдакцыя, за першыя тры гады існавання газеты ў ёй было надрукавана 960 арыгінальных карэспандэнцый з 489 беларускіх вёсак і мястэчак, а за чацвёрты год — 660 карэспандэнцый з 321 месца". Цяпер мы разумеем, што не выпадкова (хоць і крыху ідэалізавана) аўтар назваў "Нашу Ніву" ўласнасцю беларускага грамадства.

Звяртае даследчык увагу і на іншыя аспекты культурнага жыцця беларусаў. Гэта перш за ўсё *выданне кніг*. Так, ён зазначае, што поруч з выдавецтвам "Наша Ніва" і пецярбургскай суполкай "Загляне сонца і ў наша ваконца" працавалі суполка "Мінчук", "Наша хата", выдавецтва "Полачанін" і "А. Грыневіч". За пяць гадоў яны разам надрукавалі каля 200 тысяч экзэмпляраў кніг рознага кшталту, з іх "да народу" дайшло 25 тысяч асобнікаў. У гэты ж час нарадзіўся *беларускі тэатр*.

Беларусы ў пачатку XX стагоддзя былі досыць рэлігійнымі, таму важнай умовай паспяховасці нацыянальнага адраджэння Луцкевіч лічыць *выданне рэлігійных кніг на беларускай мове*, правядзенне богаслужэнняў па-беларуску і падкрэслівае, што па гэтым шляху ў той час ужо пайшло каталіцкае духавенства. Важнае значэнне мае і беларуская *нацыянальная школа*, бо "настаўнік падчас урокаў тлумачыць усё зразумелай матчынай мовай".

Такім чынам зразумелыя складнікі нацыянальнага адраджэння. Але, бадай, самы значны фактар паспяховасці гэтага працэсу — *з'яўленне беларускай інтэлігенцыі*. І ў магчымасці яе развіцця аўтар цалкам упэўнены: "Нягледзячы на ўсе перашкоды, мы верым у нараджэнне такой інтэлігенцыі: яна павінна нарадзіцца. Пачатак ужо бачым; рэшту зробіць само жыццё. Мы верым, што наша маладая народная інтэлігенцыя споўніць прызначаную ёй гісторыяй высока-культурную мэту, і беларускі народ, які ўжо "свой голас даў", паложыць і сваю частку ў агульналюдскую скарбніцу, павялічыць хоць крыху сусветнае культурнае багацце".

Мастак і кніга

# Пятая пара года

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**Як дзяўчынка, што нарадзілася ў сям'і матэматыкаў і скончыла спецшколу з англійскай мовай, стала мастачкай? Галіна Хінка-Янушкевіч на гэтае пытанне адказвае проста: "Відаць, Богам было наканавана". Аднойчы ў падарунак у мамінага брата, студэнта, папрасіла не ляльку, не цукеркі, а кніжку і алоўкі.**

Ён купіў "Беларускія народныя казкі" і набор з 44 каляровых алоўкаў. "Гэта кніжка адразу была мной размалявана, бо ілюстрацыі ў ёй былі чорна-белыя, — усміхаецца мастачка. — Вельмі ўдзячна тату — калі я хварэла, чытаў мне ўголас дзіцячыя кнігі. І ніколі не злаваўся, перачытваў адну і тую ж казку ці апавяданне столькі разоў, колькі я прасіла. Увогуле, бацькі займаліся маім выхаваннем тактоўна: не крытыкавалі без дай прычыны, заахвочвалі індывідуальнасць, самастойнае прыняцце любых рашэнняў. Захапляліся маімі першымі мастацкімі практыкаваннямі, падтрымлівалі ва ўсім. Гэта нараджала ўпэўненасць у сваіх сілах, напаўняла радасцю кожны пражыты дзень. Я вырасла ў сям'і аптымістаў".

Спачатку яна хацела паступаць на архітэктурны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута. Звярнулася ў 16 гадоў у дзіцячую мастацкую школу памаляваць гіпсы. Але наканаваны быў шлях у мастацтва кніжнай графікі. Галіна ўспамінае: "Мне пашанцавала вучыцца ў вядомага жывапісца Уладзіміра Ткачэнкі. Фанат высокага мастацтва, Уладзімір Аляксандравіч перадаў увагу да дэталяў, што аказалася вельмі важна для працы графіка. У той час я спала па пяць гадзін. Вучылася ў агульнаадукацыйнай школе, а пасля заняткаў да 10 гадзін вечара малявала ў мастацкай. Вярталася дадому а палове на дванаццатую. Бацькі не рабілі заўваг. Дзякуючы іх падтрымцы я вытрывала. Працягвала займацца ў мастацкай школе. Менавіта Уладзімір Ткачэнка прапанаваў мне і Святлане Казак ісці на кафедру графікі ў тэатральна-мастацкі, сказаў, што для дзяўчат гэта вельмі цікавая прафесія. Конкурс быў шэсць чалавек на месца, але мы паступілі.





З тых уступных экзаменаў сябруем з Кастусём Вашчанкам — чамусьці ён прыйшоў без акварэльных фарбаў, тады я паставіла паміж намі свае, навюткія, якія берагла спецыяльна да паступлення. Пэндзаль у яго быў. Мы набралі аднолькавую колькасць балаў і сталі студэнтамі.

У адной групе са мной вучыліся Святлана Казак, Алена Карповіч, Алег Карповіч, Валерый Рулькоў, Кастусь Вашчанка. Выкладчыкі былі цудоўныя: Васіль Шаранговіч, Аляксандр Шэвераў, Уладзімір Савіч — мастакі, якія выкладалі менавіта кніжныя асновы. Тут, як і ў матэматыцы, ёсць тэарэмы, свае рытмы, правілы і паслядоўнасць. Нашым выкладчыкам я ўсё жыццё ўдзячна за тое, што гэтымі правіламі валодаю. Яны падарылі мне прафесію, якая дазваляе не толькі забяспечыць сябе матэрыяльна, але і рэалізаваць свае творчыя памкненні.

Шосты курс. Мой муж, літаратуразнаўца і пісьменнік Язэп Янушкевіч (мы жанатыя ўжо трыццаць гадоў), тады паспяхова скончыў аспірантуру і стаў укладальнікам першай кнігі для выдавецтва "Мастацкая літаратура" — "Творы В. Дуніна-Марцінкевіча". Ён і прапанаваў: "Хопіць табе, Галіна, хадзіць толькі на заняткі, пойдзем у выдавецтва. Ты ўбачыш іншы свет".

Гэта ён пазнаёміў мяне з мастацкімі рэдактарамі, завёў у нядаўна створанае выдавецтва "Юнацтва". Ішоў 1985 год. Мне адразу замовілі аздобіць кніжку Міхася Калачынскага "Снежная казка". З гэтага часу ўсё маё жыццё звязана з кнігавыданнем".

На рахунку спадарыні Галіны 80 кніжак, не лічачы аздаблення шматлікіх часопісаў: "Бярозка", "Лесавік", "Вясёлка" і іншых.

У той час яны з мужам і маленькімі дзецьмі набылі дом у Ракаве.

"Здавалася, што ў сталіцы адбываюцца сапраўдныя падзеі, а я жыву ў гэтай заснежанай хаце, у печы палю, ваду нашу са студні. Але падчас выставак сустракалася з калегамі і бачыла, што нават маючы ванну з гарачай вадой і батарэю цэнтральнага ацяплення, мастакі ад побытавых клопатаў не пазбаўлены. І таксама скардзяцца, што часу на творчасць не хапае".

З тых, над якімі працавала, запомніліся кнігі Рыгора Барадуліна "Грышка, Мішка і Шчыпай ехалі на чоўне", "Лемантар" Максіма Танка, "Крыж на зямлі і поўня ў небе" Віктара Карамазава, "Каласы пад сярпом тваім" — двухтомнік твораў Караткевіча для серыі "Школьная бібліятэка" (дыплом на рэспубліканскай кніжнай выстаўцы "Мастацтва кнігі" ў 2002 годзе).

"Бываюць кнігі, дзе толькі вокладка ды пару заставак, але мастак павінен помніць, што кожная яго кніга — гэта выстаўка! І адказнасць павінна быць высокай".

Запомнілася і "Бяздоннае багацце" Вацлава Ластоўскага (2001), укладальнікам якой быў Язэп Янушкевіч. "Упершыню пад адной вокладкай былі сабраны ўсе творы аўтара — і фантастычныя, і алегарычныя, і філасофскія. І апавяданні, і легенды, і казкі, і аповесці, і навукова-педагагічны матэрыял, і ўспаміны… Вельмі цяжка было мастакам аб'яднаць у адну канцэпцыю, перадаць аўтарскую філасофію. У выдавецтве сказалі: "Ратуй мужа, ратуй кнігу, бо ўвогуле выйдзе без ілюстрацый!" Тады я прапанавала нацюрморты, прасякнутыя духам беларускага побыту, якія выклікалі б замілаванне простымі някідкімі матывамі.

Разам выбралі з тых акварэляў, якія ў мяне ўжо былі. Зрабіла для кожнага раздзела застаўкі — від з акна, на падаконніку якога ляжыць кніга. У "Бяздонным багацці" пяць раздзелаў, і да кожнага — за акном свая пара года. Якая пятая? Творчасць, натхненне.

Калі бяру ў рукі кнігу, прыгадваю наша акно ў Ракаве і краявіды Браслаўшчыны, дзе часта адпачывала з бацькамі".

У 1995 годзе Галіну запрасілі на выкладчыцкую працу ў Рэспубліканскую гімназію-каледж пры мастацтваў імя Івана Ахрэмчыка, дзе мастачка працуе ўжо 17 гадоў.

"Цяжка спалучаць выкладчыцкую працу з творчасцю. Але калі бачыш зацікаўленыя дзіцячыя вочы, адмовіць не можаш. І ад аздаблення кніг не магу адарваць сэрца. Што з апошняга рабіла? Тацціяны Мушынскай "Вожыкі ў футбол гуляюць", Міколы Мятліцкага "Цяпло буслінага крыла", Анатоля Зэкава "Зязюля Гулюля"…

Мастак падобны і да кампазітара. Галоўнае — наяўнасць у кнізе строю, рытму. Кожнае выданне павінна мець свой вобраз. Нельга паўтарацца. Трэба кожны раз нешта мяняць — у залежнасці ад аўтарскага тэксту, нібыта іншы чалавек гэта робіць. Прыклад для мяне — Арлен Кашкурэвіч, Пятро Драчоў.

Якія якасці асноўныя для кніжнага графіка? Любоў да дэталі, любоў да кнігі як да твора мастацтва і да каштоўнасці, усеэдлівасць, аналіз і адбор дэталяў. Уменне расцягнуць час, ператварыць яго з абавязку ў час творчасці.

З вялікім задавальненнем супрацоўнічаю з выдавецтвам "Літаратура і Мастацтва". Рэдактар Мікола Мінзер — вельмі далікатны і добра валодае кніжнай справай. Шмат працуем над вокладкай. Выдавецтва гэта дазваляе, разумее, наколькі важна першае, што ўбачыць чытач".

Галіна дастае макет будучай кнігі. На кожнай яго старонцы накіданы замалёўкі. На асобных аркушах — малюнкі.

"Кніга для мастака — яшчэ адна магчымасць паглядзець на сябе вачыма іншых людзей. Асабліва калі вачыма дзіцяці, — адчуваеш найвялікшую адказнасць".

З першага нумара яна шчыруе над аздабленнем каталіцкага дзіцячага часопіса "Маленькі рыцар Беззаганнай", а нумароў ужо 60. "Гэта мой грамадзянскі і рэлігійны абавязак. Бо талент — ад Бога. І творца заўсёды вінен Богу і дзецям".

**Візітка**

*Галіна Хінка-Янушкевіч нарадзілася 19 студзеня 1962 года ў Мінску. Скончыла Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (сёння — БДАМ) у 1985 годзе. Яе ілюстрацыі знаходзяцца ў фондах полацкага Музея кнігадрукавання, прыватных калекцыях Расіі, Польшчы, Германіі, Францыі, Італіі.*

***На здымках: малюнкі Галіны Хінкі-Янушкевіч да кніг Вацлава Ластоўскага "Бяздоннае багацце" і Ганада Чарказяна "Талісман".***

Глыбокае-2012

## Край песенны, азёрны, непаўторны

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ

Шматлікім шаноўным гасцям Міжнароднай мінскай кніжнай выстаўкі-кірмашу, пэўна, будзе цікава ведаць: у першую нядзелю кожнага верасня ўрачыста адзначаецца дзяржаўнае свята — Дзень беларускага пісьменства. Сёлета яго сталіцай стане Глыбокае — горад на Віцебшчыне, надзвычай багаты сваімі талентамі і традыцыямі.

Да свята старанна рыхтуюцца не толькі глыбачане, але і ўся рэспубліка — міністэрствы, ведамствы, прадпрыемствы, установы, грамадскія арганізацыі… І, вядома ж, выдавецтвы. Напрыклад, "Мастацкая літаратура" працуе над кнігай "Глыбоччына літаратурная", што раскажа пра выбітных празаікаў, паэтаў, драматургаў з Глыбоцкага раёна. Тут нарадзіліся Ян Пачопка, Алесь Дубровіч, рускія пісьменнікі Мікалай Мінскі (Віленкін) і Лявон Ракоўскі, польскі літаратар і драматург Тадэвуш Даленга-Мастовіч. З гэтым цудоўным краем звязана жыццё Паўліны Мядзёлкі, Язэпа Драздовіча, Ігната Буйніцкага, Вацлава Ластоўскага… Кніга апавядае і пра творчы шлях сучасных пісьменнікаў, якія жывуць і працуюць у раёне.

РВУ "Літаратура і Мастацтва" рыхтуе да Свята пісьменства два выданні — "Глыбокае: повязь часоў" і "Зямля любімая навечна, дзе Доўгае і Беразвечча". У першым, у асноўным, будуць змешчаны ўнікальныя фотаздымкі, якія адлюстроўваюць жыццё і побыт глыбачан, пачынаючы з 1793 года, калі рэгіён, пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай, апынуўся ў складзе Расійскай імперыі.

У другой кнізе акрамя найбольш значных гістарычных фактаў расказваецца пра знакамітых людзей раёна, герояў працы, перадавікоў і наватараў вытворчасці. Значнае месца адводзіцца дзейнасці народных талентаў — музыкаў, спевакоў, мастакоў, кавалёў, бондараў… Шмат старонак прысвечана літаратурнаму аб'яднанню "Даляглядь", якое плённа працуе пры рэдакцыі райгазеты, творчасці яго ўдзельнікаў. А чаму такая назва?

Беразвечча — самае старажытнае паселішча на Глыбоччыне, якое ўпершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца ў XIV стагоддзі. У свой час тут былі пабудаваны праваслаўная царква, базыльянскі кляштар, мужчынскі і жаночы манастыры, духоўнае вучылішча. Іншымі словамі, Беразвечча стагоддзямі з'яўлялася цэнтрам нацыянальнага і культурнага адраджэння. У 1960-х гадах яно злучылася з Глыбокім і ўвайшло ў яго склад.

Доўгае (маецца на ўвазе возера) называюць беларускім Байкалам. Яно самае глыбокае ў Беларусі, найбольшая глыбіня дасягае амаль 54 метраў. Ад іншых азёр вада ў Доўгім адрозніваецца вялікай колькасцю кіслароду і нізкай тэмпературай. Летам яна праграваецца толькі да 18 — 20 градусаў, ніжэй за 20 метраў тэмпература не падымаецца вышэй як 6 градусаў.

Цяжка сказаць, якое са 106 азёр Глыбоччыны самае прыгожае, прыцягальнае. Усе яны дзівосныя, казачныя — без сумніву, зачароўваюць кожнага вандроўніка. І не толькі азёры. У раёне захавалася больш як 50 аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны, у тым ліку каля 20 храмаў і столькі ж сядзібна-паркавых ансамбляў. Ёсць і надрэнная турыстычная інфраструктура: 21 аграсядзіба, сем баз адпачынку і прафілакторыяў, шэсць гасцініц і гасцявых хатак, шмат месцаў прыпынку ля вадаёмаў, у лясах. Карацей кажучы, тут ёсць дзе адпачыць і што паглядзець.

Каб зрабіць раён яшчэ больш прывабным, райвыканкам распрацаваў маштабны праект стварэння турыстычнага квартала. Ён размесціцца ў гістарычным цэнтры горада — на плошчы 17 Верасня, якая захавала планіроўку XVII стагоддзя і дзе знаходзяцца самыя каштоўныя помнікі архітэктуры: велічны сабор Прасвятой Багародзіцы і касцёл Святой Тройцы. З гэтай плошчай звязаныя імёны і лёсы адметных людзей. Тут знаходзіліся дамы, у якіх нарадзіліся і правялі дзяцінства аўтар сусветна вядомага рамана "Знахарь" Тадэвуш Даленга-Мастовіч і знакаміты савецкі авіяканструктар Павел Сухі.

— Мы спадзяёмся, што ўдзельнікі і госці Дня беларускага пісьменства змогуць убачыць першыя рысы будучага турыстычнага квартала і новага аблічча гістарычнага цэнтра горада, — зазначыў начальнік аддзела ідэалагічнай работы райвыканкама Міхаіл Чарапкоўскі. — Ужо сёння шукаем пазабюджэтныя сродкі, айчынных і замежных інвестараў.

Словам, раён збіраецца сустрэць свята ва ўсёй сваёй красе.

**Газета "Літаратура і мастацтва" — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства.**


Кяміль Афсараглу

**Вядомы азербайджанскі пісьменнік Кяміль Афсараглу — аўтар шэрагу празаічных твораў, які вызначаецца рэалістычным талентам, глыбінёй пранікнення ў з'явы жыцця і характары герояў. Даследуючы рэальныя, бытавыя факты сучаснасці ці зусім нядаўняй гісторыі, творца па-майстэрску абагульняе ўбачанае, тыпізуе і дакладна фіксуе атмасферу часу, аддаючы сімпатыі носьбітам і абаронцам дабра.**

**Аддзел прозы і паэзіі**

# Аднавухі

## Апавяданне

Аднойчы ў наш двор завітаў каржакаваты, з пышнымі вусамі чалавек гадоў сарака, які купіраваў вушы. У адрозненне ад прадаўца гатыку ці тачыльшчыка нажоў, якія раніцай будзілі наваколле, ён не стаў гучна клікаць, маўляў, хадзіце сюды, я вушы рэжу. Балазе, і дадатковага вуха ніхто не меў. З выгляду ён быў падобны да горца, няйнакш гасцяваў у каго з суседзяў. Мяркуючы па ўсім, упершыню трапіў у горад: шмат што для яго тут было дзівам, таму ўсё вакол мераў на свой аршын. І ў гэты аршын ніяк не ўкладваліся доўгія вушы маленькага сабачкі, які бесклапотна дурэў на двары. Чалавек ніяк не мог адвесці ад яго вачэй. Акрамя вушэй яго ўразіла і недарэчнае аблічча гэтай істоты — ніколі не бачыў нічога такога, нават у сне не сніў. Чалавек нейкі час моўчкі глядзеў на хвост няскладнай жывёлы, што быў падобны да грывы і ўвесь час матляўся з боку ў бок. І толькі слабы, віскатлівы голас сведчыў пра прыналежнасць да сабачага роду.

— Ды што гэта за парода, хіба ж бываюць такія сабакі, — мовіў ён. У густой, доўгай, як у казла, поўсці адбіваўся залаты колер, толькі кончык носа быў чорны. Выцягнутае тулава, кароткія ногі, пляскатыя лапы і вялізныя вушы. Гэтыя вушы затулялі пысу, звісалі да зямлі, толькі што не падмятаючы яе.

— О Усявышні, хай будзе што будзе, — чалавек скіраваў свой позірк да нябёсаў, тады нахіліўся, пачаў пагладжваць шчаня па галаве і звярнуўся да яго:

— Паслухай, боскае стварэнне. І цябе ж хтосьці стварыў, не сам жа ты з'явіўся на свет. Што гэта за выгляд, да каго ты падобны?

Сабачка, нібыта саромеючыся свайго недарэчнага аблічча, жаласна заскуголіў і прыціснуўся да ног чалавека. А той працягваў:

— Небарачка, ты яшчэ маленькі, табе і няўцям, што калі вырасцеш, колькі непрыемнасцей могуць прынесці гэтыя доўгія вушы. Прыйдзе час нашчадкамі абзавесціся ці ў бойку ўступіць, схопяць за вушы і так цябе адцягаюць — мала не будзе.

Цеплыня, спагада, што чуліся ў голасе, натхнілі сабачку і ён утаропіўся ў незнаёмца сваімі вочкамі-гузічкамі, перакананы, што гэтага чалавека, якога ён бачыць упершыню, не трэба баяцца, наадварот — вусаты чалавек мае намер зрабіць штосьці добрае. А "добрае" паводле сабачых меркаванняў — значыць, прылашчыць, пачаставаць смачненькім. Ну, што ж яшчэ можа быць? Як высветлілася, можа…

Ярка бліснула лязо пастуховага нажа, сабачка прымружыў вочкі і ў тое ж імгненне ледзь не сканаў — яго працяў рэзкі боль. Жывёлінка не зразумела, што ж адбылося… Зрэзанае ледзь не пад корань вялікае валасатае вуха нерухома ляжала на зямлі.

Вусаты чалавек не звяртаў увагі на шалёны віскат, прызвычаўся, відаць. Спакойна пасыпаў рану соллю, каб не загнаілася. Але ад гэтага боль зрабіўся яшчэ мацнейшы. Сабачку нават падалося, што чалавек зноў правеў нажом, і ён завіскатаў яшчэ гучней. Суседзі павыскоквалі на балконы, некаторыя пабеглі ўніз, у двор. Жанчыны не маглі стрымаць слёз, гледзячы на шчаня, што тулілася да сцяны і калацілася ўсім целам. Цётка Зіна толькі зірнула на вуха, што валялася на зямлі, і сама страціла прытомнасць. Людзі толькі цяпер зразумелі, што адбылося, і накінуліся на незнаёмца:

— У цябе што, сэрца каменнае? — абурэўся сусед з першага паверха, — гэта ж табе не куст калючкі, каб вырываць яго. Ён жа не вартавы сабака, каб атару ахоўваць. Хіба не бачыш, што Алах стварыў гэтага небарачку на радасць людзям?

Адзіны іранец, што жыў у доме, падтрымаў суседа:

— Што ж ты зрабіў, хлопец? Большую ж частку гэтага небаракі складалі вушы, паадразай — што ж там цяперака застанецца?

— ён сказаў гэтыя словы, нахіліўся і хацеў прылашчыць сабачку. Але той палахліва зашыўся ў кут. Ён ужо не верыў людзям.

Слухаючы абураныя словы суседзяў, чалавек разгубіўся, не ведаў, што адказваць, як тлумачыць, што зрабіў гэта не са зла. "Дзіўныя гэтыя гараджане, не зразумець іх — ліха ад дабра не адрозніваюць. Замест таго, каб дзякаваць, накінуліся з усіх бакоў", — мільганула думка ў галаве. Абараніў яго толькі "кайфоўшчык" Самед. Яго ніколі не бачылі цвярозым, заўсёды ён быў напапітку. Трэба — не трэба, уцягваўся ў гаворку. Вось і зараз па ранейшай завядзёнцы ён звярнуўся да вусатага чалавека:

— Брат, прабач, ды імя твайго не ведаю. Я Самед, але ў Расіі мяне завуць "Даўго Самед". Не глядзі, што ў мяне гэткая мянушка, размова ў мяне кароткая. Ведай, я таксама вушы рэжу.

Чалавек трохі натхніўся ад таго, што гэты нягеглы суразмоўнік — яго калега — абараніў яго, і трохі акрыяў. А Самед не суцімаўся:

— Але я не рэжу, як ты, вушы сабакам, — ікнуў ён, — ёсць вушы, якія трэба адразаць без усялякіх пытанняў. Я цябе зразумеў, гэта яны цябе не разумеюць. Паганае шчанё, відаць, зачапіла цябе, вось ты яму вуха і адрэзаў, інакш якая табе справа да яго. Вы толькі зірніце на гэты выгляд-фасон, што з яго атрымаецца — ды нічога. Гэта ж не сабака, а пачвара. Аднойчы бачу, ля парога цёткі Зіны есць з адной місы з пацуком. Чаго чакаць ад сабакі, які падзяляе хлеб са сваім ворагам? Брат, не варта бянтэжыцца — адразай яму і другое вуха, хай сабе бегае. Караеш — карай да канца. "Даўго Самед" за ўсё адказвае, можаш спадзявацца на мяне.

Самед, з аднаго боку, меў рацыю: не заставацца ж сабаку аднавухім. Аднак ніхто не наважыўся сказаць гэта ўголас. Але чалавек, відаць, пакрыўдзіўся, пад тонкім струменем вады змыў кроў з нажа, рукавом кашулі абцёр лязо, схаваў у кішэню і ціха сышоў.

Міналі дні, месяцы, аднавухі мяняўся. Мне здавалася, што ён паступова зробіцца жахлівай пачварай накшталт сабакі Баскервіляў. Але сабака і не думаў расці, нават калі б вельмі захацеў, — парода гэткая была. Па тым, як сабака ставіўся да жыхароў — радасна бег насустрач, лашчыўся — было зразумела, што ён не крыўдуе на людзей. А можа, і забыўся, што калісьці яму адрэзалі вуха і ён зрабіўся аднавухім. Часам дакучлівая муха, ўбіваючыся ў густую поўсць, утыкалася яму ў вуха, і тады здавалася, што і адрэзанае пачынае свярбець. Пад цяжарам вялікага правага вуха шыя ў сабакі трохі скрывілася. Аднак ні людзі, ні ён сам не лічылі гэта заганай.

Калі настаўнік заалогіі тлумачыў, што чалавек прыручыў сабак прыкладна дваццаць тысяч гадоў таму і што навукоўцы даказалі іхняе паходжанне ад ваўкоў, мы ганарыліся і адначасова дзякавалі лёсу за тое, што навукоўцы не бачылі нашага аднавухага, бо яны б мелі іншую думку. Аднавухі, хоць і належаў да сямейства пазваночных, больш нагадваў насякомае — агародная шкодніка мядзведку.

На пытанне настаўніка геаграфіі "Што такое Фларэнцыя і дзе яна знаходзіцца?" у класе ніхто не мог адказаць, акрамя нашых хлопчыкаў — для іх гэта было лёгка.

— Настаўнік, Фларэнцый — гэта сабака з нашага двара, — упэўнена адказаў Самір. Ад здзіўлення настаўнік вырачыў вочы. Ён хацеў быў нешта сказаць, але вусны дрыжалі, язык заплятаўся. Пасля ўзяў сябе ў рукі, тонкім канцом указкі торкнуў у нейкую кропку на геаграфічнай карце і зрывістым голасам пачаў тлумачыць, што Фларэнцыя — гэта не сабака, не шчанё, а горад і знаходзіцца ён у Італіі. Мы разумелі, безумоўна, але вочы верылі ў тое, што бачаць.

Калі мы вярталіся з заняткаў, Фларэнцый звычайна сустракаў нас ля брамкі, віляючы хвастом. Ён ведаў, што яго маленькія сябры і ў школе пра яго не забываюцца, заўсёды пакідаюць для яго палову тлустага смачнага коржыка.

— Фларэнцый, ты хто? — прылашчыў сабаку Самір. Фларэнцый ціхенька заскуголіў, нібыта адказваў: "Сабака я, сабака".

— Настаўнік геаграфіі кажа, што Фларэнцыя — горад.

"Хай кажа што хоча. Але ж я ведаю, што ад самага нараджэння мяне клічуць Фларэнцыем і я — сабака", — нібыта ў адказ паскавытваў аднавухі.

Фларэнцыем яго называў дзядзька Кандрат, ды ён дзесьці знайшоў шчанючка і прынёс у наш двор.

Са сваёй жонкай цёткай Зінай ён жыў у двухпакаёвай кватэры на трэцім паверсе.

Ён быў марак — боцман. І хоць даўно ўжо быў на пенсіі, але цяльняшку не здымаў. Калі дзядзька Кандрат станавіўся на свой капітанскі мосцік (так ён называў балкон) і свістаў у боцманскі свісток, усе ведалі, што ён пад чаркаю. "Управа руль", "Трымаць курс", — камандаваў сам сабе. Чатырохпавярховы жылы дом быў для яго вялікім белым караблём, які плыў па марскіх хвалях. Дзядзькавы каманды ў нейкай ступені мелі дачыненне да Фларэнцыя. Чуючы іх, асабліва "Кінуць якар", сабака адразу ж прыбягаў, нібыта сапраўды сустракаючы доўгачаканы карабель, які толькі прыстаў да берага. Тое, што дзядзька Кандрат называў якарам, было не што іншае, як звычайная бляшанка з ежай для Фларэнцыя, якую ён апускаў на вяроўцы.

І сапраўды, дзядзька Кандрат з цёткай Зінай больш за іншых клапаціліся пра аднавухага, і той меў іх за гаспадароў. Не было ў дзядзькі Кандрата не толькі нікога са сваякоў ці родных, але і сваіх дзяцей. Да гэтых пакрыўджаных лёсам адзінокіх мужа і жонкі ўсе ставіліся з увагай, клапаціліся пра іх. Дзверы іхняй сціплай кватэры з раніцы да вечара былі адчыненыя для суседзяў, ды і для Фларэнцыя. Але нягледзячы на гэта, Фларэнцый ніколі не ўваходзіў у пакой без дазволу. Нават калі надта хацеў, сядаў унізе ля прыступак і пакорліва глядзеў на дзверы. Цётка Зіна чула павіскванне сабакі, выходзіла і пачынала ўшчуваць:

"Ну, што гэта такое, і не сорамна табе за свой сабачы выгляд?"

Аднавухі, згаджаючыся, пачынаў вінавата скуголіць, нібыта хацеў сказаць: "Ну што ж паробіш, я ж сабака. І жыццё-быццё маё таксама сабачае. Ды калі не буду гойсаць увесь дзень ды лавіць зладзеяватых кошак, дык на што ж я тады здатны?"

"Заходзь", — праз зубы, нібыта стомленая ад Фларэнцыя, запрашала ў пакой цётка Зіна. Сабака адчуваў, што гэтая жанчына хоць і мае злы язык, але добрая ў душы. У іх маленькай кватэры панаваў марскі парадак, і Фларэнцый, хочаш не хочаш, мусіў падпарадкоўвацца ўсталяваным правілам. Ён разумеў, што не мае права ўваходзіць, як дзядзька Кандрат казаў, на камбуз (так называецца карабельная кухня): ты сабака і ведай сваё сабачае месца. Да таго, у адрозненне ад сваіх чатырохногіх братоў, Фларэнцый быў далёкі ад думкі, што калі ўжо нарадзіўся сабакам, дык абавязкова трэба кусацца. Толькі аднойчы ён прадэманстраваў свой сабачы нораў: калі адчуў падман і пагнаўся за жабраком, што прыкінуўся сляпым. З таго часу стаўленне да сабакі змянілася, на аднавухага больш не глядзелі як на непатрэбнае стварэнне, цацку. Паверылі, што пры нагодзе Фларэнцый цалкам можа выявіць свой характар.

Кожную суботу цётка Зіна рыхтавала лазню. Праўда, нельга сказаць, што аднавухі з нецярпеннем чакаў яе, з вадой ён быў не ў ладах. Толькі ніхто на гэта не зважаў. Пасля дзядзькі Кандрата цётка Зіна акунала ў ванну аднавухага. Поўсць прамакала, і Фларэнцый рабіўся зусім смешным і нягеглым. Пасля таго, як яго залатую поўсць сушылі фенам, расчэсвалі, ён паступова набываў годны выгляд. У адрозненне ад Фларэнцыя, дзядзька Кандрат не меў патрэбы ні ў фене, ні ў грабянцы, бо ледзь не ад нараджэння быў лысы. Ад дзядзькі і ад сабакі ў такія дні ішоў пах духмянага мыла. Дзядзька Кандрат меў адну схільнасць: адразу пасля лазні ён ішоў у павільён на другой Бухцінскай вуліцы піць піва.

Аднавухі праводзіў яго да брамкі, клаўся ў цень і чакаў вяртання. Ведаў, што дзядзька Кандрат не затрымаецца. Той піў піва, ішоў дамоў, і ад яго пахла ўжо не духмяным мылам, а вэнджанай рыбай. Пах рыбы аднавухі надта ж любіў. Ён блытаўся пад нагамі, лізаў калашыны дзядзькавых штаноў, яго чаравікі, заліваўся слінай. Цётка Зіна, наадварот, не выносіла гэты пах і пачынала сварыцца на мужа. Дзядзька ж Кандрат быў у найлепшым настроі. Каб улагодзіць жонку, казаў: "Зінаіда Пятроўна, даражэнькая, вось ты сварышся, што ад мяне патыхае рыбай, а што тут кепскага? Ад марака павінен ісці пах рыбы, чаго ж яшчэ. Паглядзі на Фларэнцыя, толькі што пакупаўся, а ад яго зноў смярдзіць сабакам".

"Ён сабака, таму і смярдзіць сабакам", — заступалася за Фларэнцыя цётка Зіна.

Але былі ў нашым двары і тыя, хто не любіў аднавухага. Няшчасны сабака быў у разгубленасці, не разумеў людзей. Хоць і віляў хвастом перад усімі, але добра адрозніваў благое ад добрага, чорнае ад белага. Увечары ён бег насустрач суседзям, якія вярталіся з працы, і скакаў з радасці.

— Фларэнцый, матор уключылі? — цікавілася Ханым-хала з апошняга паверха. Вада была яе "галаўным болем", бо на чацвёрты паверх амаль не даходзіла. У адказ Фларэнцый ціха скуголіў і круціў хвастом.

— Мой разумнік, а электракантралёры прыходзілі? — пытаў Гасым, які жыў насупраць Зінінай кватэры. Нікога ён не баяўся так, як кантралёраў.

— Фларэнцый, прыгажунчык мой, мы неўзабаве развітаемся, — шкадавала бялявая вастраносая жанчына. — Ах, хутчэй бы я з'ехала, мая ж бабуля фрау Клара Шміт была немкай…

Хоць пытанні былі рознымі, Фларэнцый усім адказваў аднолькавым гаўканнем і кожны разумеў яго па-свойму: Ханым-хала верыла, што матор працуе, Гасым — што кантралёры не прыходзілі, а вастраносая жанчына — што мара яе спраўдзіцца і яна з'едзе ў Германію — на радзіму бабулі Клары Шміт. У вастраносай жанчыны было яшчэ адно жаданне — убачыць нашчадкаў аднавухага. На самай справе шмат хто гэтага хацеў. Дзеці нават падзялілі шчанюкоў Фларэнцыя, што яшчэ не з'явіліся на гэты свет, і нават папрыдумлялі для іх мянушкі. Толькі аднаго баяліся — што яны народзяцца аднавухімі.

Аднойчы раніцай вуліца напоўнілася сабачым гаўканнем. Ад гэтых страшэнных гукаў рабілася вусцішна. У наш двор заехала грузавая машына, у кузаве якой сядзела на ланцугу жоўтая слабая сука. На яе выццё адгукаліся ўсе бяздомныя сабакі. Скуголячы, яны заходзілі ў жалезную клетку як загіпнатызаваныя, нібыта хтосьці цягнуў іх туды. Фларэнцый разгубіўся і не ведаў, што рабіць. Гукі, што даляталі з вуліцы, клікалі і яго. Ён таксама захацеў быў далучыцца да агульнага гаўкання, але голас яго толькі хрыпеў. Не ўмеючы выць, ён жаласна заскавытаў, хутка збег з прыступак у двор, хоць не ведаў, куды і навошта бяжыць — усё адбывалася насуперак яго волі. Ён выбег за брамку, спыніўся, замітусіўся, трывожна азіраючыся. Упершыню Фларэнцый бачыў доўгую вуліцу, што ішла ўздоўж ярка-зялёных дрэў. Ён спалохана глядзеў на сабак, якія, выючы і скуголячы, пазбіваліся ў клетцы, і, здаецца, пазнаў сярод іх плямістага сабаку, што не аднойчы прыбягаў у наш двор. Фларэнцый падціснуў хвост і заскавытаў. Дзеці хацелі заступіць шлях аднавухаму, які на нейкі момант замёр на месцы.

— Фларэнцый, не хадзі, Фларэнцый, — угаворвалі, прасілі яны, — вярніся, Фларэнцый!

"Не, я мушу ісці, мяне завуць", — "у адказ" заскуголіў аднавухі. Ён нечакана напружыўся і заскочыў у клетку.

Машына ўсё далей спускалася па дарозе, аддалялася і сабачае гаўканне. Сярод гэтага страшэннага выцця чуўся і жаласны, віскатлівы голас Фларэнцыя, нібыта ён развітваўся з намі. Мы глядзелі ўслед машыне і не маглі стрымаць слёзы:

— Бывай, Фларэнцый!..

**Пераклад з азербайджанскай Ірыны КАЧАТКОВАЙ**

# Вечарамі гартаю альбом...

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

**На паліцы з важкімі мастацкімі альбомамі, шыкоўнымі каталогамі ды ёмістымі маляўнічымі фаліянтамі па гісторыі сусветнага жывапісу знайшлася ніша і для субтыльнай кніжыцы пад назваю "Слуцкая палітра". Праўда, непазбежнае зняволенне ў бібліятэчнай шафе ёй на бліжэйшы час не пагражае. Бо за год, што мінуў з часу выхаду гэтага выдання, далёка не ўсе зацікаўленыя чытачы паспелі даведацца пра яго, а тым больш — патрымаць у руках новы альбом, які, нягледзячы на свой падкрэслена рэгіянальны змест і сціплыя габарыты (64 старонкі пamерам 3 г. зв. машынапісны аркуш), стаўся заўважнаю з'явай у айчыннай мастацкай культуры.**

Фотаальбом "«Слуцкая палітра». (З фондаў Слуцкага краязнаўчага музея)" выпушчаны ў свет рэдакцыйна-выдавецкай установай "Літаратура і Мастацтва" накладам 1000 экзэмпляраў. Выданне ажыццёўлена па замове дзяржаўнай установы "Слуцкі краязнаўчы музей" і пры фінансавай падтрымцы ААТ "Слуцкі цукрова-рафінадны камбінат". Прывабна, але без пярэстай кідкасці, афармленая цвёрдая вокладка; з густам скампанаваныя на мелаванай паперы каляровыя ілюстрацыі: здымкі музейных імпрэз, пастаянных экспазіцый, "спыненыя імгненні" вернісажаў, фотарэпрадукцыі амаль сотні твораў выяўленчага мастацтва, — усё гэта робіць адметным візуальнае аблічча альбома і звяртае ўвагу на гожую працу мастака-дызайнера Уладзіміра Шолка ды фатографа Валерыя Сібрыкава.

Аглядны артыкул аўтара тэксту і ўкладальніка "Слуцкай палітры", дырэктара краязнаўчага музея Наталлі Серык знаёміць чытачоў з рознабаковай дзейнасцю гэтай адметнай установы, гісторыя якой пачалася са стварэння двух музейных пакояў у мясцовым Доме культуры. Дарэчы, было гэта ў 1952-м, так што сёлета Слуцкі краязнаўчы музей, асяродак багатай гістарычнай памяці, самабытнай культуры, асветніцтва і жывой творчасці, можна віншаваць з "круглай датай". А залетась тут адзначылі 5 гадоў з часу адкрыцця філіяла — Галерэі мастацтваў, якую сёння ведаюць за межамі Случчыны і нават Беларусі. Дзіва што! У галерэі рэгулярна праходзяць калектыўныя і персанальныя выстаўкі вядомых айчынных творцаў (многія прытым дораць свае работы гораду), ладзяцца сумесныя праекты з пасольствамі блізкіх і далёкіх краін (Расійскай Федэрацыі, Кітайскай Народнай Рэспублікі, Японіі, Ісламскай Рэспублікі Іран, Дзяржавы Ізраіль).



Слуцкі краязнаўчы музей мае сёння прадстаўнічую калекцыю, здатную ўразіць і ўнікальнасцю, і разнастайнасцю, бо ў ёй — і ўзоры іканапісу XVIII стагоддзя, і вырабы мясцовай фабрыкі слынных паясоў, і фарфор знакамітых старасвецкіх заводаў, і прафесійная творчасць нашых сучаснікаў, і шэдэўры народнага мастацтва.

Наталля Серык піша, звяртаючыся да чытачоў: "Цяпер у фондах нашага музея знаходзіцца больш як 780 твораў мастацтва. Гэты альбом ахоплівае толькі каля 9%, і ён складаецца з дзвюх частак ("Майстры пэндзля", "...І прыгажосцю жыць". — **С. Б.**). У першай размешчаныя кароткія біяграфічныя звесткі пра мастакоў-прафесіяналаў ды іх творы. У другой — звесткі пра людзей, якія не атрымалі мастацкую адукацыю, але заўсёды адчувалі прыцягненне прыўкраснага: ці то палявая кветка або ружа, якая разгортвае свае пялёсткі, узыход сонца або змярканне, снежная зіма або спякотнае лета, — ды імкнуліся перадаць стан прыроды і сваёй душы з дапамогай фарбаў. Не маркуйце пра іх строга — гэта цудоўна, што ёсць такія людзі, і няхай іх будзе больш на нашай Зямлі".

> *Музей — гэта пасрэднік паміж грамадствам і спадчынай, якая належыць грамадству. А фінансы — толькі механізм, які дапамагае музею выканаць яго місію.*

Як немажліва "з наскоку" ахапіць-разгледзець новую мастацкую экспазіцыю, так і скласці грунтоўнае ўражанне пра "Слуцкую палітру" немажліва, таропка прагледзеўшы старонкі новага альбома. Кніга такога кшталту павінна хаця б нейкі час пабыць побач з табою. Каб у кожную зручную хвіліну можна было разгарнуць яе, угледзецца ў маляўнічую выяву, уявіць, як выглядае арыгінал, задумацца пра творчасць



яе аўтара дый пра шчодрасць на таленты і "артавы" магнетызм слуцкага краю. Са старажытнага Слуцка або яго навакольных вёсак прыйшлі ў беларускае мастацтва такія знаныя і шаноўныя асобы, як Уладзімір Вішнеўскі, браты Басалыгі, Іван Пратасеня, Алена Бархаткова, Уладзімір Хадаровіч, Уладзімір Вітко, Уладзімір Голуб. Адметныя мясцовыя традыцыі школы выяўленчага мастацтва, закладзеныя незабыўным Уладзімірам Садзіным, развіваюцца ў творчасці і ў педагагічнай дзейнасці Уладзіміра Кожуха, Наталлі Шуманскай, Ігара Ціткоўскага, Алены Хатэнкі, Аляксандра Салтаўца... Багацце слуцкага збору выяўленчага мастацтва люструюць змешчаныя ў альбоме палотны Міхася Блішча, Міколы Валынца, Георгія Скрыпнічэнкі, Ігара Бархаткова, Фелікса Янушкевіча, Валерыя Шкарубы; зробленыя алоўкам мініяцюры Уладзіміра Савіча, Міхася Карпука; лінагравюры Міхася Сеўрука, Яўгена Куліка; шматфігурныя акварэльныя кампазіцыі Паўла Уласевіча; каляровыя аўталітаграфіі Наталлі ды Кацярыны Палаўскіх...

"Слуцкая палітра" здатная пацешыць і патрыятычныя, і эстэтычныя пачуцці "шляхетных слуцакоў", зацікавіць многіх нашых суайчыннікаў, неабыякавых да праблем беларускай культуры, да выяўленчага мастацтва. Гэта і своеасаблівы заклік (а можа, выклік?), звернуты да іншых рэгіянальных музеяў, якія пакуль не маюць аналагічных выданняў, і да іх патэнцыяльных спонсараў.



***На здымках: вокладка альбома; Мікалай Лазавы "Партрэт Баграціёна" (ксілаграфія, 1988); Аляксандр Салтавец "Прыцемкі" (палатно, алей, 2006); Вера Шут "Вяртанне" (папера, аловак, 2010).***

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

Тым, чыё прозвішча "Шышкін", або жыхарам вуліцы Шышкіна, у якім бы населеным пункце і ў якой краіне яна ні знаходзілася, уваход на гэтую выстаўку бясплатны. Так вырашылі яе арганізатары — супрацоўнікі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Новая экспазіцыя "Іван Шышкін: жывапіс і графіка", прымеркаваная да 180-годдзя з дня нараджэння мастака, складаецца з больш як 30 палотнаў, арыгінальных малюнкаў і ўзораў тыражнай графікі майстра. Гэта амаль уся калекцыя яго твораў са збору НММ. Арыгінальным папаўненнем музейных фондаў могуць стаць... малюнкі дзяцей, не старэйшых за 8 гадоў, створаныя паводле ўражанняў ад карцін І. Шышкіна, і гэта яшчэ адна мажлівасць пагля-дзець экспазіцыю бясплатна: дарослы родзіч можа абмяняць работу маленькага мастака на ўваходны білет і разам са сваім юным спадарожнікам прайсці на выстаўку.

Творчая моладзь гасцюе ў НАВТ оперы і балета Беларусі. Тут у Камернай зале адкрылася выстаўка Мінскага дзяржаўнага мастацкага каледжа імя А. К. Глебава, прысвечаная 65-годдзю ўстановы. Гісторыя сведчыць: 1 верасня 1947 г. у Мінску, на новай базе, аднавілася педагагічна-творчая дзейнасць сусветна вядомага Віцебскага мастацкага тэхнікума, традыцыі якога сілкаваліся каранямі ад слыннай школы-студыі Ю. Пэна. "Глебаўка" стала падмуркам беларускай школы выяўленчага мастацтва. Са славутай вучэльні выйшлі на прафесійны творчы шлях многія айчынныя знакамітасці, у тым ліку Міхась Савіцкі, Май Данцыг, Віктар Грамыка, Леанід Шчамялёў, Арлен Кашкурэвіч, Георгій Паплаўскі, Васіль Шаранговіч. І невыпадкова юбілейная выстаўка навучэнцаў каледжа разгарнулася ў сценах НАВТ: менавіта тут ладзіліся заняткі будучых мастакоў у першыя гады існавання вучэльні.

Персанальную выстаўку Любові Сідзельнікавай "Сцэнічная прастора" запрашае наведаць Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі. Візуальныя вобразы больш як 30 разнажанравых пастановак у айчынных і замежных тэатрах стварыла гэтая мастачка. Пяты год Л. Сідзельнікава працуе мастаком-пастаноўшчыкам у Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры. Наколькі трапна і тонка ўдаецца ёй спалучаць задачы сцэнаграфіі з гукавой атмасферай, сведчыць праца Л. Сідзельнікавай у спектаклях "Баль кветак", "Шчаўкунчык", "Бабскі бунт", "Мая жонка — падманшчыца", "Аршын мал алан", "Званочак, або Шлюбная ноч аптэкара" ды інш. На выстаўцы ў музеі — эскізы дэкарацый, макеты, касцюмы, створаныя мастачкай з 1995 па 2011 гады для пастановак БДАМТ, РТБД, Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы...

Фатаграфіяй, блізкай да жывапісу называюць творчасць фотамастакоў-пікчарыялістаў. Росквіт гэтага напрамку прыпаў на памежжа XIX — XX стст. Тагачасныя майстры светлапісу імкнуліся шляхам найскладаных тэхнічных пошукаў імітаваць прыёмы жывапісцаў і графікаў, арыентуючыся на дасягненні імпрэсіянізму і мадэрна. Класікам беларускага мастацкага фота і адным з першых айчынных пікчарыялістаў (разам з Янам Булгакам) лічыцца мінскі майстар "высакародных метадаў друку" Леў Дашкевіч. Да 130-годдзя з дня яго нараджэння Нацыянальны гістарычны музей Беларусі прымеркаваў выстаўку "Метамарфозы", дзе экспануюцца работы Маргарыты Трэніпай, Альберта Цехановіча. Наталлі Яўмененкі, Аляксандра Птаха ды іншых сучасных беларускіх паслядоўнікаў пікчарыяльнай фатаграфіі, якая перажывае сваё адраджэнне.

# Фэст слаўны ў Заслаўі!

**Сёння ў горадзе легендарнай Рагнеды і сына яе Ізяслава адбудзецца свята музыкі "Заслаўе-2012". Гэта ўжо традыцыйны, дванаццаты па ліку, асветніцкі фэст, які праводзяць тут музыканты Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Іх падтрымліваюць Мінскі аблвыканкам, Мінскі райвыканкам і гарадскія ўлады.**

Арцём КУМЕЛЬСКІХ

Унікальныя праекты, якія заслужаны калектыў на чале са славутым маэстра ладзіць у гістарычных мястэчках і малых беларускіх гарадах, скіраваныя найперш на адраджэнне і прапаганду айчыннай музычнай спадчыны, у тым ліку творчасці нашых класікаў XX стагоддзя. Гэтым разам падрыхтавана прэм'ера канцэртнай праграмы, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння заслужанага дзеяча мастацтваў БССР, адметнага кампазітара-сімфаніста Льва Абеліёвіча. Яго музыка прагучыць у выкананні камерных калектываў, што працуюць у складзе вялікага аркестра.

Таксама ў праграме свята "Заслаўе-2012" — конкурс навучэнцаў дзіцячых музычных школ Мінскай вобласці на лепшае выкананне беларускага твора, адкрыццё мастацкай выстаўкі, сустрэча з доктарам мастацтвазнаўства, прафесарам Вольгай Дадзіёмавай, выступленне Ансамбля флейтыстаў і вялікі вечаровы канцэрт папулярнай песні ў выкананні салістаў Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі.

А на мінулым тыдні аркестр, які ў гэтым сезоне адзначае сваё 25-годдзе, разам з упраўленнем культуры сталічнага гарадскога выканаўчага камітэта праводзіў дванаццаць трэці фэст "Мінскі джаз". Два вечары запар у Клубе імя Ф. Дзяржынскага гучалі новыя набыткі рэпертуару Біг-бэнда аркестра пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, прадстаўленыя ў прэм'ерных праграмах "Новы сусветны джаз" і "Лепшая калекцыя джаза". Трэці вечар пад назваю "Еўрапейскі джаз" правялі нашы госці — Новы літоўскі біг-бэнд пад кіраўніцтвам дырыжора Яраслава Цехановіча. У межах музычнага свята "Мінскі джаз-2012" прайшла і штогадовая цырымонія ўзнагароджвання лаўрэатаў прэміі "Лепшы джазмен года". Сёлета яе атрымалі трубач Дзмітрый Ціхановіч і саксафаніст Андрэй Кляшчоў — музыканты НАКА Беларусі.

Аркестр-юбіляр сустрэнецца са сталічнай публікай з 26 па 29 сакавіка, калі ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі разгорнецца чатырохдзённы фэст з добра знаёмаю назваю "Шлягеры на ўсе часы". Ён складаецца з новых праектаў: "Людміла Гурчанка. «Калі мы былі маладыя…»"; "Песні кіно, радыё і тэлебачання"; "Новы шансон" ды "Юбілейны канцэрт. Міхаіл Фінберг і аркестр".

# Звычайныя цуды «трэцяга напрамку»

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

**Новы аўтарскі дыск Генадзя Гладкова называецца "Звычайны чараўнік". Проста, трапна. І галоўнае — праўдзіва ў дачыненні да творчага статусу легендарнага кампазітара. Неверагодна: яго імя ўжо больш як чатыры дзесяцігоддзі застаецца сярод самых вядомых, а музыка па-ранейшаму запатрабаваная і не страчвае сваёй папулярнасці. Праз пару тыдняў Генадзю Ігаравічу будзе семдзесят сем, але ж гэта — пашпартны ўзрост, а ёсць яшчэ магія Таленту, які жыве па-над зямнымі законамі, непадуладны гадам і апантаны новымі мастацкімі ідэямі.**



## Ад містыкі мінскай...

У "звычайнага чараўніка" — музычныя гены (дзед акампанаваў на гармоніку славутай Лідзіі Русланавай, бацька — баяніст, акардэаніст — саліраваў у знакамітым аркестры Аляксандра Цфасмана), выдатная класічная адукацыя, каштоўны педагагічны досвед, найбагацейшая кампазітарская практыка ў самых розных жанрах: опера, балет, аперэта, песня, сімфанічныя і харавыя опусы, музыка для драматычнага тэатра і экрана… Генадзь Гладкоў стварыў больш як трыццаць мюзіклаў, шмат напісаў для кіно: можна пералічыць добрую сотню стужак — мастацкіх, мультыплікацыйных, навукова-папулярных, — дзе гучыць яго музыка. І з гэтай сотні — "Брэменскія музыканты", "Джэнтльмены ўдачы", "Дванаццаць крэслаў", "Звычайны цуд", "Сабака на сене", "Формула кахання", "Дом, які пабудаваў Свіфт", "Забіць дракона", "Людзі ды манекены", "Чалавек з бульвара Капуцынаў"...

Творчыя стасункі з Г. Гладковым наладзіў і паспяхова развівае Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр. Некалькі сезонаў тут з аншлагам ідзе мюзікл для дзяцей і дарослых пад назваю "Прыгоды брэменскіх музыкантаў"; нядаўна адбылася прэм'ера балета "12 крэслаў", з нагоды якой Генадзь Ігаравіч ужо двойчы прыязджаў у Мінск. Тэатр атрымаў дазвол кампазітара на пастаноўку мюзікла "Звычайны цуд", ажыццявіць якую плануецца пры канцы гэтага года. Але яго самы першы візіт у беларускую сталіцу, як высветлілася з нядаўняй нашай размовы, быў звязаны з кіно:

*— З кінастудыі "Беларусьфільм" я атрымаў замову на стварэнне музыкі да фільма "Сяргееў шукае Сяргеева" (1974 год. — **С. Б.**). І потым ужо шкадаваў, што ўкруціўся ў гэтую працу. Нейкі невыразны аказаўся сцэнарый, нешта не атрымлівалася ў маладога рэжысёра. Я зрабіў эскізы музыкі для будучай аркестравай партытуры, наіграў на раялі, запіс прывёз у Мінск. Аднак пры канцы здымачнага перыяду скончыліся выдаткаваныя на фільм грошы. І замест сімфанічнага гучання ў ім скарысталі фанаграму маіх фартэпіянных накідаў, у тым ліку лірычную мелодыю, якая суправаджала шпацыр персанажаў па парку. Фільм быў зусім няўдалы, атрымаў самую нізкую катэгорыю. У шырокім пракаце яго наўрад ці хто бачыў. Аднак неўзабаве адбылася звязаная з ім цікавая гісторыя. Да мяне звярнулася творчая група з Пецярбурга, якая пачынала здымаць фільм "Сабака на сене". Лопэ дэ Вега, цудоўная драматургія! Я пагадзіўся. Рэжысёр Ян Фрыд паказаў мне вершы для будучай песні галоўнага героя: "Настанет день и час, любовь к тебе придёт, зови иль не зови..." Чытаю — і раптам разумею, што гэтыя радкі абсалютна суладныя з той музыкай, што я напісаў для "парку" ў кіно. Яна супадала з вершаванымі памерам, з усімі націскамі тэксту! Містыка. Так увогуле-то не бывае. Нават калі спецыяльна пішаш музыку на гатовы верш, усё адно ўзнікаюць нейкія "шурпатасці", упрошваеш паэта нешта змяніць або мусіш сам прыстасоўваецца. А тут — нібыта музыка і тэкст усё жыццё былі разам. Я быў збянтэжаны: а раптам мне проста здаецца, што гэта добра? Найграў. Рэжысёр ухваліў песню. Выкананая Міхаілам Баярскім, яна стала галоўнай у фільме, пачала выконвацца і ў канцэртах. А як "музыка ў парку" яна правалілася разам з няўдалай стужкай.*

На мінскую прэм'еру сваіх "Брэменскіх музыкантаў" (спектакль, як вядома, ідзе ў адмысловай версіі тэатра і з назвай "Прыгоды брэменскіх музыкантаў") кампазітар не прыязджаў. Але новую пастаноўку паглядзеў яго суаўтар і сябар, паэт Юрый Энцін, які вярнуўся ў Маскву з найлепшымі ўражаннямі і ахарактарызаваў работу БДАМТа як адзін з лепшых сярод спектакляў пра Трубадура і яго кампанію, пастаўленых на многіх сцэнах. А праз нейкі час Генадзю Ігаравічу зноў патэлефанавалі з Мінска:

*— Мне паведамілі, што тэатр хацеў бы паставіць балет "12 крэслаў". На той час прэм'еры адбыліся ў Свярдлоўску, Чалябінску, у многіх іншых гарадах, нават выйшаў клавір балета. Ноты адаслалі ў ваш тэатр. Раптам мне тэлефанаваў дырыжор Мікалай Макарэвіч, удакладняў ноты, бо сам за камп'ютарам выпісваў партыі для аркестравых інструментаў. Я паглядзеў спектакль — і проста ў захапленні! У вашым тэатры прапанавалі сваю канцэпцыю, змянілі парадак нумароў, але мне гэта даспадобы, бо балет "12 крэслаў" быў напісаны яшчэ ў савецкія гады, а цяпер іншы час, іншая краіна. Вашы маладыя творцы, рэжысёр Настасся Грыненка і харэограф Дзмітрый Якубовіч мелі права на іншы погляд. Пасля прэм'еры я гаварыў, што неабходна зрабіць запіс гэтага спектакля. Бо тэатр чым страшны? Тым, што ён як мастацтва не пакідае слядоў. Усе ведаюць, што быў геніяльны Меерхольд, а дзе яго творчасць? Не засталося і следу. Ці легендарная балерына мінулага, якою ўсе захапляліся: дзе яе сляды? Няма! Толькі ўспаміны, расповеды. А расповеды заўсёды занадта суб'ектыўныя: вось камусьці больш падабалася такое, камусьці — іншае. Таму цяпер многія рэжысёры апантаныя мэтай: зняць усе свае спектаклі на стужку. Той жа Марк Захараў, з якім супрацоўнічаем, кажа: табе, маўляў, добра — у кампазітара ноты застаюцца, і на вякі! А мы, рэжысёры, — тыкпык... і ўсё. Вось я і прапанаваў вашаму тэатру запісаць "12 крэслаў": раптам што зменіцца, можа, праз два гады спектакль сыдзе з рэпертуару. Я шчаслівы, што здымкі атрымаліся, буду выкарыстоўваць фрагменты ў сваіх творчых вечарынах.*

## ... да містыкі Гогаля

Наш госць даволі скептычна ставіцца да таго, каб на аснове відэазапісу "12 крэслаў" стварыць нейкі камерцыйны праект, растыражаваць і прадаваць дыскі са спектаклем. Ён ніколі не ставіў за мэту творчасці фінансавую выгаду:

*— Часта мне даводзілася і даводзіцца самому за нейкія праекты плаціць. Напрыклад, за выданне нот. Хто, напрыклад, купляе клавіры ці партытуры опер? Можа, 5-6 тэатраў. Дык хто ж возьмецца такі тыраж друкаваць? Трэба замаўляць як мінімум сто асобнікаў. Друкаванне нот справа карпатлівая, непрыбытковая. Вось і даводзіцца рабіць гэта сёння кампазітарам за ўласныя грошы. А замест ганарару атрымліваць 50 клавіраў ці партытур: бяры і раздавай, дары, каму хочаш. Цяпер наогул высокае мастацтва, не папса, не прымітыў, — рэч дарагая і стратная. Я збіраю дарагія музычныя выданні і часам чую ад прадаўцоў, што апроч мяне такі тавар мала каго цікавіць і, мабыць, я адзін гэта куплю. А для мяне ж няма лепшага задавальнення і шчасця, чым пасля ўтомнага дня паслухаць вялікіх, паглядзець оперы, балеты вялікіх! На мастацтве не заробіш, не ўзбагацішся. Балазе, мяне цяпер "кормяць" нейкія мае творы, прынамсі, у тэатрах нямала маёй музыкі выконваецца, таму я магу пісаць ужо не толькі для таго, каб выжываць, а дазволіць сабе трошку такой кампазітарскай творчасці, якой яшчэ не займаўся. Цяпер пішу камічную оперу паводле Карла Гоцы "Зялёная птушачка". Адначасна нядаўна закончыў буйны эпічны балет "Вяртанне Адысея" паводле Гамера. Не ведаю, які тэатр за гэта возьмецца, хто дасць грошы на такую пастаноўку. Але маё заўсёднае перакананне — было б твор, а потым знойдзецца выканаўца, час зменіцца, хтонебудзь ды паставіць. Праўда, ёсць у мяне балет "Вій" паводле Гогаля, які ўсе просяць, бяруць, але потым чамусьці рэзка замінае пастаноўцы... Містычная рэч! Многія баяцца ставіць "Майстра і Маргарыту" з-за таго, што там увесь час нешта гэткае творыцца. Але ж і "Вій" Гогаля — містыка. Я пабываў ва ўсіх мясцінах, дзе бываў ён. Мы нават знайшлі ў Дзіканьцы тую царкву зарослую, дзе ўсё паводле аповесці і адбывалася. Прытым знайшлі выпадкова. Мясцовыя пераконвалі, што такой царквы там няма. Паблукаўшы дзень па Дзіканьцы, мы ўжо амаль выходзілі з вёскі, як раптам з-за густа развешаней бялізны "праглянула" нешта дзіўнае: камяні нейкія, галлё... Гэта і аказалася царква, скрозь прарослая дрэвамі, без крыжа, падобная да старой закінутай пуні... Мы былі ў Сарочынцах, дзе бачылі славуты кірмаш, і ў Міргарадзе — там дагэтуль не прасохла апісаная Гогалем лужына і сады ламіліся ад спелых сліваў. І захаваныя гогалеўскія рэчы бачылі: камізэльку сорак трэцяга памеру, як на дзіцёнка пашытую, бо Гогаль жа маленькага росту быў зусім; падзівіліся на партрэтнае падабенства пісьменніка з яго матухнай — даволі дзіўнай насацэнькай дамай. Атрымаўшы неверагодны зарад з гэтых мясцін, я пісаў "Вій" амаль бессвядома: была такая плынь звыш, зверху, што я толькі паспяваў занатоўваць. Рабіў гэты твор з любоўю, таму, напэўна, мяне ніякія "чэрці" не чапалі. А вось з матэрыялам, які потым перасылаў для пастаноўкі па просьбах замежных партнёраў, здаралася невытлумачальнае: нешта сказалася, нешта знікала... "Вій", ужо нейкі час "пераседзеўшы" без пастановак, мною ўспрымаецца цяпер як самадастатковы твор, у якім балет будзе толькі адцягваць увагу ад музыкі. Думаю пра тое, каб наладзіць яго канцэртнае выкананне ў далікатным спалучэнні з фрагментамі гогалеўскага тэксту ў выкананні двух чытальнікаў.*

Генадзь Гладкоў прызнаўся: цяпер ён піша тое, што мог бы пісаць раней. Здавалася б, нішто не замінала яму тады, у савецкі час, развівацца як паспяховаму сімфаністу або аўтару оперных палотнаў. Але, кажа Генадзь Ігаравіч, усё было не так проста:

— Памятаеце? У СССР была свая "разметка" творчага асяроддзя: гэта — песеннікі, гэта — кіношнікі, а гэта — самыя прылашчаныя ўладай сімфаністы і оперныя кампазітары. У кла наблашчаных пускалі не з парога; каб трапіць туды, трэба было ведаць "падыходы". І многія кампазітары пачалі шукаць для сябе іншыя нішы ў творчасці. Дзянісаў, Шнітке, Губайдуліна дый іх вучні вылучыліся ў групу авангарда. Рыбнікаў, Арцем'еў, Крылатаў, Дашкевіч ды я пайшлі ў кіно і ў прыкладныя жанры музыкі. У рэшце нам дазволілі арганізавацца, і пры Саюзе кампазітараў Масквы з'явілася музычна-творчая лабараторыя "Трэці напрамак". А потым у грамадстве адбыліся моцныя пертурбацыі, саюз кампазітараў страціў свой колішні ўплыў, ператварыўся ў непрыкметную структуру. Прафесійных кампазітараў, якія стабільна працуюць, сёння можна на пальцах пералічыць. Уасноўным гэта тыя, што набылі вядомасць у савецкі час. Новыя імёны хутка з'яўляюцца, мільгануць і знікаюць. Зніклі й тыя, хто ствараў здравіцы партыі, я елідарам, не гучаць іх творы. Засталіся толькі добрыя песні пра вайну, каханне, вернасць, сяброўства. А мы, прадстаўнікі "трэцяга напрамку", які мусвой час дасталося і за мюзіклы, адрозныя ад савецкіх аперэтачных стандартаў, і за "няправільныя" оперы (Г. Гладкоў стварыў оперу "Старэйшы сын" паводле А. Вампілава, якая была пастаўлена ў Маскоўскім музычным тэатры імя К. С. Станіслаўскага і У. І. Неміровіча-Данчанкі. — С. Б.), і за дасціпныя і вясёлыя "апалітычныя" песенькі ў музычных фільмах, — мы выжылі. І тое, што стваралі калісьці, аказалася патрэбным і сёння.

Генадзь Ігаравіч гаварыў і пра тое, чаму называе Сяргея Абразцова, Аркадзя Райкіна, Вано Мурадэлі сапраўднымі джэнтльменамі свайго часу; каго лічыць ідэальным лібрэтыстам; калі кампазітару не трэба адмаўляцца ад бясплатнай працы; якім ён уяўляе Чараўніка ў мюзікле "Звычайны цуд"... Але пра гэта, дружа-чытач, "ЛіМ" распавядзе ўжо іншым разам.

***На здымку: народны артыст Расійскай Федэрацыі кампазітар Генадзь Гладкоў падчас нядаўняга візіту ў Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр.***

**Установа адукацыі**
**"Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі"**
**аб'яўляе конкурс на замяшчэнне пасад**
**(да 5 гадоў) прафесарска-выкладчыцкага складу**
**(для тых, хто мае мінскую рэгістрацыю)**
**з далейшым заключэннем кантракту ў выпадку выбрання на тэрмін, вызначаны Наймальнікам:**

| | |
|---|---|
| кафедра спеваў: | |
| старшы выкладчык | |
| дацэнт | 2 ст. |
| выкладчык | |
| кафедра аркестравага дырыжыравання: | |
| дацэнт | 0,5 ст. |
| дацэнт | 0,5 ст. |
| кафедра музычнай педагогікі, гісторыі і тэорыі выканальніцкага майстэрства: | |
| старшы выкладчык | 2 ст. |
| кафедра opернай падрыхтоўкі і харэаграфіі: | |
| старшы выкладчык | 2 ст. |
| кафедра гісторыі музыкі: | |
| дацэнт | |
| кафедра харавога дырыжыравання: | |
| старшы выкладчык | 0,5 ст. |
| старшы выкладчык | 0,5 ст. |
| кафедра фізічнага выхавання: | |
| загадчык кафедры | |
| кафедра медных духавых і ўдарных інструментаў: | |
| загадчык кафедры | |
| кафедра кампазіцыі: | |
| дацэнт | |

# Шэсць маналогаў Івана Вырыпаева

Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ,
фота Ірыны Рабушкі

**Ён напісаў п’есы “Кісларод”, дзе распавядаецца пра тое, як муж забіў жонку рыдлёўкай, і “Ліпень”, дзе гледачам вытанчана, з усімі анатамічнымі падрабязнасцямі расказваюць гісторыю пра людаеда. Яго прозвішча — у шэрагу заснавальнікаў гіперрэальнай новай драмы (хаця ён сам лічыць гэтую плынь прыдумкай крытыкаў). І ў той жа час яго тэатр валодае надзвычайнай стваральнай сілай, бо “кожны, хто выходзіць на сцэну, павінен мець унутры святло і каханне”. Так лічыць Іван Вырыпаеў.**





Іван Вырыпаеў упершыню наведаў Мінск, каб правесці майстар-клас для маладых творцаў у Цэнтры беларускай драматургіі і рэжысуры. Майстар-клас працягнуў серыю сустрэч з вядомымі драматургамі, што ладзіць ЦБДіР. Так, у Мінску даваў парады маладым заснавальнік Тальяцінскай школы драматургіі Вадзім Леванаў, які, на жаль, заўчасна адышоў у іншы свет у снежні мінулага года. ЦБДіР ладзіў чытку і абмеркаванні з удзелам беларускага драматурга Паўла Пражко, чые п’есы ставяць на вушы Маскву, а нашыя гледачы з імі амаль не знаёмыя (дарэчы, чытку справядліва можна лічыць адной з перадумоў таго, што ў Магілёве нарэшце паставяць п’есу Пражко “Гаспадар кавярні”). І вось — славуты Вырыпаеў… Два дні ўдзельнікі семінара спрабавалі разабрацца ў тым, дзе ж знаходзіцца сёння фокус увагі ў прасторы тэатра і якіх высілкаў гэта вымагае ад драматурга і рэжысёра.

***Маналог № 1.***
***Замест маналогу Гамлета, які быццам бы памёр***

*Сёння фокус увагі перамясціўся са сцэны ў глядзельную залу. Я як творца засяроджаны на тым, каб нешта адбылося ў зале пад уплывам дзеяння на сцэне. Што гэта значыць? Знікае такое паняцце, як “персанаж”, і з’яўляецца такое паняцце, як “выканаўца”. Да гэтае пары вы суперажывалі герою Гамлету, але сёння вы можаце суперажываць толькі выканаўцы, толькі таму канкрэтнаму жывому чалавеку, што знаходзіцца перад вамі. Разумныя людзі адразу ж зададуць мне пытанне: пачакайце, а хіба ж не так ігралі Міхаіл Шчэпкін ці Лорэнс Аліўе, хіба яны не распавядалі нам з дапамогай Гамлета пра сябе? Адказ такі: нашую ўвагу яны пераносілі на нюансы персанажа, яны хацелі пераканаць нас у тым, што Гамлет існуе. Але сёння, як бы я ні стараўся зрабіць гэтага Гамлета, глядач не будзе яму суперажываць, верыць у тое, што ён ёсць, а будзе суперажываць толькі мне, падзяляць тыя пачуцці, якія я, Іван Вырыпаеў, перажываю, калі чытаю маналог. Не таму, што я вырашыў прачытаць, а таму, з-за чаго я гэта вырашыў.*

*Прасторы мастацтва больш не існуе. Я не кажу пра тое, што сёння нельга паставіць “Гамлета”, проста яго трэба ставіць інакш. Цяпер мы існуем у прасторы творчасці, у прасторы дыялогу. Але яна не мае нічога агульнага з натуралізмам. Таму што натуралізм у мастацтве — гэта празмернасць мастацтва. Чым натуральней я хачу зрабіць — тым горш. Калі я сёння вельмі падрабязна рэканструюю на сцэне кватэру (у мяне там, напрыклад, нават рыбай пахнуць будзе), то насамрэч ніякай рэальнасці не атрымаецца, а калі я выйду да залы і скажу: “Я хачу распавесці вам адну гісторыю”, — і пачну распавядаць: я плачу і вы плачаце. І ўсё адбываецца.*

Як след засяродзіўшыся на глядзельнай зале, Вырыпаеў ужо даўно вынайшаў, што менавіта адбываецца і якія складнікі для гэтага патрабуюцца. Кантакт? Ёсць кантакт!

***Маналог № 2.***
***Прамова драматурга, які адмаўляецца шукаць новыя формы***

*А што такое сучасны тэатр? Хіба сучаснасць — гэта атрыбуты? Мабільны тэлефон, напрыклад? Сучаснасць — гэта кантакт, спосаб размовы. Я магу выйсці да гледача ў сярэднявечным касцюме са шпагай, але буду сучасным. І наадварот можна стварыць сучасны тэатр драмы: скінуць з парахода ўсіх старых, вывесці на сцэну голых людзей, якія лаюцца матам. Але ж гэта не сучаснасць. Яна заключаецца ў тым, як усталяваны кантакт, які спосаб размовы абраны. Я сучасны таму, што я з вамі ў кантакце.*

*Адсюль і падыход да таго, як трэба пісаць п’есы. Драматургі ўвесь час спрабуюць нечым там здзівіць, але перш за ўсё яны павінны прапанаваць рэжысёру спосаб, якім чынам мусіць быць усталяваны кантакт. Вось пра што яны павінны думаць. Трэба выйсці з прасторы мастацтва, бо сёння залежны ад яе малады творца здолее зрабіць “Андрэя Рублёва-10”, паўтарыць, напрыклад, Таркоўскага. Не трэба шукаць новых формаў, трэба шукаць новы спосаб размовы.*

Адзін з улюбёных спосабаў самаго Івана Вырыпаева — руйнаванне чацвёртай сцяны і стварэнне адзінай прасторы, у якую ўваходзяць і сцэна, і зала. Гэта не прадугледжвае імправізацыйнай прыроды тэксту ў нашым звычайным уяўленні, не значыць, што акцёр спусціцца да гледачоў і пачне размаўляць з імі. Спосаб добра ілюструюць першая п’еса Вырыпаева “Кісларод” і апошняя на дадзены момант п’еса “Ілюзіі”, дзе выканаўца распавядае гісторыю, да якой ён не мае ніякага дачынення (нават фізічна, ён можа быць іншага ўзросту або полу), але якая яго закранула. Такім чынам знікае ўяўнае дзеянне на сцэне. Дзеянне — гэта акт, які адбываецца тут і цяпер.

Дарэчы, параўнанне п’ес паводле іншых крытэрыяў выяўляе новыя кірункі ў развіцці драматурга — у бок пазітыву і чалавечнасці. Але ж пошукі немагчымыя без страт і памылак…

***Маналог № 3.***
***Гісторыя пра тое, як з календара знік “Ліпень”***

*Дзе знаходзіцца фокус маёй увагі, калі я пачынаю, як рэжысёр, працаваць? Я думаю пра тое, з кім мне давядзецца размаўляць, пра тое, хто мой глядач. Калі я пачынаю працаваць з п’есай, уяўляю ў зале трох гледачоў, у якіх бы я хацеў патрапіць: масцітага рэжысёра, напрыклад, Пятра Фаменку; гламурнага крытыка, якому важна пабачыць канцэптуальнасць дзеяння; простую дзяўчыну з адкрытым сэрцам. І, напрыклад, я раблю спектакль паводле сваёй п’есы “Ліпень”. Пра што я думаю? Я хачу, каб мяне зразумела старэйшае пакаленне, я хачу, каб нехта заўважыў канцэпт, і яшчэ я хачу чыстага сэрца і адкрытага ўспрымання. Вынік? Прыйшоў рэжысёр — патрапіла ў рэжысёра. Крытык вельмі хораша напісаў. Усе станоўча выказваюцца на абмеркаванні пасля спектакля, а дзяўчына з адкрытым сэрцам паднімаецца і кажа: “Гэта жах! Гэта так страшна! Навошта вы гэта паставілі?” (такіх глядацкіх водгукаў напраўду было шмат, калі п’еса ішла. — **А. М.**). Я хацеў дасягнуць таго, каб за кошт прыгажосці тэксту мы адпускалі свае боязі, ачышчаліся. І зайшоў на тэрыторыю прасторы, якая сёння не існуе, міфічны рытуал ачышчэння не спрацаваў. Я закрыў гэтую п’есу для пастаноўкі… Мне падаецца, што мы страцілі кантакт з гледачом, а ўсё працягваем пісаць і застаёмся ў прасторы мастацтва. Маўляў, дастаткова, што мы проста ствараем нешта на паперы — яно пяройдзе ў залу само па сабе. А насамрэч — не, не пяройдзе…*

**Візітка**

*Іван Вырыпаеў — расійскі драматург, акцёр, рэжысёр. Нарадзіўся ў Іркуцку. Скончыў Іркуцкае тэатральнае вучылішча. Заснаваў у родным горадзе альтэрнатыўны Тэатр-студыю “Прастора ігры”. Вучыўся ў Вышэйшым тэатральным вучылішчы імя Б. Шчукіна. Аўтар п’ес “Кісларод”, “Ліпень”, “Валянцінаў дзень” ды інш. Сцэнарыст і рэжысёр фільмаў “Кісларод”, “Эйфарыя”.*

Самай удалай драматург лічыць сваю апошнюю п’есу “Ілюзіі”, прыгожую і кранальную гісторыю пра тое, як кахалі і паміралі чатыры чалавекі. Увесь спектакль цябе пераконваюць, што кахання не існуе, а з залы ты выходзіш упэўнены, што яно ёсць… Дарэчы, большасць уласных п’ес Іван увасобіў на сцэне як рэжысёр. Хаця праца з чужым матэрыялам у яго творчым багажы таксама ёсць.

***Маналог № 4.***
***Споведзь чалавека, які паставіў спектакль на казахскай мове***

*Некалькі гадоў таму я зрабіў спектакль паводле Абая. Мне падалося, што гэта асоба — феномен. Прапанова зрабіць спектакль зыходзіла з Казахстана, на досыць высокім узроўні. І мне захацелася зрабіць так, каб не ператварыць дзеянне ў вечарыну, на якой пачытаюць пераклады Абая Кунанбаева. Я звярнуўся да творчасці, біяграфіі і зразумеў, што чытаць яго трэба на той мове, на якой ён пісаў. Акцёры вывучылі тэкст з дапамогай рэпетытараў. Атрымаўся спектакль пра тое, як сустракаюцца дзве культуры. Эфект быў цікавы: пра што вершы, гледачы не разумелі, але слухалі і адкрывалі нейкі свой сэнс, іншае, нешта нябачнае.*

*Для мяне гэта паваротная пастаноўка. Яна вытрымала не шмат паказаў — мала хто хоча глядзець спектакль на казахскай мове,— але змяніла маё жыццё. Падчас працы паўстала шмат пытанняў пра існаванне, унутраны свет, на якія я раней не звяртаў увагі. Пастаноўка прымусіла мяне паглыбіцца ў сябе.*

Гэта апісанне рэжысёрскага вырашэння на першы погляд можа падацца бездапаможным — ды ёсць адно “але”: улюбёным сродкам выразнасці для Вырыпаева з’яўляецца рытм у самых розных сваіх праявах (узгадаць хаця б рэчытатыў “Кіслароду”). Так што да мелодый і рытмаў казахскай мовы Вырыпаеў звярнуўся зусім свядома.

Акрамя рэжысёрскай працы Іван Вырыпаеў “паспытаў хлеб” акцёра, сцэнарыста, кінарэжысёра (за фільм “Эйфарыя” ён, дарэчы, атрымаў “Залатое ільвяня” ад незалежнага маладзёжнага журы на Міжнародным кінафестывалі ў Венецыі), прадзюсара. Адзіная роля, на якую ён ніяк не пагаджаецца, — кіраўнік тэатра.

***Маналог № 5.***
***Кашмар пра размеркаванне роляў***

*Я драматург і нікім апроч драматурга, які вымушаны ставіць спектаклі і здымаць стужкі, сябе не лічу. Можа, некалі я і пагаджуся ўзначальваць тэатр, але для мяне існуюць некаторыя важныя ўмовы. Напрыклад, у тэатры не павінна быць трупы, акцёр працуе па кантракце. Не разумею, калі тэатр ператвараецца ў нейкую фабрыку, дзе я не магу звольніць акцёра, дзе нельга нічога змяніць, дзе спектаклі ідуць вечна. Не разумею, чаму я павінен плаціць акцёру, які нічога не робіць, не падыходзіць мне, займае стаўку, і я не магу прыняць таго, хто мне патрэбны. Мне падаецца, што тэатр павінен быць жывым арганізмам. А яшчэ мяне прыводзіць у жах думка, што акцёр прыходзіць раніцай у тэатр, а на вахце вісіць размеркаванне роляў і яму гавораць, што ён будзе іграць. Тады ён не творца. Я думаю, што акцёр павінен сам згаджацца, калі яму падабаецца роля. Калі я прапаноўваю акцёрам працу, то дасылаю ім п’есу: яны могуць пагадзіцца ці не пагадзіцца на ролю. Павінен быць выбар, а ў рэпертуарным тэатры яго няма. Рэпертуарная сістэма мне не падыходзіць. І калі я атрымоўваю чарговую прапанову кіраваць тэатрам, заўсёды кажу: давайце паспрабуем змяніць сістэму. А мне адказваюць: нічога не можам зрабіць.*

Але ёсць, на думку драматурга, канстанты і сістэмы, якія змен не вымагаюць. Так, пастаяннай характарыстыкай мастацтва абавязкова павінен быць стваральны пачатак.

***Маналог № 6.***
***Дэклараванне вострых тэм і гармоніі***

*Я думаю, што мастацтва павінна быць толькі гарманічным, стваральным. Але гэта не значыць, што яно не павінна ўзнімаць вострыя тэмы. Пра што ж яшчэ казаць, як не пра вострыя тэмы? Толькі рабіць гэта трэба стваральна. Цяпер мы жывём у эпоху дэканструкцыі, але я спадзяюся, што мы ўвойдзем у інтэгральную эпоху, дзе ўсім рэчам нададзена права быць, а з’явам адбыцца. Проста дзеля таго, каб стварыць, спачатку трэба нешта разабраць. У інтэгральнай эпосе мы пазбавімся агрэсіі, у нас з’явяцца дакладныя крытэрыі, паняцце “маральнасць” зноў набудзе свой колішні сэнс (сёння мы знішчаем маральнасць, прылічыўшы яе да перадумоў фальшу). Інтэгральнасць прадугледжвае і цэнзуру, толькі зразумелую чалавеку цэнзуру. Не тады, калі нам кажуць “не” — і ўсё (я пра гэта зрабіў стужку “Кісларод”). Не забі. А чаму? Пакуль мы не зразумеем чаму, мы не зможам гэта забараніць, мы павінны асэнсаваць, чаму нельга забіваць. І вось калі мы асэнсуем, мы перастанем.*

Заслона.

# З чувашскай глебы

**Атнер Хузангай — вядомая асоба ў культуры, літаратуры Чувашыі. Сын класіка нацыянальнай літаратуры паэта Педэра Хузангая. Кандыдат філалагічных навук. Загадчык аддзела мовазнаўства ў Чувашскім інстытуце гуманітарных навук. Пра ролю нацыянальнай літаратуры ў сусветнай прасторы, беларуска-чувашскія літаратурныя стасункі і ідзе гаворка ў размове нашага карэспандэнта з чувашскім сябрам Беларусі.**



Хведар ЛАЗОЎСКІ,
Чэбаксары — Мінск

**— Сёння, з вышыні часу, спадар Атнер, ці можна сцвярджаць, што паміж беларускай і чувашскай літаратурамі ў ранейшыя гады існавалі трывалыя сувязі?**

— Канечне ж, беларуска-чувашскія літаратурныя стасункі маюць сваю гісторыю, хаця яна і не дужа багатая. Ужо ў 30-я гады XX стагоддзя з'явіліся ў нашым друку пераклады з твораў Якуба Коласа і Янкі Купалы. Пэўны стымул да нараджэння інтарэсу да беларускай літаратуры (найперш да паэзіі) узнік, калі ў Вялікую Айчынную класік беларускага прыгожага пісьменства Янка Купала некаторы час жыў у Чэбаксарах. Паэт меў цеснае сяброўства з народнымі пісьменнікамі Чувашыі Мікалаем Шэлебі і Сямёнам Эльгерам. Таварыскія адносіны якраз і спрыялі пашырэнню перакладчыцкай работы. Дарэчы, тэма дружбы Купалы, Шэлебі і Эльгера знайшла адлюстраванне ў вершы С. Шаўлы "Тры волаты" ("Віcё Улап"), ва ўспамінах Эльгера, вершы П. Хузангая і творах іншых чувашскіх пісьменнікаў. Незаўважнай у Чувашыі не засталася і наступная праява літаратурнага пабрацімства… У 1936 годзе наша рэспубліка шырока святкавала 55-годдзе Мікалая Шэлебі. Урачыстасці насілі ўсесаюзны, нават міжнародны характар. Шэлебі атрымаў віншаванні і з Беларусі — ад Янкі Купалы і Якуба Коласа.

**— Ці ёсць сярод чувашскіх літаратараў тыя, хто вызначыўся б асаблівым інтарэсам да беларускай літаратуры?**

— Я ўсё ж спярша згадаю некаторыя факты, прыклады. У 1955 годзе ў нас быў надрукаваны зборнік "Беларускія апавяданні". Сярод аўтараў — Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Янка Брыль, Кузьма Чорны і іншыя. 1957 год пазначаны выданнем кнігі Янкі Купалы "Мара" (па-чувашску — "Ёмет"). Але большасць перакладаў складаюць невялікія паэтычныя падборкі ці асобныя апавяданні ў часопісах і газетах. Часам пашырэнне прасторы гэтых публікацый было звязана з правядзеннем афіцыйных мерапрыемстваў кшталту дзён музыкі і літаратуры Беларусі ў верасні 1973 года.

Перакладалі ў розныя гады і Максіма Танка, і Рыгора Барадуліна. На чувашскай мове была выдадзена аповесць Васіля Быкава "Абеліск" — у 1986 годзе. Перакладчык — Аляксандр Волкаў. Ды сёння востра паўстаці праблемы з выданнем нацыянальнай літаратуры ўвогуле, перакладной у асаблівасці. Высокае мастацтва перакладу ў нас цяпер відавочна не ў пашане.

Але мне здаецца, што сапраўднага спасціжэння беларускага мастацкага слова і яго засваення на чувашскай глебе не адбылося. І гэта пры ўмове, што ў нашых нацыянальных літаратурах існуе нямала падабенства, прысутнічаюць моманты ледзьве не аднолькавага светаўспрымання рэчаіснасці.

Як мне падаецца, у многім падобныя ў абодвух нашых народаў і культурна-моўныя сітуацыі. Тут мы маем шмат кропак судакранання. У свой час, здаецца, у 1988 годзе, пра трывожны стан нацыянальнай мовы ў Беларусі гаварыў Васіль Быкаў. Гэтае яго выступленне і цяпер перачытваю па кнізе "Весть", выдадзенай маскоўскай "Книжной палатой" у 1989 годзе. Пра будучыню чувашскай мовы, паступовую страту ёй вітальнасці з болем пісалі і чувашскія літаратары.

Тады ж, напрыканцы 1980-х, у самы пік перабудовы, нашы маладыя вельмі зацікавіліся маніфестам і акцыямі вашых "Тутэйшых". Яны былі блізкія нашым пасіянарыям сваім пафасам, шчырасцю, сугуччам духу *таго* часу. Але яшчэ раз я павінен сказаць, што, на жаль, прамога кантакту не атрымалася.

Сёння я не магу асабліва выдзеліць чувашскіх літаратараў, якія спецыяльна, мэтанакіравана праяўлялі ці праяўляюць цікавасць да беларускага слова. Ізноў жа, на жаль. Апошнія па часе пераклады — з Алеся Разанава, Якуба Коласа, Янкі Купалы — належаць паэту Генадзю Юмарту. Размова пра публікацыі 1989, 1996 гадоў.

**— У 1988 годзе ў Мінску "Мастацкая літаратура" выдала анталогію чувашскай паэзіі — "Песні волжскага краю", — укладзеную Юрасём Свіркам…**

— А ў 1985 годзе мы выдалі ў Чэбаксарах вялікі том — 480 старонак! — перакладаў з твораў беларускіх аўтараў пад назвай "Радзіма мая з жураўліным клічам" ("Тарнасісе серэм-шывам"). Беларускі адказ Юрася Свіркі — "Песні волжскага краю" — стаў для Чувашыі выдатным падарункам. Кнігу ў нас заўважылі, яна займела шырокі розгалас. Лічу, што патрэбен працяг такой працы.

**— Што вы ведаеце пра сённяшнюю беларускую літаратуру? Як вы лічыце, ці ёсць перспектывы развіцця чувашска-беларускіх літаратурных стасункаў?**

— Не вельмі многа і ведаю… Прычына ў тым, што мы страцілі нейкі вялікі (трэба разумець: усесаюзны) кантэкст у рамках адной краіны. Ды і што казаць, рэальнасцю з'яўляецца цяпер і адсутнасць агульнарасійскага кантэксту. Супрацьстаяць гэтаму можна, на мой погляд, толькі адным шляхам. Патрэбны асабістыя кантакты. Праз дыялог асоб, узаемныя пераклады, прыватную дружбу ("дружба народаў" — гэта ўсё ж нейкая абстракцыя) і будзе ўладкоўвацца мост ад душы да душы.

**— Паэзію, прозу якіх чувашскіх пісьменнікаў вы прапанавалі б да перакладу на беларускую мову?**

— Паэму Кесьтэнціна Іванова (1890 — 1915) "Нарспі", у якой чувашскі свет паўстае ў першароднасці. Гэта своеасаблівы Новы Завет, атрыманы чувашамі больш як стагоддзе таму, у 1908 годзе. Наватарскую, паеўрапейску асабовую паэзію "вогненнага анёла чувашскай паэзіі" Мішшы Сеспеля. З паэтаў я таксама назваў бы імёны П. Хузангая, Васьлея Мітты, ды, можа быць, найболей вядомага ў свеце нашага двухмоўнага паэта Генадзя Айгі. З пакалення 70-80-х: Педэр Эйзін, Аляксей Аціл, Генадзь Юмарт, Любоў Марцьянава, Педэр Яккузен. Проза: Хведэр Уяра, Юрый Скварцоў, постмадэрнісцкія вопыты Барыса Чындыкава. Можна было б доўжыць гэты спіс імёнаў, але ўсё залежыць ізноўку ж ад прыватнага, асабістага інтарэсу патэнцыяльнага перакладчыка, ад яго стылістычна-эстэтычных перакананняў.

**— А можа быць, уся гэтая руцінная праца па прадстаўленні нацыянальных літаратур — атавізм, спадчына тэндэнцыі "дружба народаў — дружба літаратур"… І, па вялікім рахунку, важна, каб толькі свой народ ведаў нацыянальную літаратуру?..**

— За апошнія 15 — 20 гадоў мы замкнуліся ў сваіх нацыянальных кватэрах, сталі наноў асэнсоўваць гісторыю, карані і радавод. Пэўна, такое адзіноцтва было і неабходна. Для выпрацоўкі новых арыенціраў у той духоўнай (ці, наадварот, бездухоўнай?!) прасторы, у якой мы апынуліся. Але гэты перыяд адгароджвання ад Свету павінен прайсці. І мы яшчэ адчуем братэрства: беларускаму воку можа быць карысным чувашскі прыжмур, як і чувашскі зрок можа афарбавацца беларускімі фарбамі.

Наталля ПАХОМЧЫК

# Здалёк пра блізкае

**Праца англійскага прафесара Арнольда Макміліна "Пісьменства ў халодным клімаце: беларуская літаратура ад 70-х гг. XX ст. да нашых дзён", што адносна нядаўна выйшла ў беларускамоўным варыянце (нагадаем, арыгінальнае выданне "Writing in a Cold Climate: Belarusian Literature from the 1970s to the Present Day" пабачыла свет напачатку 2010 года), заўважна ўскалыхнула айчынную літаратуразнаўчую, і не толькі, думку, накрыла яе свежай хваляй, разварушыла; і на паверхні яшчэ бачацца кругі з водгукаў, рэцэнзій, інтэрв'ю, з апошніх — найбольш прыкметная публікацыя І. Шауляковай.**

І хацелася б, безумоўна не даць цікавай кнізе кануць у Лету.

Уласна пра кнігу... Яе канцэпцыю шмат у чым раскрываюць "Прадмова" і "Уводзіны", дзе аўтар загадзя адказвае на мноства пабочных пытанняў, якія могуць "узнікнуць" да яго працы. Як гэта часта здараецца, пабочныя пытанні ўсё адно "ўзніклі". Таму мае сэнс працытаваць тое-сёе… Слова прафесару:

"Гэта кніга ў пэўным сэнсе вянчае сабою распачаты ў 70-х гг. XX ст. праект, які мае на мэце пазнаёміць англамоўных чытачоў з малавядомай і несправядліва абыдзенай увагай літаратурай".

Зразумела, што нягледзячы на зыходную мэтавую ўстаноўку, усё адно самым пільным і крытычным рэцыпіентам гэтай кнігі будзе… яе аб'ект (успомніліся прыгаданыя Макміліным радкі Леаніда Галубовіча: "Так мала чытачоў, / І тыя ўсе — паэты"). "Не пра таго напісалі…" — абурацца ацэненыя "не так". "Вартая кніга…" — задаволена адгукнуцца ацэненыя "вельмі нават". Гэта, безумоўна, грубае абагульненне, але фактар "асабіста зачэпленага пісьменніка" мае месца. Плюс скептыцызм з боку айчыннага літаратуразнаўцы… Сам аўтар пра небяспеку "пісаць не так і не пра тых" разважае наступным чынам:

"Пісаць пра сучасную літаратуру заўсёды складана, проста таму, што сучаснае сёння заўтра робіцца гісторыяй... Цяпер, напісаўшы (на лепшае ці на горшае — не мне меркаваць) пра шмат паэтаў, пісьменнікаў і драматургаў, я разумею: абмінуўшы асобных, якіх лепш не згадваць, я таксама прапусціў некаторых вартых быць уключанымі ў гэту кнігу…" Напрыканцы аўтар згадвае словы Сэмюэля Джонсана, "які ў адказ на крытычную заўвагу наконт аднаго вызначэння ў ягонай наватарскай працы — «Слоўніку англійскай мовы» (1755) проста адказаў: «Невуцтва, спадарыня, чыстае невуцтва»".

Гэта іронія Атланта, які разумее, што аднаму ўзняць такую глыбу — "пісьменства" сучаснае, ды яшчэ і "ў халодным клімаце" — справа надзвычай рызыкоўная, але заходы ён робіць усё адно.

А глыба сапраўды непад'ёмная: часавы абсяг (па словах самога даследчыка, праца над кнігай заняла шэсць гадоў) і колькасць персаналій (толькі каля 170 персаналій увайшло ў змест), што разглядзеў Арнольд Макмілін, па айчынных мерках пры аналагічным тэрміне вымагалі б, думаецца, не аднаго дзясятка навукоўцаў. Так, магчыма, тая "наша" праца была б паўнейшай і больш дакладнай. Але — яе яшчэ пакуль няма.

Таму, канечне, можна бясконца вышукваць недакладнасці, прабелы ці, наадварот, — як на чыю думку — занадта "поўныя" месцы ў кнізе, але такая скіраванасць аналізу, мякка кажучы, занадта аднабаковая. Гэта як слухаць родную мову з вуснаў замежніка і здзекавацца з яго акцэнту. Адчуваецца, што аўтар гэты момант вельмі добра разумее і дэманструе, як лёгка ўдакладняць таму, хто знаходзіцца на "сваёй" тэматычнай прасторы…

З іншага боку, менавіта даследчык "звонку" хутчэй агучыць і ахарактарызуе тыя "тонкія" моманты, што "знутры" можна не заўважыць ці знарок абмінуць увагай (ад бяды падалей): так Арнольд Макмілін колькі разоў у сваёй кнізе можа, да прыкладу, заўважыць, што "адметны дар выбудоўваць сюжэт — рыса, далёка не заўсёды ўласцівая беларускай літаратуры"; не без скрухі адзначыць: "…практыка, калі за імёнамі некаторых папулярных расейскіх пісьменнікаў насамрэч стаяць беларускія аўтары, якія пішуць пад псеўданімамі, завецца ў Беларусі квазіангельскім найменнем «брэнд літаратурнай фабрыкі»"; і проста і мудра расставіць акцэнты ў даволі падрабязных аглядах творчасці шэрагу т. зв. "правакацыйных" пісьменнікаў: "…сама па сабе скандальнасць не ўяўляе сабой добрага падмурку для плённага развіцця" і г. д.

Шмат каго "здзівіла" "нечаканая" кампазіцыя кнігі: тут няма зместу з простым спісам персаналій паводле даты нараджэння. Арнольд



Макмілін спрабуе групаваць не выключна паводле прыналежнасці да суполак ("Тутэйшыя", "Бум-Бам-Літ"…) альбо генерацый (кшталту "старэйшае пакаленне" ці "паэткі будучыні"): аўтар часам карыстаецца зусім іншымі крытэрыямі. Да прыкладу — жанрава-тэматычнымі: "аўтары гістарычнай прозы", "прыгоды й фантастыка"; геаграфічнымі: "літаратура паза сталіцай"; паводле настраёвай афарбоўкі: "чатыры змрочныя паэты", "шэсць паэтаў святлейшага настрою"; ёсць нават такая катэгорыя — "паэты, найлепш вядомыя іншай дзейнасцю".

Яшчэ адна "нетутэйшая" асаблівасць адлюстравана ў самой назве кнігі ("клімат"): аўтар разглядае пазіцыю амаль кожнага пісьменніка з пункту гледжання (і тут мы, "эксплуатуючы" тэрміналогію П. Бурдзьё, скарыстаемся эўфемізмамі) аўтаномных і гетэраномных прынцыпаў, што дзейнічаюць у зададзены момант у літаратуры. Гэты досвед асабліва карысны: беларускі чытач даведваецца процьму цікавостак-падрабязнасцей пра сучасны літаратурны працэс.

І самае галоўнае — кніга "Пісьменства ў халодным клімаце" працуе на перспектыву: сучасная беларуская літаратура разглядаецца Арнольдам Макміліным не як застылая ў сваёй непарушнасці і неспрэчнасці, а як жывая, дынамічная, непадлеглая аніякім "прагнозам" і канчатковым ацэнкам (адзначым, што даследчык пасля разгляду кожнай персаналіі выказвае спадзеў на новыя адкрыцці і далейшы плённы рост творцы): такі падыход здольны надаць не толькі энтузіязму "нейтральным" чытачам, але і імпэту "зачэпленым" пісьменнікам.

У цэлым пасля прачытання гэтай кнігі складваецца прыблізна такое ўражанне: аказваецца, дзесьці далёка, за трыдзевяць зямель, беларуская літаратура ўжо даўно мае сваіх адваката, які заўсёды падтрымае, паспагадае, заступіцца… "Шмат хто за межамі Беларусі пытаецца ў аўтара: «Ці вартая чаго-небудзь беларуская літаратура?» Я заўсёды адказваю перакананым «так»…"

# Зямля пад белымі крыламі

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

## Словакраязнаўцы



**Любоў Альшэўская, краязнаўца з горада Масты, распавядае пра заняткі з вучнямі ў галіне літаратурнага краязнаўства:**

— У свой час я працавала настаўніцай беларускай і рускай моў і літаратур, таму менавіта літаратурнае краязнаўства мне бліжэй. У гэтым кірунку і займаюся з дзецьмі вось ужо два гады. Наша праца скіравана на тое, каб вучні ведалі пра месца, дзе нарадзіліся і жывуць, самабытнасць і адметнасць культуры свайго раёна. Імкнуся выхаваць у іх павагу да гістарычнай спадчыны, дапамагчы ўсвядоміць значэнне нацыянальнай культуры.

Сваю працу мы пачынаем перш за ўсё з вывучэння вытокаў літаратуры — фальклорнай спадчыны. Для гэтага знаёмімся з сямейна-бытавымі і каляндарнымі абрадамі нашай мясцовасці, выкарыстоўваючы ўжо сабраны і апрацаваны матэрыял. Ён збіраўся ў многіх школах раёна і настаўнікамі, і вучнямі, асабліва багатыя зборы ў Азёркаўскай, Курылаўскай, Гудзевіцкай школах. Акрамя таго, скіроўваю дзяцей саміх сустрэцца з носьбітамі культуры, якія таксама шмат ведаюць, часцей гэта людзі сталага ўзросту. Раю збіраць паданні, легенды, прыказкі і прымаўкі, знаёміцца з мясцовымі гаворкамі, каб параўнаць іх з сучаснай літаратурнай мовай і выявіць асаблівасці.

У межах заняткаў мы звяртаем увагу на ўплыў мясцовых краявідаў на творчасць літаратара. Я сама люблю паэзію, чытаю творы землякоў. З вучнямі пазнаёміліся з творчасцю казачніка Івана Мазалеўскага, паэтэсы Зінаіды Біліды, паэта Аляксея Кавалевіча. Вельмі цікавай і запамінальнай была сустрэча і знаёмства з творчасцю Галіны Васілеўскай.

Хацелася б і надалей паглыбляцца ў духоўны свет нашых творцаў-землякоў, бліжэй знаёміцца з іх вобразамі, лірычнымі героямі. У планах — арганізаваць творчыя сустрэчы з пісьменнікамі не толькі для дзяцей і настаўнікаў, але і для бацькоў, каб і іх зацікавіць сучаснай беларускай літаратурай. Я ўвогуле лічу, што з літаратурай трэба сябраваць. Кніга павінна быць у руках!

## Унікальнае Евангелле

Гродзенскі музей гісторыі рэлігіі заканчвае фарміраванне галоўнай экспазіцыі "Рэлігія і культура Беларусі". Нядаўна ў ім адкрыліся чатыры новыя залы, прытым кожная прысвечана пэўнаму часаваму адрэзку. Экспазіцыя шырэй раскрывае тэму культурных традыцый, якія складваліся на беларускіх землях на працягу XIV — XVIII стст. і існавалі ў праваслаўнай, каталіцкай, уніяцкай, пратэстанцкай цэрквах. Тут прадстаўлены кнігі, іконы, скульптуры святых і рэлігійная атрыбутыка. Наведвальнікі змогуць убачыць вельмі рэдкія сярэднявечныя выданні: рымскі служэбнік, надрукаваны ў Венецыі ў 1586 г., рукапісныя беларускія выданні XVII ст., Евангелле 1644 г., унікальнае тым, што афармлялася мастаком з атачэння першадрукара Пятра Мсціслаўца. У новых залах — і макеты цэркваў, касцёлаў, якія адпавядаюць гэтай эпосе. Усяго тут прадстаўлена больш як 150 экспанатаў.

**Бажэна СТРОК**

## Музейны ўнікат

# Паводле апошняй моды

**На рэспубліканскай выстаўцы "Вайна 1812 года ў гісторыі Мінска", якая праходзіць у Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь, можна ўбачыць прадметы вайсковага абмундзіравання і рыштунку, ваеннага побыту, халодную і агнястрэльную зброю, дакументы, рэдкія выданні кніг, карты, гістарычныя рэканструкцыі і шмат іншага.**

**Сцяпан ЛЮТЫХ,**
**фота Кастуся Дробава**

Адзін з самых цікавых і каштоўных прадметаў, якія экспанаваліся на выстаўцы, — форменны афіцэрскі сурдут канца XVIII ст. Па спалучэнні колераў (зялёнага і чырвонага) яго можна з упэўненасцю аднесці да расійскай імператарскай арміі, бо ў іншых еўрапейскіх арміях на працягу XVIII ст. такога спалучэння мундзірных колераў не сустракаецца. Прадстаўлены сурдут — двухбортны, мае два рады гузікаў, чырвоныя абшлагі, адкладны каўнер і касыя клапаны па бартах. Сурдуты такога кшталту былі ўведзены мундзірным рэгламентам для афіцэраў і генералаў армейскіх грэнадзёрскіх і мушкецёрскіх палкоў у 1764 г.

У расійскім войску сурдут як вопратка для нашэння па-за строем быў уведзены для афіцэраў і генералаў у 1756 г. і праіснаваў да канца XIX ст. Як паўсядзённая вопратка ён быў пазбаўлены ўсялякай аздобы. Сурдут насілі ў халоднае і дажджлівае надвор'е паверх мундзіра ці замест яго. А яшчэ ён замяняў афіцэрам шынель, якога тады яшчэ не было.

Адметная асаблівасць гэтага экспаната — светла-зялёны колер сукна. Сукно такога адцення для пашыву кафтанаў і сурдутаў пачынаюць выкарыстоўваць толькі пасля ваенных рэформ Г. Пацёмкіна ў 1780-х гадах. З прыходам да ўлады Паўла І у 1796 г. паводле традыцыі была праведзена чарговая мундзірная рэформа. Паводле новага палажэння, сурдуты шылі выключна з цёмна-зялёнага, амаль што чорнага, адцення сукна. Акрамя таго, змяніўся і пакрой мундзіраў. Такім чынам, прадстаўлены сурдут можна аднесці да перыяду 1786 — 1796 гг.



Звяртае на сябе ўвагу той факт, што гэты сурдут па колеры і якасці сукна цалкам супадае з кафтанамі, якія захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве і ваенна-гістарычным музеі артылерыі, інжынерных войск і войск сувязі ў Санкт-Пецярбургу. Цікавы факт: кафтаны і сурдут аднолькавага памеру, гэта наводзіць на думку, што яны былі пашытыя для аднаго чалавека.

Вызначыць персанальную прыналежнасць сурдута дапамог вопіс рэчаў з гардэроба імператара Аляксандра І, які быў зроблены ў пачатку ХХ ст. у Дзяржаўным Эрмітажы. У ім сказана: "Пять офицерских мундиров [зелёных с красн. обшл. и красн. под.] Екатеринославского Гренадёрского полка, принадлежавшие Императору Александру Павловичу, бывшему шефом сего полка с 5 Мая 1795 по 17 Ноября 1796 г. и [красный с белою подкладкою] камзол сего же полка 1796 года. Один из сих мундиров с короткими полами был надеваем в лагерное и походное время — в шкафу № 9. Два сюртука [зелёные с красными обшл.] этого же полка; один из них без подкладки [в царствование Императрицы Екатерины II ] — в шкафу № 9".

Адзначым, што сурдут паступіў у Нацыянальны гістарычны музей з Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея імя А. В. Суворава ў 1960 г., а туды трапіў з ваенна-гістарычнага музея артылерыі, інжынерных войск і войск сувязі ў Санкт-Пецярбургу. З вялікай верагоднасцю можна лічыць, што сурдут належаў вялікаму князю Аляксандру Паўлавічу, у будучым імператару Аляксандру І.

Не меншую цікавасць выклікае і мундзір музыканта 48-га лінейнага палка Вялікай арміі Напалеона з фондаў Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея імя Е. Р. Раманава. Гэты полк браў удзел амаль ва ўсіх кампаніях Першай імперыі. Напярэдадні кампаніі 1812 г. полк уваходзіў у склад 1-га корпуса маршала Л. Даву. Ён браў удзел у бітве за Смаленск, пры Барадзіно, дзе панёс вялізныя страты, пад Мажайскам. У баях пры Красным 15 — 18 лістапада полк быў амаль цалкам знішчаны і прыпыніў сваё існаванне як самастойная вайсковая адзінка.



У адпаведнасці з імператарскім дэкрэтам ад 18 лютага 1808 г. у палку лінейнай пяхоты павінна было быць 48 музыкантаў. Уніформа іх заўсёды была разнастайнай і маляўнічай. Яркія дэталі дазвалялі камандзірам знайсці музыкантаў на полі бою і праз іх своечасова аддаць загад. У Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі захоўваецца мундзір французскага музыканта, пашыты з тоўстага цёмна-сіняга сукна. Модны крой эпохі прадугледжваў наяўнасць двух доўгіх фалд, левая з якіх трошкі перакрывала правую. Каўнер, лацканы, абшлагі, крыльцы, падкладка і адвароты фалд — з чырвонага сукна. На адваротах нашыты пяціканцовыя цёмна-сінія зоркі, што вызначае прыналежнасць да фузілёрнай роты.

Форма пагон, гэтак званая "гусіная лапка", захавалася яшчэ з перыяду Старога парадку. Край каўнера, лацканы, абшлагі, крыльцы і клапаны ложных кішэняў на фалдах багата аздоблены каляровым галуном. З шырокага галуна ў выглядзе перавернутай літары V выкладзены і шэўроны на рукавах (хаця з 1810 г. гэта было ўжо і не модна). Мундзір упрыгожваюць латунныя гузікі з рэльефнай выявай нумара палка. Рукавы і спінка падбітыя льняным палатном. Высокі каўнер і лацканы зашпільваюцца пры дапамозе металічных кручкоў і петляў.

Цяпер самая вялікая калекцыя (больш як дзесяць) мундзіраў музыкантаў 48-га палка знаходзіцца ў зборах Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Маскве. У інвентарнай кнізе запісана, што мундзіры былі захоплены ў абозе Вялікай арміі пры адступленні з Расіі. Але хутчэй за ўсё іх маглі ўзяць на адным са складоў падчас замежнага паходу рускай арміі ў 1813 — 1814 гг. Паводле іншай версіі, вялікая колькасць французскай уніформы была даслана ў Расію па просьбе імператара Мікалая І.

Акрамя Масквы мундзіры барабаншчыкаў фузілёрных рот захоўваюцца ў ваенным музеі горада Інгальштат (Баварыя), у Барадзінскім музеі-запаведніку і ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі ў Маладзечне. Цікава, што пры гэтым у музеях Францыі не захавалася ніводнага такога мундзіра армейскай пяхоты.

***На здымках: сурдут расійскага салдата; мундзір французскага вайсковага музыканта.***

## Водгалас

**Таццяна КАНАПАЦКАЯ**

# Памяці мастакоў

**Сям'ю сталяра паравознага дэпо Сцяпана Ішчанкі ў даваенным Лунінцы ведалі многія. У яго гонар нават завулак, дзе ён жыў, быў названы Сталярным.**

Бацька выхаваў двух сыноў, цудоўных мастакоў. Старэйшы, Георгій, у 1920-м уступіў у камсамол і разам з Чырвонай Арміяй пакінуў Лунінец перад акупацыяй горада польскімі войскамі. Малодшы, Міхаіл, закончыў Віленскае вучылішча "мастацтваў пенкных". Не знайшоўшы прызнання ў Польшчы, перайшоў мяжу з СССР, але не дажыў і да 30, трапіўшы пад бязлітаснае кола рэпрэсій. Яго брату пашчасціла вярнуцца ў родны горад. Працаваў мастаком-афарміцелем на чыгуначным вузле, потым — настаўнікам малявання і чарчэння.

Чыгуначнікі шануюць гістарычнае мінулае. Лунінецкая дыстанцыя пуці заснавала Дыплом памяці мастакоў — братоў Ішчанкаў. Сёлета ўзнагароду атрымала мастак-афарміцель раённага цэнтра дзіцячай творчасці Валянціна Луд. Яна была ўдзельніцай вернісажу на міжнародным фестывалі "Славянскі базар у Віцебску-2011", дзе прадставіла работы ў тэхніцы батык. Радасна, што і сярод юных лунінчан нямала здольных мастакоў, якія праслаўляюць свой край. Гэта выхаванцы мастацкага аддзялення Лунінецкай дзіцячай школы мастацтваў. Таццяна Каховіч перамагла ў абласной алімпіядзе па выяўленчым мастацтве і фестывалі праваслаўнай культуры "Кладезь". Пасля поспеху на рэспубліканскім конкурсе "Красавік" яе работа была прадстаўлена на выстаўцы лепшых твораў у Музеі гісторыі горада Мінска.

Такога ж гонару ўдастоены яшчэ два прадстаўнікі Лунінца: Іна Чарнавокая і Вікторыя Кошаль (удзельнічала ў міжнародным конкурсе "На сваёй зямлі"). А вось Дар'я Рудамінская перамагла ў гарадскім конкурсе ў стылі бодзі-арт. Дзяўчаты адзначаны Дыпломамі памяці мастакоў, каштоўнымі падарункамі ад райкама Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі.

Спадчына

**Галіна НЯЧАЕВА,**
**дырэктар Веткаўскага музея народнай творчасці імя Ф. Р. Шклярава**

# Шэдэўры ад старых майстроў

**У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь праходзіць выстаўка “Шэдэўры кніжнага мастацтва XVI — пачатку XX стагоддзя”, на якой прадстаўлены кніжныя помнікі з фондаў дзяржаўнай гісторыка-культурнай установы “Гомельскі палацава-паркавы ансамбль” і Веткаўскага музея народнай творчасці імя Ф. Р. Шклярава. У канцэпцыю гэтай экспазіцыі закладзена некалькі “невыпадковых” вобразаў.**

Кожны экспанат выстаўкі — безумоўная гісторыка-культурная каштоўнасць. Адкрытыя развароты вельмі рэдкіх рукапісаў і выданняў разлічаныя на дыялог паміж культурамі — сучаснай і нашых продкаў. Згадзіцеся, не заўсёды мы маем магчымасць пазнаёміцца з сапраўднымі “героямі”, якія прыйшлі да нас з сівой даўніны. Часцей за ўсё бачым старажытныя кнігі ў якасці ілюстрацый на старонках навуковых і падарункавых выданняў. Хаця гэта сведчанне таго, што развіццё кнігі не спыняецца. Але ў якасці архетыпаў мы выбіраем шэдэўры ад старых майстроў. Некаторым з далікатных папяровых “помнікаў”... амаль паўтысячы гадоў! З-за драматычных гістарычных падзей нават нямногія каменныя збудаванні дажылі да такога ўзросту.

Невыпадковы і зварот Нацыянальнага мастацкага музея да кніжных фондаў дзвюх калег-устаноў паўднёвага ўсходу Беларусі. Зборы старадрукаваных і рукапісных кніг Веткаўскага і Гомельскага музеяў налічваюць цяпер каля 800 помнікаў XVI — пачатку XX стагоддзя. Шматлікія кніжныя рарытэты Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі таксама паходзяць з гэтага рэгіёна, а некаторыя старажытныя кнігі ўпрыгожваюць і фонды маскоўскіх археаграфічных калекцый.

Захаванасць і колькасць выяўленых у мінулым стагоддзі і зусім нядаўна шэдэўраў кніжнага мастацтва здзіўляе. Гэтым культурным багаццем мы абавязаныя першым “археографам” — старaверам. Сюды, на беларускія землі, на працягу двух з паловай стагоддзяў з усіх канцоў Расіі неслі змагары старой веры свой духоўны пажытак і беraглі яго больш за ўсё. Навуковыя даследаванні сведчаць, што ў Ветку невыпадкова траплялі і помнікі беларускага пісьменства. Прыгажосць кнігі, мастацтва яе стварэння мелі для мясцовага “менталітэту” не меншае значэнне. Тут жылі і працавалі збіральнікі, чытачы, пісцы, мастакі, пераплётчыкі-рэстаўратары. Яны забяспечылі бесперапыннасць старажытных традыцый кніжнай культуры і перадалі гэтую каштоўную спадчыну нам.

Найстаражытнейшы манускрыпт, прадстаўлены на выстаўцы, — датаванае першай паловай XVI стагоддзя Евангелле-тэтр, з калекцыі Веткаўскага музея. Сямнаццаць пакаленняў перадавалі гэты шэдэўр кніжнага мастацтва з рук у рукі. Упрыгожаны ў “балканскім” стылі рукапісны фаліянт выкананы ў выдатным манастырскім скрыпторыі. Над яго стварэннем працавалі розныя майстры. Уражвае сваім рытмам лад літар, якія стулены падобна вайсковаму строю: словы яшчэ не аддзелены адно ад другога, кожны радок — шэраг у руху тэксту цэлай старонкі. Каляровыя застаўкі і пышныя ініцыялы выкананы ў некалькіх колерах. Іх арнамент — старажытная “пляцёнка”. Успрынятая калісці хрысціянствам, яна



прыходзіць ва ўсходнеславянскі свет праз паўднёваславянскае пасрэдніцтва, дзе ўбірае ў сябе і энергію кельцкіх плеценых узораў.

Сімволіка сетак, кошыкаў, кругоў, крыжоў, засеяных палёў і архаічнай рытуальнай геаметрыі блізкая і беларускай традыцыйнай культуры. У кнізе гаворка ідзе пра духоўны пасеў, пра мудрасць і загадкавасць сусветнай гармоніі, пра таямніцу прарастання духоўнай праўды. Так, апошні з майстроў-мастакоў гэтай кнігі — пазалотнік. Менавіта ён наносіў на каляровую раскошу фарбаў чароўнае мігаценне ліставога золата. Гэты цудоўны помнік папярэдне павязваецца з тэрыторыяй памежжа Беларусі — Украіны, гэта значыць створаны на землях Вялікага Княства Літоўскага.



Выдатна глядзіцца таксама мініяцюрны рукапіс “Святы” XVII ст. Сярод найбольш рэдкіх старадрукаў XVI — пачатку XVII стагоддзя — кнігі першых усходнеславянскіх майстроў: Івана Фёдарава, Пятра Мсціслаўца, Васіля Гарабурды, Анісіма Радзішэўскага, выданні Віленскай друкарні, львоўскага майстра Міхася Слёзкі. Самая ранняя друкаваная кніга, якую мы выставілі ў Нацыянальным мастацкім музеі, датуецца 1569 годам. Гэта “Вучыцельнае Евангелле”, надрукаванае ў Заблудаве Іванам Фёдаравым і Пятром Мсціслаўцам. Герб гетмана Рыгора Хадкевіча ўпрыгожвае тытул старадаўняга фаліянта, які рэстаўраваўся ўжо не меней пяці разоў. Праўда, тады гэтых майстроў звалі проста пераплётчыкамі.

Рэдкая “пара” выданняў — Евангелле-тэтр, надрукаванае беларускім майстрам Пятром Мсціслаўцам у 1575 годзе ў Вільні, і яго “копія”, выдадзеная там жа, у друкарні купцоў Мамонічаў, у 1600 годзе!

Маскоўскі, кіеўскі, львоўскі друкарскія двары XVII стагоддзя. Іх выданні ўпрыгожаны магутнымі гравюрамі па дрэве. Глыбінёй пранікнення ў паверхню дрэва гэтая тэхніка падобная да ўзворвання глебы — і прарастае пышнымі квітнеючымі застаўкамі.

XVIII стагоддзе прадстаўляюць кнігі беларускіх друкарань: Супрасля, Гародні, Вільні, Магілёва. Святыя жывуць на старонках ва ўсхваляваным свеце, поўным хмарных і прамянёвых “знаменняў”. Такія работы гравёра Васіля Вашчанкі ў магілёўскім выданні 1730 года. Але змяняецца час, энергія барока перадае эстафету вытанчанаму ракако з яго ўвагай да вытанчанасці. Настае час пільных гравюр на медзі.

Наогул, трэба сказаць, што з XVI па XVIII стагоддзі большасць усходнеславянскіх друкарань дзейнічала на тэрыторыі Беларусі. Гэта лепшае сведчанне пра багацце нашай кніжнай культуры.

Мастацтву стварэння кнігі, тэхналогіі і багаццю “апранання” і ўпрыгожвання кожнага выдання прысвечана асобная экспазіцыя. Адразу відаць: кніга сапраўды ўспрымалася як асоба, бо ў скуру і метал, парчу і аксаміт, у цёмнае і каляровае апраналіся ў тыя часы ваяры, вяльможы ды манахі.

Менавіта на землях ВКЛ, паблізу яго меж з Маскоўскай дзяржавай, у канцы XVII ст. ўтвараецца і культура стараабрадчай Веткі, да 1764 г. найбуйнейшага цэнтра пасадскага стараабрадніцтва. Менавіта гэта дазваляла не толькі збіраць найкаштоўнейшыя старажытныя фаліянты, але і працягваць традыцыі стварэння рукапісных кніг. Выпрацоўваўся ўласны стыль мастацкага дэкору, поўны трапяткога жыцця. Сакрэты майстэрства пісца, мастака рукапіснай кнігі прадстаўлены на выстаўцы рэдкімі арыгіналамі.

Тут можна пабачыць сапраўдныя фарбы былога часу (іх адшукалі на гарышчы дома, дзе калісьці жыў майстар-мастак), унікальныя лісткі з выяўленнямі асобных арнаментаваных ініцыялаў, пышных заставак, канцовак. Ёсць і невядомыя нам сёння прылады і матэрыялы.

Разнастайнасць расліннага арнаменту, багаты каларыт, “гоман” шматлікіх птушак, выяўленых на галінах “буквіц-дрэваў”, ператвараюць кнігу ва ўвасоблены райскі сад. Шыкоўна ўпрыгожаны пеўчыя рукапісы, якія захавалі “крукавую натацыю”. Гэта старажытны спосаб запісу нот — не на пяці лінейках, а непасрэдна ў адзін радок, над словамі. Такія нотныя знакі нагадваюць крукі (адсюль і назва) альбо прарослыя зярняты. Наогул, гледзячы на старыя манускрыпты, разумееш сэнс загадкі пра “белае поле, чорнае семя…”.

Адзін з лепшых “веткаўскіх” манускрыптаў — “Святы пеўчыя” першай чвэрці XIX стагоддзя. Цудоўныя птушкі-панны — Сірыны і Алканосты — разгулваюць па яго старонках. Па раскошна квітнеючых ініцыялах скачуць вавёркі. На галінах буквіц спеюць гронкі ягад, якія дзяўбуць птушкі. Яны пачуваюць сябе лёгка і натуральна — спяваюць, чысцяць пёркі. Бо гэтакі ж — натуральны і фантастычны — стыль “квітнеючай Веткі”.

Гледзячы на ўсё гэта багацце, усведамляеш, наколькі вялікая творчая энергія культуры, якая нас сілкуе. І накіраваная яна ў будучыню!

***На здымках: рукапіс “Святы пеўчыя”, першая чвэрць XIX ст.; “Евангелле-тэтр”. Вільня, 1575 г. Друкар Пётр Мсціславец.***

Цікава ведаць

## Фота на ўспамін. Каля паштовай брычкі

**Раіса МАРЧУК**

**Неўзабаве ў горадзе Старыя Дарогі адкрыецца Музей гісторыі дарог і паштовай службы. Ужо завершаны будаўнічыя работы, засталося па-мастацку аформіць экспазіцыю, якая размесціцца ў трох залах.**

Першая з іх будзе ўяўляць сабой пачтмайстарскую, дзе, паводле задумкі аўтараў музейнай канцэпцыі, на ўваходзе наведвальнікаў сустрэне пачтмайстар. Частку экспанатаў для гэтай залы перадаў раённы вузел паштовай сувязі. Сярод іх — маркі, паштоўкі, сургучніца. Некаторыя стэнды і вітрыны прысвечаны гісторыі мястэчка Старыя Дарогі, якая цесна звязана з развіццём транспартнай інфраструктуры, у першую чаргу — з будаўніцтвам Маскоўска-Варшаўскага тракту, Кацярынінскага шляху і Лібава-Роменскай чыгункі.

“Другая зала — гэта двор паштовай станцыі, кузніца, — распавяла дырэктар Старадарожскага раённага гісторыка-этнаграфічнага музея Ларыса Завацкая. — Там ужо ўсталяваны горан, кузнечныя мяхі, з’явяцца яшчэ накавальня, калекцыя падкоў і іншых каваных вырабаў, адрэстаўраваная паштовая брычка, ля якой шмат хто абавязкова захоча сфатаграфавацца. Напрыканцы экскурсіі можна будзе завітаць у карчму. Як вядома, раней паштовыя станцыі не толькі займаліся перасылкай карэспандэнцыі, але і з’яўляліся прыпыначным пунктам для вандроўнікаў. Тут можна было падкаваць каня, добра падсілкавацца і пераначаваць. Мы пастараемся паказаць, як працавалі на працягу XVIII — XIX стагоддзяў пошта і пастаялы двор. Усе элементы інтэр’ера максімальна набліжаны да тых часоў”.

Прынамсі, грунтавыя дарогі ў Беларусі пачалі актыўна будаваць у XVII стагоддзі, а да гэтага ў асноўным карысталіся воднымі шляхамі. Спачатку з’явіліся невялічкія ўчасткі, якія злучалі магнацкія сядзібы з бліжэйшымі гасцінцамі. Падчас Паўночнай вайны (1700 — 1721 гг.) па даручэнні Пятра І на беларускіх землях пачалі пракладваць дарогі і ўзводзіць паштовыя станцыі. Першы паштовы шлях, а ён тады быў ваенным, працягнуўся ад Барысава ў Быхаў праз Копысь і Магілёў. Гэты тракт пабудавалі ў снежні 1707 года. Пасля пошта стала рэгулярнай і цывільнай, а на змену салдатам, якія яе абслугоўвалі, прыйшлі фурманы. З часам паляпшаліся дарогі і змяняліся паштовыя станцыі, набываючы сучасны выгляд.

“На ажыццяўленне праекта мы атрымалі летась грант Мінаблвыканкама “У падтрымку найбольш значных праектаў у вобласці культуры і мастацтва”, на яго ажыццяўленне з абласнога бюджэту выдаткавана 85 мільёнаў рублёў, — паведаміла Ларыса Завацкая. — Думаецца, музей гісторыі дарог і паштовай сувязі зацікавіць усіх, хто нераўнадушны да гісторыі Беларусі, былых мястэчак. Плануем у будучым стварыць новыя экспазіцыі, дзе размова пойдзе пра развіццё сельскай гаспадаркі, прамысловасці Старых Дарог, перыяд Вялікай Айчыннай вайны”.

Хаця тутэйшы музей адзначыў невялічкую круглую дату, але ў ім няма пастаянна дзеючай экспазіцыі. Супрацоўнікі займаюцца даследчыцкай працай у архівах, у музеях сталіцы і Мінскай вобласці. Таму ў іх назапашана шмат цікавых і ўнікальных матэрыялаў.

Між іншым

## З любоўю да другой радзімы

**Міра ІЎКОВІЧ**

**Выстаўка фотаздымкаў “Зямля пад белымі крыламі” адкрылася ў Музеі гісторыі горада Гомеля. У экспазіцыі прадстаўлена каля 50 работ Сяргея Іванова, а таксама калекцыя фотаапаратаў, фотапрылад і часопісаў, якія майстра падараваў гарадскому музею для яго будучага філіяла — Музея фатаграфіі.**

Фотамастак нарадзіўся ў Расіі, вучыўся ў Куйбышаўскай спецшколе для глухіх дзяцей, а потым у Гомельскім машынабудаўнічым тэхнікуме. Цяпер працуе інжынерам-канструктарам на “Гомсельмашы”. Сяргей Міхайлавіч пачаў здымаць яшчэ ў 15-гадовым узросце. Бацькі падарылі падлетку на дзень нараджэння папулярны ў той час фотаапарат “Смена-7”. Сур’ёзнае захапленне прыйшло пазней, калі набыў фотакамеру “Зеніт-DTL” і пазнаёміўся з работамі прафесійных мастроў. Сёння ён аддае перавагу фотарэпартажам, з вялікім задавальненнем здымае прыроду.

Сяргей Міхайлавіч ужо вядомы ў Гомелі фотамастак. І адзіны з глухіх у Беларусі член творчага саюза фотамастакоў Расіі. Ён штогод бярэ ўдзел у вялікім міжнародным форуме “Интерфото”, які праходзіць у Маскве. Персанальныя выстаўкі майстра неаднаразова ладзіліся ў Гомелі, а таксама ў Мінску, Мазыры, Рэчыцы, Рагачове і ва Украіне — у Кіеве і Чарнігаве.

# Ручнік — дарога чысціні

**У Корнадзьскім дзіцячым садзе-сярэдняй школе Свіслацкага раёна ёсць унікальны музей, які налічвае каля 200 ручнікоў. Але ручнікі тут не толькі збіраюць. Іх даследуюць і… ствараюць.**

**Галіна РАМАНЧУК, фота аўтара**



## Праца корміць і вучыць

Сцены невялікага музейнага пакоя спрэс упрыгожаныя вышыванымі ручнікамі. На тканай аснове, грубыя і мяккія, з адбеленага кужалю пачатку ХХ стагоддзя. Вытканыя за зіму палотны па першых летніх росах бялілі на мокрым лузе. Разасланыя па маладой траве, пад пяшчотнымі промнямі ранішняга сонца, палотны нагадвалі дарогу, што кліча і вядзе ў неспазнаны свет. Калі такі ручнік вешалі сушыць на сонцы, ён быў падобны да белакрылага птаха. Ветрык ціха варушыў яго канцы, і здавалася, што ручнік вось-вось узляціць у неба…

А гэта ручнікі сярэдзіны мінулага стагоддзя. Ужо на купленай, як казалі, крамнай аснове. Сакавітыя, яркія фарбы — вачэй не адвесці! Вось ручнікі ваўкавыска-пружанскага строю, аздобленыя на канцах адной ці некалькімі палосамі-бардзюрамі. Ручнікі Панямоння сабраныя ў адно зіхоткае кола пяць гадоў таму, калі школа працавала над абласным інавацыйным праектам "Этнашкола Панямоння".

— Невялікая вёсачка Корнадзь, якая хавалася ў тутэйшых балотах, не мела значных гістарычных каранёў, — тлумачыць дырэктар школы Наталля Рабцава. — У сучаснага аграгарадка таксама небагатая гісторыя. Калі паўсюдна ў школах пачалі арганізоўвацца краязнаўчыя музеі, мы вырашылі стварыць музей ручнікоў, у якім сёння ўжо чатыры экспазіцыі. Традыцыйная народная культура ўсё смялей уключаецца ў навучальны і выхаваўчы працэсы. Гэта наша спадчына, якую трэба ведаць, берагчы і захоўваць.

…Кожны ручнік — сапраўдны твор народнага мастацтва, вытканы з любоўю, стараннем і імкненнем да прыгажосці. Не адвесці вачэй ад саматканага ручніка, якому больш як сотня гадоў. "Работа мучит, но кормит и учит. Злой не верит, что на свете добрые есть" — вышыла майстрыха на шэра-белым палатне. Так нашы продкі аддавалі даніну павагі працавітаму чалавеку са шчодрай і прыгожай душою.

Каб стварыць скарбонку ручнікоў, школьнікі пад кіраўніцтвам настаўніцы Вольгі Лысевіч завіталі ў навакольныя вёскі свайго раёна і суседніх — Ваўкавыскага і Пружанскага. Адкрылі шмат цікавага.

## Повязь роду

З году ў год вучні не толькі папаўняюць каштоўную калекцыю, але і даследуюць ручнікі. Іх цікавіць беларускае народнае мастацтва, асабліва ручнікоў ваўкавыска-пружанскага строю, вобразы-сімвалы на ручніках і г.д.

Вольга Аляксандраўна з веданнем справы распавядае пра ручнікі. Вось бытавыя, якія майстрыхі з вёскі Ханявічы назвалі *ўціральнікамі*. Ва ўсіх вёсках Свіслаччыны яны выглядалі аднатыпна: даўжыня — каля паўтара метра, вытканы палатняным, а часцей саржавым перапляценнем. Канцы калі-нікалі ўпрыгожваліся сціплымі палоскамі натыкання, а часцей аздабляліся карункамі.

У некаторых сем'ях вісеў на кухні *скарач* — ручнік, сшыты з двух палотнішчаў з доўгімі махрамі на канцах. У ім насілі абед у поле. У вёсцы Верашчакі выкарыстоўваліся надзежнікі — гэта палатняная



накрыўка для дзяжы. Яе таксама ўжывалі пры ўрачыстым паднашэнні хлеба-солі, каравая. Сімвалічная ідэя дабра найбольш ёміста ўвасоблена ў ручніках-абыдзённіках і аброчных (абракальных). Да звычаю іх калектыўнага вырабу — ад прадзення ніці і заканчэння ткацтва — звярталіся тады, калі трэба было адвесці ад вёскі бяду. Абыдзённы ручнік вывешвалі на драўляны крыж у пачатку ці на выездзе з вёскі.

*Набожнікі* прызначаліся для ўпрыгожвання абразоў. Рысы, уласцівыя ім на Свіслаччыне, характэрны і для ўсёй Беларусі. Гэта вызначаная дэкаратыўнасць, пэўная даўжыня.

Майстрыха Ніна Сухоцкая з вёскі Лаўрынавічы казала, што яе маці для такіх ручнікоў выкарыстоўвала спецыяльныя знакі — ромбы, крыжы, кругі.

Шырока ўжываліся ручнікі ў вясельнай абраднасці. Гэта *паднажнік*, на які станавіліся маладыя падчас вянчання. Ручніком перавязвалі сватоў, дарылі дружбантам і г.д. Звычайна да вяселля дзяўчына рыхтавала іх не менш як дзесяць.

Прымяняліся ручнікі і ў пахавальных абрадах і звычаях. Адна з такіх тканін — кавалак шэра-белага саматканага палатна з саржавым перапляценнем — набыта для школьнага музея ў вёсцы Студзенікі.

Такім чынам, ручнік у паўсядзённым жыцці і ў сакральныя моманты зносін з душамі продкаў рабіўся той бачнай повяззю, якая злучала два светы, дазваляла асобнаму чалавеку і ўсёй сям'і адчуваць еднасць з родам.

У даследчай дзейнасці значнае месца адведзена аздабленню ручнікоў Свіслаччыны. Спосабы выканання беларускай народнай вышыўкі самабытныя і даволі разнастайныя. Большасць выканана наборам або гладдзю, крыжыкам. Ёсць яшчэ група дапаможных швоў — "уперад іголку", сцяблістае шво. Майстрыха Валянціна Свістун для школьнага музея прапанавала саматканы льняны ручнік, аздоблены тамбурным швом. У вёсцы Падчарнейкі ёсць ручнікі са шматтонавай гладдзю. Добра прадстаўлены ў музеі пераборныя ручнікі. А якія цікавыя каларыстычныя спалучэнні, разнастайны арнамент, незвычайная вытанчанасць і дробнасць ткацкага малюнка!

Навукова-даследчая работа корнадзьскіх школьнікаў з арыгінальнымі праектамі — сапраўдная творчая лабараторыя. Велізарны пласт народнага мастацтва.

## «І збіраем, і ствараем»

— Акрамя таго, што мы збіраем экспанаты і займаемся навукова-даследчай працай, яшчэ спрабуем атрыманыя звесткі скарыстоўваць на практыцы: мы ствараем ручнікі, — зазначыла Вольга Лысевіч. — Для нашай мясцовасці характэрны белыя ручнікі, якія мы вышываем. Узровень работ даволі высокі, юныя майстры валодаюць усімі тэхнікамі вышыўкі.

На базе школы працуе міжшкольны факультатыў, які наведваюць вучні Навадворскай і Ханявіцкай школ. Ды і ручнікі самой Вольгі Аляксандраўны неаднойчы мелі поспех на розных конкурсах, абласных і рэспубліканскіх выстаўках.

Дзеці вышываюць не толькі ручнікі, а і пано з элементамі пейзажу і вершамі беларускіх паэтаў, скарыстоўваючы шво "назад іголку". А яшчэ ў гуртку "Народныя промыслы", якім кіруе Вольга Аляксандраўна, знаёмяцца з дасягненнямі нацыянальнай культуры, распрацоўваюць арыгінальныя сувеніры, вучацца спалучаць традыцыйныя беларускія тэхнікі з новымі, такімі, як квілінг, фігуркі з салёнага цеста і інш.

Вось так беларускі ручнік абудзіў у звычайнай вясковай школе цікавасць да культуры і спадчыны свайго народа.

***На здымках: экспанаты музея ручнікоў у Корнадзьскай школе; Вольга Лысевіч са сваім творам — вышываным ручніком.***

## Афарызм

*…роднай нівы я мільённая часціна…*

**Янка КУПАЛА**

## З глыбінкі

# Гістарычныя экспанаты

Рэалізацыяй праекта "Кніга: духоўная і гістарычная спадчына Драгічыншчыны" пачаўся гэты год у СШ № 1 г. Драгічына. Настаўнікам гісторыі, краязнаўцам Сяргеем Валасюком, яго калегамі і вучнямі падрыхтавана выстаўка дакументальнай, мастацкай і духоўнай літаратуры, дзе, нібыта ў люстэрку, бачная гісторыя нашага грамадства ад старажытнасці і па сёння.

З часоў студэнцтва на працягу многіх гадоў займаецца Сяргей Валасюк пошукам рэдкіх кніжных выданняў. Асабістая калекцыя, дапоўненая кнігамі са школьнай і цэнтральнай раённай бібліятэк, і стала асновай выстаўкі.

— Тут, напрыклад, можна пабачыць тамы з кнігазбору Элізы Ажэшкі, якія мне перадала ўдава настаўніка Станіслава Магера. Пры Польшчы Магер настаўнічаў у Антопалі і працаваў дырэктарам Попінскай школы, — распавядае Сяргей Пятровіч. — Пры падрыхтоўцы выстаўкі аказалася праблематычным знайсці кнігу Леаніда Брэжнева "Цаліна" нават у бібліятэках: выданне спісанае і накіраванае ў макулатуру. Аналагічна ў 1970-я гады рабілі і з працамі Сталіна. Між тым гэтыя кнігі, як і многія іншыя, надта цікавыя для нашчадкаў у якасці гістарычнага матэрыялу.

Экспазіцыя пачынаецца копіямі старонак Тураўскага Евангелля XI стагоддзя. Прыкыцёвым выданнем кнігі Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш" і "Патрыятызм і касмапалітызм" Элізы Ажэшкі, выданнем твораў В. Бялінскага 1863 года і многімі іншымі рарытэтнымі кнігамі прадстаўлена XIX стагоддзе. У экспазіцыі сабраны творы класікаў беларускай, рускай і замежнай літаратур, падручнікі розных гадоў, працы палітыкаў, военачальнікаў, а таксама рэлігійныя выданні.

**Ніна ТКАЧУК, г. Драгічын**

# Чатыры гадзіны для лебедзя

Нельга не вылучыць вокам балкон Ганны Сергіевіч, калі праязджаеш па цэнтральнай вуліцы Маларыты. Тут заўжды гаспадараць кветкі, а між імі часам праглядае і казачны гном. Падымаючыся па лесвіцы да яе кватэры, міжволі захапляешся прыгожымі вялікімі лебедзямі, намаляванымі на сценах. Гэта яе малюнкі. Ганна Фёдараўна з тых жанчын, якія жывуць, ствараючы вакол сябе прыгажосць. І многае з таго, што ўражвае гасцей, зроблена ўласнымі рукамі. Са звычайнай паперы.

— Ніколі не думала, што пачну гэтым займацца. Паводле адукацыі я швачка. Але два гады таму трапіла ў шпіталь, пазнаёмілася з жанчынай, якая з паперы рабіла лебедзяў, і захапілася, — расказвае Ганна Фёдараўна.

Спачатку з'явіліся маленькія лебедзі са звычайнай белай паперы. Пасля — вялікія грацыёзныя птушкі, на якіх Ганна Фёдараўна патрацiла два рулоны шпалер і чатыры гадзіны часу. Такіх лебедзяў усё часцей замаўляюць ёй да вяселляў. А сёння кватэру Ганны Фёдараўны ўпрыгожваюць і паўліны, і кветкі, і вазы, і кактусы… з паперы.

— Нядаўна сястра святкавала юбілей, і я пякла для яе торт, — расказвае майстрыха. — Раптам падумала: а можа, ёй торт з паперы зрабіць? Так і падарыла два торты. Нават і не ведаю, які ёй больш спадабаўся.

**Настасся МАКСІМУК, г. Маларыта**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў
Наклад — 2868
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 02.02.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 510
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12